Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

№ 2
ЛЮТЫ



МЕНСК — 1928

**А. Сянкевіч**

# Да пытаньня аб уцягненьні мас у барацьбу з бюрократызмам і цяганінай

„Барацьба з бюрократызмам стаяла, стаіць і яшчэ доўга будзе стаяць у нас у парадку дня, як адна з важнейшых задач пралятарскай партыі" [1]. Мы ня здолеем у хуткім часе пазбыцца хвараблівых зьявішч нашага бюрократычнага апарату таму, што карэньні бюрократызму глыбока ляжаць у нашай культурнай адсталасьці, у тэй культурнай няроўнасьці, якая ў нас яшчэ назіраецца. Урэшце, як справядліва кажа т. Бухарын, уся справа ўскладняецца „наяўнасьцю ў *найвысшай* ступені распыленай і раздробленай дробнабуржуазнай сялянскай працы, бо як казаў Ленін, распыленасьць унізе вядзе да гіпэртрафіі, разбуханьня „апарату ўверсе".

Адгэтуль зразумела, што ў той час, калі мы пакончым з нашай культурнай адсталасьцю, у той час, калі мы распыленыя сялянскія гаспадаркі аб'яднаем у буйныя калектывы—пытаньне бюрократызму і барацьбы з ім адпадзе само сабою. Тады не патрэбны будуць спэцы, бо ня будзе розьніцы паміж работнікамі фізычнай і інтэлектуальнай працы, тады кожны рабочы, а ня толькі *некаторыя* рабочыя здоляюць кіраваць фабрыкай ці прадпрыемствам.

Але падымаючы культурны ўзровень працоўных мас, вядучы працу па калектывізацыі вёскі, мы не павінны забываць і таго, каб штодзённа весьці барацьбу з балячкамі, з хвараблівымі бакамі ў працы нашых дзяржаўных і гаспадарчых апаратаў.

Гэтая барацьба можа даць вынікі толькі тады, калі ў яе будуць уцягнуты самыя шырокія масы рабочых і сялян. Паглядзім, ці маем мы на справе фактычнае ўцягненьне мас у гэтую барацьбу, ці здолелі мы належным чынам мабілізаваць увагу працоўных да гэтай справы.

Трэба сказаць, што як партыйнымі, так і прафэсыянальнымі арганізацыямі тое-сёе зроблена, але рабочых і сялянскіх мас мы, як належыць, не раскачалі, грамадзкай думкі да ўсіх гэтых пытаньняў не мабілізавалі.

Вопыт апошняй кампаніі хлебазагатовак і г. д. паказаў, што нашыя як савецкія, так і гандлёвыя апараты, зьяўляюцца ў значнай меры закасьцянелымі, ня гібкімі, што ў большасьці ў працаўнікоў гэтых апаратаў адсутнічае ініцыятыва, няма адказнасьці за даручаную справу, што іх заядае фармалізм, мэханічнае інструктаваньне і такое-ж мэханічнае выкананьне; часта жывая праца замяняецца бюрократычным адміністраваньнем.

Ня лепш стаіць справа з цяганінай. Прыклады гэтай цяганіны мы штодзённа спатыкаем на старонках нашай прэсы.

---

[1]) Н. Бухарын. Культурныя задачы і барацьба з бюрократызмам. „Равалюцыя і Культура" № 2.

Дзе-ж трэба шукаць спосабаў і сродкаў для барацьбы з бюрократызмам і цяганінай. Вядома, што праца, праведзеная ЦКК РСІ па скарачэньню дзяржаўных і гаспадарчых апаратаў, па пераводзе іх на функцыянальную сыстэму, па іх рацыяналізацыі, дала ўжо вялікія вынікі, але гэтая праца ўсё-ж не выкарчавала балячак бюрократызму. Праца ЦКК РСІ можа плынна ісьці пры шырокім удзеле рабочых і сялянскіх мас і на гэтае нам трэба зьвярнуць асноўную ўвагу.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК па пытаньню аб спрашчэньні дзяржаўнага апарату і барацьбе з бюрократызмам канстантаваў „невыстарчальную актыўнасьць партыйных арганізацый на мясцох, слабую іх працу і кіраўніцтва ў справе спрашчэньня дзяржаўнага апарату і палепшаньня яго, у справе барацьбы з цяганінай і бюрократызмам. Пленум указвае на неабходнасьць узмацненьня ўвагі і кіраўніцтва да канкрэтнай пастаноўкі пытаньняў гэтай працы на мясцох і неабходнасьць мабілізацыі грамадзкай думкі праз друк, рабселькораўскія арганізацыі, масавыя конфэрэнцыі, рабочыя сходы і г. п.“. Гэтая пастанова пленума зьяўляецца актуальнай і на сёньня.

Што-ж трэба рабіць каб сапраўды ўцягнуць масы ў барацьбу з бюрократызмам і сапраўды мабілізаваць думку рабочых і сялянскіх мас на гэтай справе?

Для гэтага патрэбна, каб партарганізацыі зьвярнулі больш увагі на канкрэтную пастаноўку пытаньняў барацьбы з бюрократызмам і цяганінай. На адкрытых сходах ячэек, на масавых сходах рабочых, трэба гаварыць не наогул аб бюрократызьме, а аб канкрэтных балячках данай установы або прадпрыемства.

У дакладзе т. Сталіна XV зьезду было падкрэсьлена, што ў нас яшчэ многа кумаўства, местніцтва, арцельнасьці, што ў нас не выкрываюць балячак апарату, „бо гэта сямейная“ справа, „на што выносіць сьмецьце з хаты“. Усім гэтым зьявішчам мясцовымі партарганізацыямі і нашай прэсай павінна быць абвешчана рашучая барацьба. Мы павінны таксама змагацца і з некрытычнымі адносінамі да таго, што робіцца ў нашых органах і ўстановах, змагацца з тымі людзьмі, якія прывыклі „плыць па цячэньню“.

Трэба адзначыць што самаправеркай, самакрытыкай нашы ўстановы і іх кіраўнікі мала займаюцца. Праверка працы па ўласнай ініцыятыве зьяўляецца пакуль што рэдкім зьявішчам.

Разам з усім гэтым трэба памятаць, што найлепшым лякарствам супроць акасьцяненьня апарату зьяўляецца яго пэрыодычнае абнаўленьне шляхам масавага вылучэньня рабочых і сялян.

Поруч з гэтым па лініі саветаў трэба паўзяць крокі да ўтварэньня рабочага і сялянскага актыву вакол саветаў, і асабліва іх сэкцый і камісій.

Трэба больш шырака прыцягваць да працы ў сэкцыях і камісіях апроч выбраных членаў савету таксама рабочых ад станка, дэлегатак жанчын і камсамольцаў. Вопыт стварэньня такога актыву вакол саветаў дае нам Масква і Ленінград, гэты вопыт трэба вывучыць і правясьці ў нас.

Другі спосаб уцягненьня мас—гэта праз плянамерную справаздачнасьць саветаў ня толькі перадвыбарчай кампаніяй, але і ў працэсе бягучай працы.

Мы маем ужо прыклады з добрымі вынікамі такой-жа справаздачнасьці паасобных савецкіх і грамадзкіх устаноў, перад тым працоўным насельніцтвам, якое гэтымі ўстановамі абслугоўваецца. Справаздача такой установы як ЦРК, прычым справаздача перад рабочымі, робіцца ня толькі кіраўнікамі гэтай арганізацыі, але і іншымі працаўнікамі апарату

аж да працаўнікоў прылаўка,—прынясла-б ня малую карысьць. Такую справаздачнасьць варта практыкаваць такім установам як страхкаса, цэнтральная рабочая амбуляторыя, розныя аддзелы Гарсавету—як камхоз, аддзел працы, аддзел асьветы, некаторыя трэсты і г. д. На вёсцы такую справаздачу на сходзе сельсавету або ў паасобных насялённых пунктах павінны рабіць земаддзелы райвыканкомаў, аддзелы асьветы, міліцыя, суд, бальніца або ўрач і г. д.

Усе заўвагі, указаньні на недахопы ў працы, практычныя прапановы павінны брацца на ўчот мясцовай ячэйкай і адпаведнымі органамі ў мэтах унікненьня недахопаў, у мэтах палепшаньня працы ўстановы, апарату.

Зразумела, што такая праца вядзецца, але гэта робіцца выпадкова і ня ўсюды, а такія справаздачы трэба ўвясьці ў сыстэму, а галоўнае не абмяжоўвацца справаздачай галавы ўстановы—увесь апарат масавага абслугоўваньня, усе працаўнікі павінны ўзяць удзел у справаздачы—гэта павялічыць адказнасьць за справу ня толькі кіраўніка ўстановы, але і шэраговых працаўнікоў.

У правадзімай прафсаюзамі культасьветнай працы сярод рабочых павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на неабходнасьць іх актыўнага ўдзелу ў справе барацьбы з бюрократызмам. Шляхам лекцый, дакладаў, гутарак, гэтае пытаньне трэба папулярызаваць, больш таго, рабочаму трэба растлумачыць, паказаць спосабы барацьбы з бюрократызмам.

Найвялікшую роль у барацьбе з бюрократызмам грае наша прэса. Да недахопаў, якія назіраюцца ў асьвятленьні друкам гэтай справы трэба аднесьці слабую барацьбу з конкрэтнымі „насіцелямі зла“. Усіх злыдняў і злосных бюрократаў трэба браць за вушка ды на сонейка.

Здараецца ўхіл у асьвятленьне цёмных і толькі цёмных, ценявых бакоў нашага апарату. Мы хутчэй дасягнём вынікаў у барацьбе з бюрократызмам, калі поруч з выяўленьнем хвараблівых зьявішч, будзем даваць і ўзоры здаровай, дзелавой працы нашых апаратаў, поруч з недахопамі будзем высьвятляць і дасягненьні. Ёсьць адна прыкрая рэч, з якою даводзіцца змагацца нашым газэтам—гэта цяганіна, якая падчас назіраецца пры дасьледаваньні як надрукаваных, так і недрукаваных рабселькораўскіх матар'ялаў. Органам КК РСІ і пракуратуры трэба ўскорыць працэс дасьледваньня і сачыць за тым, каб дасьледваньні, якія праводзяцца іншымі органамі, закончваліся ў найбольш кароткі тэрмін. Часта здараецца, што ня гледзячы на выкрыцьцё недахопаў установа, якой гэта датычыцца а ні ў вус, як кажуць, ня дуе. Тут ужо справа ячэйкі, або мясцкому сачыць за тым, каб усе выкрытыя ў прэсе і іншым шляхам недахопы зьнішчаліся, а карысныя прапановы праводзіліся ў жыцьцё. Мы павінны пакончыць з тым зьявішчам, калі рабкор папісывае, а гаспадарнік пачытвае (здараецца, што і зусім ня чытае).

На прадпрыемствах і ва ўстановах большую ўвагу барацьбе з бюрократызмам, валакітай, павінны аддаць насьценныя газэты—гэтае пытаньне павінна займаць у іх цэнтральнае месца.

Толькі тады, калі мы ў барацьбу з бюрократызмам і—за рэжым эканоміі ўцягнем шырачэйшыя масы, калі будзе адчувацца напор гэтых мас на бюрократычны апарат, калі масы пасьля правядзеньня выхаваўчай працы пачнуць самі праяўляць ініцыятыву ў гэтых пытаньнях, толькі тады мы можам чакаць добрых вынікаў у вырашэньні тэй вялізарнай задачы, якая пастаўлена нашай партыяй.

---

**С. Б. Традыцыя**

# Па сьлядох Раманавых

*(Да судовай расправы польскага фашызму над Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадой)*

## I

Цяжкая калясьніца імпэрыялістычнай вайны разбурыла Заходнюю Беларусь, зруйнавала яе гаспадарку і выкінуўшы сотні тысяч сялян з наседжаных месц, прымусіла іх бяссэнсоўна гінуць у акопах, або бадзяцца па бязбрэжных абшарах Расеі. Але гэтая-ж вайна пераплавіла ў сваім горне сонную, пакорлівую, зацкаваную беларускую вёску. Беларускі селянін, апрануты ў царскую шынэль, або ў рубішча ўцякача, навочна пераканаўся, што грамадзкі парадак, пры якім ён працаваў, а пан ёў—ён атрымоўваў пінкі, а пан іх даваў—справа рук чалавецкіх—а зусім ня вынік боскасьці; што сілы, якія стаяць на абароне гэтага парадку, далёка не такія магутныя і неперыможныя, як гэта яму раней здавалася. Вайсковыя паражэньні царскага рэжыму моцна пахісталі ў вачох беларускага селяніна аўтарытэт тэй хітрай сыстэмы, якая стаяла на варце памешчыцкіх маёнткаў і забясьпечвала эксплёатацыю працоўных. Тое, што пачала вайна закончыла сакавіковая (лютаўская) рэвалюцыя. Кастрычнікавая-ж, пралятарская рэвалюцыя, паказала яму адзіны шлях да перабудаваньня грамадзкага парадку на новы лад, пры якім уся зямля і воля знаходзяцца ў руках працоўных.

Вайна і рэвалюцыя выпраставала сьпіну пакорліваму, забітаму беларускаму селяніну. Ён урэшце пасьмеў ня толькі ў песьнях марыць аб панскай зямлі, аб зьнішчэньні панскага ўціску і эксплёатацыі, але асьмеліўся пажадаць безадкладна, уласнай рукой узяць гэтую зямлю ў памешчыка, зьнішчыць уціск і эксплёатацыю. Побач з гэтым беларускі селянін з гонарам пачаў лічыць сваю „мужыцкую“ мову—моваю роўнацэннай, мове паноў: польскай ці расейскай, ён пачаў у масе набываць сьвядомасьць сваёй асабістай і нацыянальнай вартасьці. З гэтага моманту беларускі нацыянальна-адраджэнчы рух, які быў замкнуты да гэтага часу ў рамках інтэлігэнцкіх худасочных пачынаньняў, чужацкі жыцьцёвым інтарэсам і запатрабаваньням шырокіх народных гушчаў набыў грунт, на якім ён мог даць буйныя рэвалюцыйныя ўсходы і стаць, дзякуючы гэтаму фактарам гістарычнага разьвіцьця Заходняй Беларусі.

Да вайны і кастрычнікавага перавароту ў Расеі элемэнты пралятарскай рэвалюцыі мелі даволі вузкую грамадзкую аснову на землях сучаснай Заходняй Беларусі.

Гэтая аснова абмяжоўвалася нязначным па колькасьці пластом прамысловага пралетарыяту, які быў згрупаваны ў некалькіх прамысловых цэнтрах Заходняй Беларусі (Беласток, Гора ня, Вільня). Пры ўсякай спробе пашырыць сацыяльныя асновы рэвалюцыі на тэрыторыі

сучаснай Зах. Беларусі яны ўпіраліся ў сьціслае дробна-буржуазнае абкружэньне, якое зьяўлялася спагадным асяродзьдзем для ўсялякіх дробнабуржуазных, бунтарска-анархісцкіх ці адкрыта апартуністычных, нацыяналістычных і рэакцыйных плыняў;—пры спробах-жа пашырыць сваю працу на вёсцы, яны сутыкнуліся з глухім маўчаньнем і недавер'ем сялян. Пасьля вайны і Кастрычнікавай рэвалюцыі, гэтыя элементы, якія аформіліся пад непасрэдным уэьдзеяньнем бальшавікоў у камуністычную партыю, знайшлі надзвычайна спрыяючы грунт у вёсцы,—знашлі ў асобе беднаты і серадняка падрыхтаванага саюзьніка для супольнай, з пралетарыятам і пад яго кіраўніцтвам, рэвалюцыйнай барацьбы супроць эксплёатацыі і ўціску буржуазіі, памешчыкаў і акупанцкай бюракратыі.

## II

Заняпад эканамічнага жыцьця, пасьляваенная разруха, аб якой дае некаторае ўяўленьне колькасьць уцякачоў—звыш 500 тысяч чалавек,—якія зьвярнуліся на старыя папелішчы літаральна голымі—стварылі грунт для глыбокага рэвалюцыйнага бражэньня сярод шырокіх мас беларускага сялянства. Палітыка польскага акупацыйнага ўраду ў галіне аднаўленьня гаспадаркі краю надавала гэтаму бражэньню вялізную напруджанасьць і надзвычайна абвастрала яго. У той час, як будавальны лес і грошы шчодра выдаваліся ўрадам на аднаўленьне маёнткаў шляхты, беларускі селянін прымушаны быў аставацца жыць у зямлянках і ў старых нямецкіх акопах. Імкнучыся як мага хутчэй рэалізаваць выгады акупаваньня Зах. Беларусі, польская акупацыйная ўлада са ўсяе моцы садзейнічала паскоранаму аднаўленьню выключна польскай абшарніцкай гаспадаркі краю. У гэтай галіне польскім уладам удалося дасягнуць значных вынікаў за кошт непамернага разбурэньня асноўнай масы сялянства, за кошт вялізарнага падатковага націску, за кошт вялізарнага ўзмацненьня эксплёатацыі сялянскіх мас памешчыкамі. Зразумела, гэтыя мэтады „аднаўленьня гаспадаркі краю“ не маглі не абвастрыць нездаваленьня беларускага селяніна, які голадам, нэндзай і разбурэньнем плаціў за дабрабыт і шпаркае ўзбагачэньне заможных клясаў і акупантаў, тым больш, што гэты селянін бачыў зусім іншы малюнак за савецкай мяжой. Зямля ў Савецкай Беларусі належала сялянству, дабрабыт яго рос і рабіўся больш трывалым, няўхільна, у той час, калі ў Зах. Беларусі вялізная колькасьць зямлі знаходзілася ў руках маламіковага пласта зямельных магнатаў і памешчыкаў і служыла прыладай заняволеньня і эксплёатацыі сялянства.

У Заходняй Беларусі[1]) з агульнай колькасьці 4.654.155 гэктараў зямлі—3.745 буйным гаспадаркам належыць 1.874.386 гэктараў,—17.359 кулацкім гаспадаркам (ад 20—50 гэктараў) належыць 485.912 гэктараў, і ўрэшце 383.796 бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам належыць 2.293.857 гэктараў. У процантах атрымоўваюцца наступныя суадносіны 0,91% (у адносінах да агульнага ліку гаспадарак) буйных памешчыцкіх гаспадарак уладаюць—40,5% усяе зямлі; 4,3% кулацкіх гаспадарак уладаюць 10,3% усяе зямлі, а 94,79% бядняцкіх, серадняцкіх і заможных гаспадарак уладаюць толькі 49,1% усяе зямельнай плошчы. Гэтыя даныя атрымаюць яшчэ большую выразнасьць, калі мы з агульнай колькасьці бядняцкіх, серадняцкіх і заможных гаспадарак вылучым гаспадаркі беззямельныя і малазямельныя, якім надзел не дае магчымасьці пражыць на сваёй гаспадарцы. Беззямельныя і малазямельныя (0-10 гэктараў)

1) Карыстаемся данымі перапісу 1921 г. Даныя прыводзім па трох ваяводзтвам. Навагрудзкае, Беластоцкае і Віленска (толькі ў чатырох паветах адбыўся перапіс): Атрыманыя лічбы, аднак, верна характарызуюць агульнае становішча пытаньня.

гаспадаркі складаюць 44,4°/₀ агульнай колькасьці гаспадарак, а зямлі ў іх 10,6°/₀ агульнай колькасьці. Калі на адну буйную гаспадарку (памешчыцкую) прыпадае звыш 500 гэктараў, а на кулацкую звыш 28 гэктараў, то ў беззямельнай і малазямельнай групе на адну гаспадарку 2,7°/₀ гэктара. Вось дзе крыніца беспрасьветнай нэндзы, вялізнай масы сялянства—вось дзе вялікая крыніца эксплёатацыі і нажывы памешчыка і кулака.

Да вайны, частка беззямельных і малазямельных сялян знаходзіла некаторую палёгку ў цяжкім становішчы ва ўходзе на адхожыя промыслы, у эміграцыю з беларускай вёскі ў расейскія фабрычна-заводзкія цэнтры, або ў Амэрыку. Вайна, таксама, як і пасьляваенныя межы, зьнішчылі гэтую магчымасьць, сялянства Зах. Бел. аказалася ў немагчыма цяжкім становішчы, з якога выйсьцем можа быць толькі аграрная рэвалюцыя.

Гэтая цяжкае становішча сялянства Зах. Беларусі, якое штурхае яго на заядлую барацьбу з памешчыкамі і акупанцкай уладай ня было таемніцай ні для кога, а ў першую чаргу для памешчыкаў. „Слово" орган польскіх памешчыкаў Зах. Беларусі у № ад 11 лютага 1927 г. піша наступныя словы, узятыя з лісту свайго чытача, віленскага памешчыка:

> „Будзем гаварыць адкрыта: матар'яльнае становішча беларускага мужыка ў параўнаньні з даваенным часам значна пагоршылася. Я не кажу тут аб павялічэньні колькасьці едакоў на кожны гэктар надзельнай зямлі, я ўкажу толькі на тое, што да вайны Амэрыка і Расея з яе нязьлічанымі багацьцямі, былі адкрытымі перад беларусамі... Сёньня работы ў нас няма, выезд у Амэрыку і ў Расею немагчымы... Я сьцьвярджаю, што ў павеце, дзе я жыву (Віленскі) сёньня (студзень 1927 г.-С. Б. Тр.) ужо адна трэцяя частка гаспадароў, з-за адсутнасьці хлеба спажывае толькі бульбу, у паўночных-жа паветах Віленшчыны няма ўжо зусім хлеба, адначасова няма ніякіх заработкаў. Існуе, значыцца, безнадзейны голад, які можа штурхнуць кожнага ў абдымкі бандытызму (чытай рэвалюцыі С. Б. Тр.) і да змовы з бальшавікамі".

У тым-жа самым нумары памешчыцкага органу чытаем наступныя палемічныя словы па адрасу польскіх „дэмакратаў", якія ў адшуканьні карэньняў, якія давалі грунт і сокі Грамадзе, знайшлі пяць розных крыніц яе нагэтулькі шпаркага разьвіцьця. „Слово" дадае да іх яшчэ шостую крыніцу, незаўважаную польскімі „дэмакратамі", але вырашаючую: гэтай крыніцай зьяўляецца „найбольш колькасная група насельніцтва Зах. Бел., а менавіта *галадуючых беларусоў*, пры чым, галадуючых не выключна ў гэтым годзе, але хранічна ўжо больш трох год.

Вось умовы, у якіх вырастаў і рэвалюцыйна афармляўся селянін Заходняе Беларусі пасьля вайны і пралятарскай рэвалюцыі ў Расеі, якая за савецка-польскай гранічнай мяжой, устаноўленай Рыскай умовай, дала яго брату—савецкаму беларускаму селяніну зямлю, свабоду і штурхнула яго наперад да гаспадарчага росквіту.

## III

Аднак, становішча беларускага селяніна ў Заходняй Беларусі ня было-бы намі з патрэбнай поўнасьцю ахарактарызавана, калі-б мы не зьвярнулі ўвагу на нацыянальнае пытаньне. Бо ў Зах. Беларусі сялянскае пытаньне самым цесным чынам пераплятаецца з пытаньнем нацыянальным. Аб Зах. Беларусі можна з поўным правам сказаць, што нацыянальнае пытаньне—гэта пытаньне сялянскае, бо 40°/₀ зямлі, якая нале-

жыць памешчыкам Зах. Беларусі, належыць у сапраўднасьці *польскім* або з прадвеку палёнізаваным памешчыкам, якія сярод буйных зямельных уласьнікаў складаюць 90%. Пры чым самыя буйныя лятыфундыі (маёнткі), якія налічваюць дзесяткі тысяч гэктараў ральлі і сотні тысяч гэктараў лясоў належаць выключна польскім зямельным магнатам. Значыцца, у Заходняй Беларусі барацьба селяніна за зямлю гэта барацьба *беларускага* селяніна супроць *польскага* памешчыка.

Акупацыйная польская ўлада ўлічыла небясьпеку, якая выплывае з такога перапляценьня нацыянальных і сацыяльных момантаў у Зах. Беларусі. Яна з першага моманту акупацыі зьвяртала вялізную ўвагу пытаньню зьмены гэтага становішча. Польскі ўрад не шкадаваў сродкаў, каб насадзіць побач з буйным польскім земляўласьнікам сярэдняе, кулацкае і моцнае сялянска-серадняцкае *польскае* земляўладаньне ў Зах. Беларусі шляхам разданьня казённых зямель і зямель загінуўшых бяз вестunion ўласьнікаў (беларускіх сялян уцякачоў), у рукі так званых асаднікаў. Гэта была спроба скарыстаць практыку царскай, казацкай каленізацыі, бо асаднікі,—гэта выключна былыя жаўнеры польскай арміі, з атрадаў, якія праславіліся шавінізмам і адданасьцю польскай буржуазіі. Асаднікі пасяляліся групамі, пры чым яны захоўвалі вайсковы строй і вайсковую іерархію. Паміж імі былі буйныя зямельныя ўласьнікі—афіцэры, і дробныя зямельныя ўласьнікі—сяляне жаўнеры. Усе яны былі ўзброены карабінамі, халоднай зброяй і нават кулямётамі. Асаднікі ня толькі зьмяншалі зямельны фонд карэннага насельніцтва Зах. Беларусі, але яны адначасова вялі на сваіх абрэзках зямлі ў шмат выпадках (афіцэры пагалоўна) драпежніцкую эксплёатацыю абкружаючага беззямельнага і малазямельнага сялянства. Зразумела, гэтая спроба ўраду ўзмацніць польскі элемэнт у Заходняй Беларусі, пашырыць „грамадзкую базу польскасьці на крэсах" надзвычайна абвастрала рэвалюцыйнае бражэньне сярод сялян Зах. Беларусі і распальвала ненавісьць іх супроць акупантаў.

З пачатку польскія памешчыкі, а з імі разам акупацыйная ўлада адмаўлялі наогул існаваньне беларускай нацыянальнай праблемы. Беларускі адраджэнчы рух уяўляўся імі, проста, як група адарваных ад жыцьця і ад шырокіх народных мас інтэлігентаў не знаходзіўшых заробку. Па думцы памешчыкаў, ніякай беларускай нацыі не існавала, а была толькі сялянская маса, якая гаворыць на асобным дыялекце, даволі папсаваным русыфікатарамі пад час царскай акупацыі. Памешчыкі з пытаньнем аб нацыянальнай сьвядомасьці беларускага сялянства паступалі вельмі проста. У аднэй карэспандэнцыі, зьмешчанай у „Слове" ў сярэдзіне 1926 г. нейкі польскі „зубр"—„крэсовы" памешчык скардзіцца, што гурткі Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ствараліся штучна самой шляхтай, якая адносілася нядбайна да працы „платных агітатараў Савецкай Беларусі". Ніякіх карэньняў па думцы гэтага зубра для працы Грамады ў беларускім сялянстве ня мелася. У доказ чаго гэты зубр прыводзіць сваю размову з сялянамі суседняе з яго маёнткам вёскі, якія, быццам-бы зьвярнуліся да яго з запытаньнем: „Скажэце нам, пане, што гэта цяпер за выдумкі пайшлі. Даўней было так: паны былі панамі, а мы, дык былі сабе мужыкі, а цяпер нам кажуць, што мы ўжо ня мужыкі, а нейкія белабрусы"... Тупагаловы памешчык ад гэтага запытаньня хітрых і сабе „на ўме" мужычкоў заключаў, што ў сялянскім лексіконе нават слова „беларус" ня было, значыцца, гэта ўсё работа бальшавіцкіх агентаў. Другі зубр у тэй-жа газэце піша па адрасу дробна-буржазных нацыянал-дэмакратычных дзеячоў Зах. Беларусі:

> „Як вы, так і мы, добра ведаем усё, *што ніякай Беларусі ніколі не існавала, ня існуе і ня будзе існаваць, што* можа існаваць толькі, або Польшча, або... Расея".

Выходзячы з гэтых поглядаў на беларускую нацыянальную праблему польскія зубры ў Зах. Беларусі па свойму падыходзілі да пытаньня аб вырашэньні нацыянальнай проблемы ў Зах. Беларусі. Яны адкрыта заяўлялі на старонках таго-ж „Слова“, што становішча Польшчы з пункту гледжаньня яе нацыянальнага складу аналёгічна становішчу царскай імпэрыі Раманавых:

> „Наша становішча адпавядае прыблізна ўмовам Расейскай дзяржавы. Мы маем больш 50% жыхароў аднэй нацыянальнасьці, ад якіх польская дзяржава бярэ сваё імя, але мы таксама маем каля 40% нацыянальных меншасьцяй і гэты факт можа зьмяніць пры тым, зьмяніць не да лепшага, а да горшага становішча нашай дзяржавы, можа садзеннічаць не пашырэньню, але зьменшэньню нашай дзяржаўнай тэрыторыі“.

З гэтай ацэнкі орган польскіх памешчыкаў у Зах. Беларусі рабіў вывад, што Польшча павінна „весьці адпаведную палітыку“, якая зразумела, павінна садзейнічаць не натуральнаму зьменшэньню тэрыторыі польскай дзяржавы да этнаграфічных межаў, а наадварот, пашырэньню гэтых межаў шляхам новых захопаў і заняволеньня новых народаў. Зразумела, такая палітыка зьяўляецца палітыкай экстэрмінацыйнай, палітыкай гвалтоўнай дэнацыяналізацыі і палёнізацыі насельніцтва акупаваных краін. Гэтую палітыку і праводзіла акупацыйная ўлада, якая і па свайму сацыяльнаму складу і па сваім палітычным імкненьням была косьцю ад косьці польскіх памешчыкаў у Зах. Беларусі. Беларускія школы, якія пачалі ўзьнікаць ужо пад час нямецкай акупацыі і дасягнулі вялікага росквіту у пэрыяд каротка-часовага існаваньня Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі ў 1919 годзе былі зруйнаваны ўшчэнт. У галіне школьнай справы ў Зах. Беларусі паўтараліся малюнкі, якія мелі месца ў адносінах да польскай школы пад час Апухціна і інш. мракобесаў царскага рэжыму, заядлых русыфікатараў. Але польскія каты пашлі далей ня толькі Апухціных, яны здолелі пайсьці далей і зьверскіх гэрманізатараў, якія, як гэта было ў м. Вжэсьні, Пазнанскай правінцыі ў 1908 годзе, шпіцрутэнамі зьбівалі да крыві польскіх дзяцей за тое, што яны не хацелі чытаць малітвы ў нямецкай мове.

IV

У гэткіх умовах узьнік і ўмацаваўся шырокі рэвалюцыйны сялянскі рух у Зах. Беларусі.

Спачатку, пакуль камуністычнай партыі Зах. Беларусі не ўдалося зьвязацца з шырокімі сялянскімі масамі, пакуль камуністычнай партыі Зах. Беларусі не удалося увесьці гэтага руху ў рэчышча арганізаванай барацьбы пагоджанай з разьвіцьцём рэвалюцыйнага руху пралетарыяту гораду і вёскі, ня толькі Заходняй Беларусі, але і ўсяе Польшчы, сялянскі рух адбываўся навальна і непагоджана пераважна ў форме партызанскіх выступленьняў, асобных, спонтанічных выбухаў, стыхійнага адмаўленьня ад платы падаткаў і г. д. і г. д.

Камуністычная партыя Зах. Беларусі пад кіраўніцтвам і ў цеснай сувязі з камуністычнай партыяй Польшчы кінула лепшыя свае сілы на арганізацыйнае ахапленьне гэтага стыхійнага сялянскага руху. Ёй удалося ўвесьці стыхійны сялянскі рух у рэчышча сьвядомай, накіраванай да пэўнай мэты, арганізаванай барацьбы, увязаць барацьбу сялянства Зах. Беларусі супроць памешчыкаў і нацыянальнага ўціску акупантаў з барацьбой усіх працоўных Зах. Беларусі пад кіраўніцтвам пралетарыяту і яго партыі. Камуністычнай партыі ўдалося ўкараніць у сьвядомасьць шырокіх сялянскіх мас разуменьне ўсяе важнасьці саюзу рабочых і сялян,

усяго значэньня пралятарскага кіраўніцтва рэвалюцыйным рухам усіх працоўных, усяе неабходнасьці для перамогі пагоджаных выступленьняў сялянскіх мас Зах. Беларусі ня толькі з пралетарыятам Зах. Беларусі, але, што важней, з пралетарыятам і ідучым пад яго кіраўніцтвам сялянствам усяе Польшчы. У сьвядомасьці заходня-беларускага селяніна, дзякуючы патугам кампартыі, трывала ўстанавілася разуменьне таго, што перамогі над памешчыкам у Зах. Бел. і над акупанцкай уладай можна дабіцца толькі ў тым выпадку, калі перамога будзе атрымана ня толькі ў Зах. Беларусі але і ў Варшаве. За некалькі год працы кампартыі ў Зах. Беларусі ёй удалося выкарыстаць спрыяючыя аб'ектыўныя абставіны, якія штурхалі сялянства Зах. Беларусі на шлях рэвалюцыйнай барацьбы для таго, каб узьняць сьвядомасьць сялянскіх мас на надзвычайна высокую ступень.

Меркаваць аб дасягненьнях камуністычнай партыі Зах. Беларусі ў гэтай галіне мы можам хоць-бы па тым фактам, што саюз рабочай клясы і сялянства ў Зах. Беларусі даўно ўжо перастаў быць толькі агульным лёзунгам, што ён даўно ўжо напоўнен жывою крывёю. Пад час забастоўкі рабочых хімікаў Горадні, сярод якіх *пераважаюць яўрэйскія рабочыя*, у справе арганізацыі дапамогі забастоўшчыкам прынялі гарачы ўдзел сяляне наўкольных вёсак. Забастоўшчыкі атрымалі некалькі вазоў харчоў, якія сабралі самі сяляне і прывезьлі у Горадню у распараджэньне забастовачнага камітэту.

V

У Зах. Беларусі, у лясох захаваліся мясцамі надзвычайна рэдкія зьвяры: зубры, медзьвядзі. Зьверы гэтыя адзначаюцца тугадумствам і нязграбнасьцю. Аднак беларускі мужык здаўна прывык вывучаць тугадумнага касалапага і непаваротлівага Мішку скакаць. Рабіў ён гэта вельмі проста: уводзіў Мішку на распалёную падлогу і пачынаў граць. Мішка ня вытрымліваў распалёных каменьняў, падымаўся на заднія ногі і каб ухіліцца апалаў скакаў, як добры танцор. Значна трудней, зразумела, было навучыць танцаваць і варочаць мазгамі польскіх шляхэцкіх зуброў Зах. Беларусі. Аднак, калі чырвоны певень запалыхаў над панскімі палацамі, то і консэрватыўны шляхэцкі зубр пачаў варочаць мазгамі. На старонках таго-ж „Слова" мы сустракаем гэткія вельмі каштоўныя прызнаньні:

> „Сёньня Беларусь ствараецца *пад знакам бізуна сацыяльнай барацьбы* і разумным, лёгічна пасьлядоўным вывадам гэтага зьяўляецца тое, што ствараемая ў гэткіх умовах Беларусь пападае ў абдымкі бальшавікоў. Усё, што зьяўляецца лёзунгам сацыяльнай ненавісьці ніколі ня будзе... зьвяном якое зьвязвала-б паміж сабой Беларусь і Польшчу, але наадварот, клінам, які разьяднае Польшчу і Беларусь... Таму магілай для Польшчы на ўсходзе зьяўляецца агітацыя нашых левых партый. („Слово" № 96, 1927 г.).

Аўтар артыкулу мае на ўвазе ў даным выпадку, не баларускія, а іменна польскія, згодніцкія, патрыятычныя „левыя" партыі. І сарамлівыя патрабаваньні куцай аўтономіі для „крэсаў", дробна-буржуазнай зямельнай рэформы, ён лічыць зруйнаваньнем Польшчы на ўсходзе. Па адрасу гэтых польскіх падмочаных „дэмакратаў", выліняўшых лібэралаў, орган зуброў „разражаецца" наступнай філіпікай:

> „Есьць грамадзкія гэсты, якія нас ня зьдзіўляюць, не абураюць, аднак, яны непамерна наіўны па свайму зьместу. Да такіх непамерна наіўных гэстаў належыць гутарка на тэму, што зараз польскі ўрад павінен паўтарыць гэст Александра II га і нарадзіць беларускіх сялян зямлёй, каб гэтым шляхам купіць іх любоў да Польшчы...

У сапраўднасьці за гэтыя дактрыны расплачваецца сумная рэчаістасьць, якая прыводзіць да таго, што зямля з польскіх рук павінна перайсьці да „сяброў“ грамады... Земляўласьнікі, менавіта як земляўласьнікі, першыя гатовы прызнаць, што сапраўдная зямельная рэформа, што ўмяшаньне дзяржавы ў гэтыя справы пажадана, патрэбна і неабходна. Але не зьнішчэньне, не зруйнаваньне буйнейшых зямельных гаспадарак, *не зьнішчэньне на ўсходніх землях эканамічнага пераважаньня польскага элемэнту.*

Як бачым, польскія зубры абараняюцца супроць праэкту зямельнай рэформы, які заключаецца у перадачы часткі зямлі за ўзнагароду (бо такой зьяўляецца праграма гэтых „дэмакратычных левых“, польскіх партый) высоўваючы меркаваньні небясьпекі і непадзельнасьці польскай дзяржавы, высоўваючы тыя моманты, якія былі вырашаючымі пры праводзеньні калёнізацыйнай (асадніцкай) палітыкі польскага ўраду.

Аб чым-жа, аднак, думаюць польскія зубры, калі яны гавораць, што яны імення, як земляўласьнікі разумеюць неабходнасьць зямельнай рэформы? На гэтае пытаньне мы знаходзім адказ у тым-жа „Слове“. Масам кажа „Слово“—неабходна даць толькі хлеба, значыцца, неабходна, каб урад зьвярнуў увагу на некаторыя паляпшэньні эканамічнага становішча Зах. Беларусі. Гэтыя паляпшэньні памешчыкі ўяўляюць сабе толькі ў форме паляпшэньня становішча буйнага земляўладаньня, шляхам патаненьня крэдытаў, дачы палёгкаў экспарту сельска-гаспадарчых прадуктаў і г. д., і стварэньня ўмоў для больш шырокай эксплёатацыі памешчыкамі сялян, як рабочай сілы. Гэткім вось шляхам памешчыкі бачаць магчымасьць „паляпшэньньня“ становішча сялянскіх мас Зах. Беларусі.

У межах гэткага „паляпшэньня“ знаходзіцца і патрэбная „сапраўдная“ зямельная „рэформа“, якая па іх думцы павінна заключацца ў ліквідацыі сэрвітутаў, г. зн. праў селяніна на карыстаньне лесам, або пашаю памешчыка для пасьбы сваёй каровы, права зьбіраць грыбы, і дровы (апал) у памешчыцкім лесе. Гэтыя сэрвітуты зьяўляюцца рэшткамі фэўдальных парадкаў, рэшткамі тых узаемаадносін, якія ўстанаўліваліся паміж памешчыкам і селянінам у пераходны момант захопу памешчыкамі мірскіх (абшчынных) лясоў і зямель, калі памешчыкі замацоўвалі за сабой толькі права ўласнасьці на мірскую (абшчынную) зямлю пакідаючы за селянінам права карыстаньня ўгодзьдзямі. Гэтыя сэрвітуты маюць для бяднейшай і серадняцкай гаспадаркі надзвычайную каштоўнасьць, бо ўтрыманьне каровы пры невыстарчальнай колькасьці корму ў беднаты зьяўляецца нямысьлімым бяз сэрвітута, г. зн. права пасьвіць у памешчыцкім лесе, ці на памешчыцкай сенажаці. Але гэтыя сэрвітуты адначасова зьяўляюцца вялікай перашкодай для памешчыка і перашкаджаюць яму выцягнуць усю карысьць з зямлі і весьці гаспадарку на цалкам капіталістычных падставах. Вось чаму ліквідацыя сэрвітутаў, зразумела, самым танным шляхам, зьяўляецца заветнай марай польскіх памешчыкаў, зьяўляецца „рэформай“, якую яны вітаюць наўпрэкі бяднейшаму і сярэдняму сялянству, якому гэткага гатунку „рэформа“ прыносіць далейшае пагаршэньне становішча і нават поўнае разбурэньне.

Наступным мерапрыемствам, якое высоўваюць памешчыцкія „рэфарматары“ зьяўляецца так званая камасацыя, г. зн. земляўпарадкаваньне. І тут памешчык надзвычайна зацікаўлены ў тым, каб сабраць свае зямельныя ўгодзьдзі ў адным месцы і каб у яго поля ня ўкліньваліся сялянскія палоскі. Лягчэй берагчы сваё дабро. Лягчэй павесьці гаспадарку на рацыянальна-капіталістычнай аснове. Зразумела, і гэтую рэформу памешчыкі мысьляць сабе такім чынам, каб на ёй выгадаць, а ня губляць. Зразумела і гэтая „рэформа“ павінна, па іх думцы, быць праведзена за

кошт пераважаючай масы сялянства. Урэшце, трэцім мерапрыемствам памешчыцкіх „рэфарматараў“ зьяўляецца парцэляцыя. Памешчыкі нічога ня маюць супроць таго, каб прадаваць частку сваіх маёнткаў селяніну, і нават беларускаму селяніну; усё пытаньне ў тым, каб продаж зямлі парцэляваных маёнткаў паставіць у гэтакія ўмовы, каб памешчык мог атрымаць за кожную парцэляваную дзесяціну максымальную суму грошай. Значыцца, пытаньне заключаецца ў тым, каб капіталізаваць зямельную рэнту, па магчыма больш высокаму рынавачнаму курсу

Чорнасоценныя „рэфарматары“ ня менш радыкальны і ў галіне вырашэньня нацыянальнай проблемы. Што школа на роднай мове для беларусоў—глупства,—не ў нацыянальнай школе справа, але ў „беларускай нацыянальнай амбіцыі“, яе трэба здаволіць, а для гэтага трэба не Заходнюю Беларусь аддаць Менску, але Менск аж да Смаленску далучыць да... Польшчы. Коратка, ясна і надзвычайна радыкальна. Паслухаем, аднак, саміх рэфарматараў:

„Аддаючы СССР усю *карэнную беларускую* тэрыторыю, мы пазбавілі сябе мажлівасьці здаволіць беларускія нацыянальныя амбіцыі. Калі-б мы мелі Магілеў і Менск, то мы маглі-бы дапамагчы беларусам дасягнуць аўтаномнага становішча ў Эўропе..., мы маглі-бы ўстанавіць фэдэрацыйную сувязь з Магілевам і Менскам, але ня з польскай Вільняю“... І таму—прадаўжае орган акупантаў—калі... знайшлася-бы група беларускай моладзі, у рэчавістасьці шчыра антыбальшавіцкая, якая-б верыла ў тое, што іх родная зямля акупавана *бальшавіцкім урадам* —то па нашай думцы польская грамадзкасьць і нават урад у межах абавязуючых нас у міжнародных абавязацельстваў—павінны аказваць гэткай групе падтрыманьне. Вільня павінна быць цяпер цэнтрам беларускай эміграцыі, як калісьці Парыж быў вогнішчам польскай эміграцыі. Мы будзем вельмі рады, калі Магілеў і Менск калі-небудзь адыйдуць ад Саветаў, але нашым абавязкам зьяўляецца рабіць усё, каб Радашковічы, Браслаўль і Навагрудак не папалі пад уплыў чырвонага Менску“.

Памешчыцкі орган ня раз зьвяртаецца да гэтага пытаньня. У № 66 ад 22 сакавіка 1927 году мы чытаем:

„Шырокае вырашэньне беларускага пытаньня магчыма толькі тады, калі мы будзем уладаць Менскам і Магілевам, тады мы можам ісьці на стварэньне польска-беларускай дзяржаўнасьці... Наша пазытыўная, на жаль, малая, праграма у адносінах да беларусоў не магла-б заключацца ў прызнаньні іх нацыянальна-тэрыторыяльнай аўтаноміі, такая аўтаномія адарвала-бы ад Польшчы тыя паветы, у якіх беларусы маюць большасьць. *Адарвала-бы ад Польшчы і далучыла-бы іх да Беларускай Савецкай Рэспублікі*“ (падкрэсьлена намі. С. Б. Тр.)

Мы бачым, што орган польскіх мракабесаў і рэакцыянэраў гаворыць з поўнай яснасьцю аб сваіх захопных плянах і аб сваім нежаданьні ісьці на якія-бы та ні была, хоць і дробныя, частковыя ўступкі, нацыянальным імкненьням шырокіх беларускіх народных мас. Ні ў галіне школьнай, ні ў галіне самаўрадаў, ніякіх уступак беларускаму селяніну. Размовы аб фэдэрацыйнай Беларусі могуць толькі вясьціся ў напрамку захопу і заняволеньня свабоднай Савецкай Беларусі. Зразумела, вывад з такой праграмы „вырашэньня нацыянальнай беларускай праблемы“, як і зямельнай праблемы, заключаецца толькі ў лёзунгу старога царскага міністра Плеве: „Патронаў не шкадаваць“. Сапраўды, вучні Плеве да гэтага вываду прыходзяць. Цытаваны намі артыкул яны заканчваюць:

„Мы павінны ўжыць плянавую, бязьлітасную і энэргічную рэпрэсыуную акцыю ў адносінах да ўсіх беларускіх партый, якія знаходзяцца ў кантакце з СССР, або заклікаюць да аб'яднаньня з Савецкай Беларусьсю"...

„У кантакце з СССР" пры перакладзе на простую мову, значыць—стаяць на пункце гледжаньня няпрымірымай барацьбы за сапраўднае нацыянальнае вызваленьне Зах. Беларусі ад Польскай няволі.

## VI

На фоне страшэннаи нэндзы і разбурэньня шырокіх працоўных мас Зах. Беларусі, поунага нацыянальнага і грамадзянскага бясправуя і заняволеньня, тэрару акупацыйнай улады, якая праводзіцца ў дагоду польскім памешчыкам Зах. Беларусі і дэеля выкананьня мэтаў „высокай палітыкі" дзяржаўных мужэй Варшавы,—пад уплывам шырока разгарнуўшайся энэргічнаи бязьлітаснай рэвалюцыйнай акцыі камуністычнай партыі Зах. Беларусі, адбываўся шпаркі, які захапляў самыя глыбокія нізы беларускіх народных мас, працэс рэвалюцыянізаваньня, росту грамадзкага усьведамленьня і арганізаванасьці гэтых мас.

Побач з гэтым адбываўся працэс расчараваньня сярод дзеячоў нацыянальна-дэмакратычнага адраджэнчага руху у Зах. Беларусі Гэтыя дзеячы, якія адбівалі настроі і імкненьні беларускай дробна-буржуазнай інтэлігэнцыі, на крывавай практыцы польскай акупацыйнай палітыкі пераканаліся у бязгрунтоунасьці і ілюзорнасьці надзей на польскую „дэмакратыю", на тое, што Польшча, навучаная горкім вопытам 150 гадовай няволі пажадае і здолее арганізаваць у рэчаівістасьці сужыцельства з іншымі народамі па прынцыпу: „свабодныя са свабоднымі,—роўныя з роунымі". „Адроджаная" Польшча была буржуазнаи Польшчай і ніякай іншаи палітыкі, апрача як імпэрыялістычнаи, каленізатарскай, захопніцкай, нацыяналістычнаи, яна і не магла весьці ў адносінах да зьняволеных народаў

Адначасова гэтыя дзеячы пераканаліся на цяжкой практыцы і горкім хлебе замежнай беларускай эміграцыі, якую цану і які ўнутраны, зьмест маюць дэмакратычныя сказы аб праве нацый на самавызначэньне, якімі вельмі лёгка кідаюцца кіраунікі палітыкі імпэрыялістычных дзяржаў. Яны зразумелі, што гэтыя свабодалюбівыя, дэмакратычныя фразы толькі шырма для захаваньня прагавітых, драпежніцкіх апэтытау імпэрыялістаў. Для іх стала ясна, дасягнуць незалежнасьці Зах. Беларусі пры дапамозе эуропэйскаи „дэмакратыі" у асобе жулікаў і прайдзісьветаў з Лігі Нацый зьяуляецца самаи сапраўднай утопіяй, бо ні у інтарэсах францускага, або ангельскага капіталу зьмяншаць тэрыторыю мілітарысцкай Польшчы і такім чынам зьмяншаць базу яе ваеннаи моцы Падзел Польшчы паводле этнаграфічнага прынцыпу адзначаў-бы для буржуазіі Захаду аслабленьне таго ваеннага кардону, які яе абараняе ад уплыву на эўрапейскія працоўныя масы, пераможнага прыкладу сацыялістычнай рэвалюцыі на Ўсходзе.

Гэтыя беларускія дзеячы ўгледзелі, што ідучы гэтым шляхам яны аказаліся ў разьбітага карыта, ідэёва збанкрутавалі і зайшлі ў тупік. Поруч з усьведамленьнем свайго ідэёвага збанкрутаваньня, з расчараваньнем у эўрапейскай і польскай „дэмакратыі" дзеячы нацыянальна-дэмакратычнага адраджэнчага руху ў Зах. Беларусі не маглі не заўважыць, што за савецкаи мяжой ажыцьцяўлена паміма іх, ня іх рукамі і не на шляхох, якія яны лічылі выключна вернымі і сапраўднымі,—справа адраджэньня Беларусі. Беларуская дзяржаўнасьць, беларуская культура,

беларуская эканоміка будавалася і будуецца у БССР рукамі мільённых працоўных мас пад кіраўніцтвам рабочай клясы і яе камуністычнай партыі на руінах ня толькі памешчыцка-бюрократычнай царскай імпэрыі, але і на руінах неданоска буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі.

Гэтыя тры фактары прывялі да таго, што сярод перадавых, найбольш шчырых і чэсных, сапраўды адданых справе народных мас ідэолёгаў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху адбыўся у 1925 г. рэзкі ўзрух, які надзвычайна яскрава, хоць аднабакова быў абрысован у „Кур'еры Віленскім", органе „дэмакратаў"-пілсудчыкаў, у нумары ад 17 лютага 1927 году чытаем:

> „У працягу пяці год на чале палёнафільскага кірунку (сярод нацыянал-дэмакратычных дзеячоў—С. Б. Тр.) стаяў, п. Браніслаў Тарашкевіч. Я ведаю, што ён ня раз павінен быў пераносіць уніжэньне, калі на замежных беларускіх канфэрэнцыях беларускія дзеячы Савецкай Беларусі паказвалі яму кніжкі выдадзеныя імі. *Тарашкевіч у выніку сваёй згодніцкай палітыкі меў толькі зруйнаваньне беларускіх школ на тэрыторыі Зах. Беларусі.* Пяць год спроб знайсьці які-небудзь спосаб сужыцельства паміж польскай дзяржавай і беларускім рухам прывялі гэтага *бязумоўна ідэёвага і чэснага чалавека* да рэзкай зьмены фронту, у зусім процілеглым кірунку". (Падкрэсьлена намі С. Б. Тр.)

Зразумела, пытаньне было ня ў кніжках, а ў *контэксьце*, усёй нацыянальнае праблемы Зах. Беларусі, аб чым, аднак, нялоўка было пісаць органу прыхільнікаў пана маршала Пілсудзкага, які са сьлязой замілаваньня ўспамінаў аб родавых маёнтках абаронцаў „польскасьці на ўсходніх крэсах".

Памянёны вышэй узрух сярод ідэолёгаў беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху, знайшоў свой вонкавы выраз у расколе нацыянальнага беларускага соймавага клюбу. З гэтага клюбу вышлі чатыры дэпутаты: Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайловскі, Т. Мятла і П. Валошын. Яны супроцьпаставілі астаўшымся у беларускім нацыянальным соймавым клюбе паслам Ярэмічу і ксяндзу Станкевічу і інш. свой пункт гледжаньня на вырашэньне беларускага пытаньня ў Польшчы і на задачы прадстаўнікоў беларускага працоўнага і эксплёатуемага народу ў польскім сойме. Чатыры дэпутаты, якія вылучыліся аформіліся, як соймавы клюб Бел Сялянска-Работніцкай Грамады, які выходзіў з таго становішча, што сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускіх працоўных мас можа быць справай толькі непасрэднай барацьбы шырачэзных працоўных мас Зах. Беларусі, цесна зьвязанай з барацьбой эксплёатуемых і ўціскаемых мас усяе Польшчы і што соймавая чыннасьць паслоў павінна быць увязана самым цесным чынам з штодзённай барацьбой шырокіх працоўных мас Зах. Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. У 1926 г. дэпутаты беларускага соймавага клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады выступілі з акрэсьленай палітычнай пляцформай, афармляўшай вышэйпрыведзеныя погляды і дастасаванай да настрояў шырокіх працоўных масаў Зах. Беларусі, вакол якой, у хуткім часе пачалі яднацца самыя шырокія гушчы працоўных Зах.Беларусі.

Пляцформа Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады мела на сабе яўныя сьляды свайго інтэлігэнцкага і дробна-буржуазнага паходжаньня, гэта была пляцформа, якая адбівала інтарэсы і настроі радыкальнай дробнай буржуазіі і ў першую чаргу нізавой масы серадняцкага сялянства Заходняй Беларусі.

Палітычная пляцформа Грамады можа быць падзелена на дзьве часткі: на пляцформу максымальных і мінімальных патрабаваньняў.

У частцы максымальных патрабаваньняў пляцформы Б.С.Р. Грамады трэба адзначыць наступныя патрабаваньні: 1) права народаў на самавызначэньне, якое канкрэтна ў галіне беларускай нацыянальнай праблемы значае ў аўтараў пляцформы патрабаваньне, „зьбіраньня і аб'яднаньня беларускіх зямель у незалежную рэспубліку пад уладай сялян і рабочых" 2) зямлі сялянам бяз выкупа і 3) стварэньне сялянска-рабочага ўраду.

Сярод патрабаваньняў, якія трэба аднесьці да праграмы мінімум, мы сустракаем патрабаваньне земляупарадкаваньня у форме перасяленьня сялян „з вёсак на хутары або пасёлкі, але толькі пры тэй умове, што малазямельным будзе зроблена прырэзка зямлі, каб яны маглі сапраўды весьці самастойную гаспадарку". У галіне падаткаў Грамада выстаўляла наступныя патрабаваньні: „каб падаткі былі пераложаны на пануючыя багатыя клясы, а з безьзямельных, малазямельных і сераднякоў — гэты цяжар быў зьняты... Б.С.-Р. Грамада „патрабуе, каб былі скасаваны ўсе ўкосныя падаткі, асабліва-жа падаткі на рэчы першай патрэбы". У галіне ўзьняцьця эканамічнага ўзроўню сялянства, Грамада высоўвае патрабаваньне шырокага грамадзкага крэдыту для сялянскай і рабоча-спажывецкай вытворчай і крэдытовай каапэрацыі. Далей Грамада высоўвае цэлы шэраг агульна-дэмакратычных патрабаваньняў у галіне самаўрадаў, палітычных свабод, суда, войска, паліцыі і адміністрацыі. У яе пляцформе высунута патрабаваньне, каб усе органы самаўрадаў выбіраліся працоўным народам, а не назначаліся адміністрацыяй, каб гэтыя органы былі незалежнымі ад адміністрацыі, і каб кола дзейнасьці іх было пашырана. Пляцформа Грамады дакладна і ясна фармулюе дамаганьне амністыі для ўсіх палітычных „злачынцаў". Яна патрабуе скарачэньня тэрміну вайсковай службы, „значнага зьмяншэньня войска, паліцыі і адміністрацыі" дэкляруе, што яна імкнецца да замены сталай арміі народнай міліцыяй, што яна вядзе барацьбу за тое, каб паліцыя і чыноўнікі не выключаючы міністраў, адказвалі перад законам за службовыя злачынствы", урэшце, патрабуе скасаваньня палітычнай паліцыі і заяўляе, што „вядзе барацьбу з сыстэмай катаваньня і правакацыі". У галіне школы, мовы і рэлігіі, пляцформа дэкляруе, што яна стаіць за „ўвядзеньне адзінай працоўнай школы з бясплатным навучаньнем за кошт дзяржавы для працоўных элемэнтаў (сялян, рабочых і працоўнай інтэлігэнцыі), што навучэньне ва ўсіх дзяржаўных школах павінна весьціся на роднай мове навучаючыхся". У адносінах да рэлігіі Б.С.-Р. Грамада прызнаючы поўную свабоду сумленьня, стаіць за адлучэньне царквы ад дзяржавы і ад палітыкі.

Як мы бачым, па замыслам аўтараў гэтых палажэньняў Б.С.-Р. Грамада не павінна была выходзіць за межы радыкальных буржуазна-дэмакратычных патрабаваньняў. Яна і па замыслам і па мэтадам барацьбы не павінна была выходзіць за гэтыя межы, бо аўтары пляцформы заяўлялі, што ідучы да сваёй мэты, Б.С.-Р. Грамада карыстаецца шляхамі легальнай законнай барацьбы на аснове канстытуцыі і права".

Аднак, ужо сам факт цьвёрдага і стойкага правядзеньня лёзунгу: „зямля сялянам бяз выкупу" — у той час, калі ўсе дробна-буржуазныя згодніцкія партыі здраджалі асноўным масам сялянства беднякоў і серадняком, адмаўляючыся ад гэтага лёзунгу, высоўваючы лёзунгі зямлі з выкупам на такіх або іншых умовах, даводзіць, што Б.С.-Р. Грамада была арганізацыяй сапраўды адбіваючай інтарэсы шырачэзных бедняцка-серадняцкіх сялянскіх гушчаў.

Далей. Практыка апошніх год пасьля імпэрыялістычнай вайны, практыка барацьбы рабочых і сялян ва ўсім сьвеце за свае правы, не асталася бяз уплыву на аўтараў пляцформы. У пляцформе на другім месцы

staіць лёзунг, кідаючы яскравы сьвет на клясавы характар самоп арга нізацыі і вызначаючы шляхі разьвіцьця гэтай арганізацыі.

Гэта лёзунг *саюзу сялян і рабочых*. Падкрэсьліваем, не рабочых і сялян, а сялян—рабочых.

Другім, ня менш важным і вызначаючым клясавы характар Грамады і шляхі яе разьвіцьця зьяўляецца лёзунг сялянска-рабочага ўраду. Лічым важным пазнаёміць нашых чытачоў з сапраўднымі фармулеукамі аутараў пляцформы па гэтым двум лёзунгам:

„*2. Саюз сялян і работнікаў.* 5. Вызваленьне ўсяго працоўнаг народу з-пад ярма капіталу і ад нацыянальнага ўціску—гэта агульная мэта і супольная справа сялян і работнікаў. Ажыцьцяўленьне гэтай мэты магчыма толькі ў цесным саюзе сялян і работнікаў 6. Працоўная інтэлігэнцыя ў сваёй лепшай і больш здаровай частцы павінна прылучыцца да такога саюзу сялян і рабочых, знаходзячы тут шырокі грунт для прылажэньня сваіх творчых сіл

*3. Сялянска-работніцкі урад.* 7. Толькі цесны саюз сялян і работнікаў можа ўстанавіць сялянска-работніцкі ўрад. Толькі сялянска-работніцкі ўрад можа даць прыгнечаным народам свабоду, сялянам зямлю—работнікам працу і толькі ён будзе мець сілу перабудаваць народную гаспадарку і увесь дзяржауны і грамадзкі парадак на больш разумных і справядлівых падставах і павесьці народ да лепшае будучыны".

Лёзунг саюзу сялян і рабочых, лёзунг сялянска-рабочага ўраду, ня быў для Б.С.-Р.-Грамады адным пустым гукам, агітацыйна-дэмагогічнай забаўкай. Згодніцкія дробна-буржуазныя партыі, якія дзейнічалі ў горадзе нацкоўвалі гарадзкую дробную буржуазію і тую частку рабочай клясы, якая ішла за імі супроць сялянства ў цэлым, як спэкулянтаў якія нажываюцца на нэндзы гораду. З другога боку тыя дробна-буржуазныя партыі, якія працавалі сярод сялянства і зьяўляліся выказьнікамі інтарэсаў кулацтва і праваднікамі ўплыву буржуазіі на сялянства, нацкоўвалі яго на рабочых, як на гультаёў, якія не жадаюць працаваць больш 8 гадзін і зьяўляюцца віноўнікамі падаражаньня цэн на прамысловыя тавары ў параунаньні з цэнамі на сельска-гаспадарчыя прадукты. Б.С.-Р. Грамада як і іграючая тую-ж ролю сярод польскага сялянства, Незалежная Сялянская Партыя (Н. П. Х.), не пашлі па гэтаму шляху, шляху выгаднаму для буржуазіі, а сталі на пункт гледжаньня салідарнасьці інтарэсаў працоўнага і эксплёатуемага сялянства з інтарэсамі рабочай клясы перад тварам эксплёататарскіх клясаў. Б.С.-Р. Грамада ў сваёй пляцформе піша, што яна:

„бароніць усе сацыяльныя заваёвы рабочых, між іншым, яна вядзе барацьбу за: 1) васьмігадзінны рабочы дзень; нядзельны адпачынак і платныя водпускі, 2) забарону працы дзяцей і паляпшэньне санітарных умоў працы на фабрыках; 3) мінімум заработнай платы; 4) дзяржаўнае страхаваньне рабочых гораду і вёскі ад хваробы, пакалечаньня, безработцьця і на старасьць; 5) свабоду стачак і поўную свабоду для прафэсыянальных саюзаў; 6) законнае прызнаньне фабрычных работніцкіх камітэтаў, і права ўчасьця ў наглядзе за прадукцыяй".

Зразумела, Б.С.-Р. Грамада ня была клясавай арганізацыяй пралетарыяту і сялянства, бо пры капіталізьме аб'яднаць у аднэй палітычнай арганізацыі абедзьве гэтыя клясы, злучыць іх—нельга. Для камуністаў пытаньне можа і павінна стаяць так, як яго ставіў т. Ленін у палеміцы з народнікамі. З аднаго боку:

„трэба проста прызнаць глыбокую, няўхілімую *ў межах капіталістычнага грамадзтва,* у межах панаваньня рынку, клясавую розьнь сялян і рабочых у Расіі" ..

але з другога боку:

„трэба проста прызнаць, у чым *цяпер іх інтарэсы сходзяцца.* Трэба аб'яднаць кожную клясу, згуртоўваць яе сілы, разьвіваць яе сьвядомасьць і вызначаць гэтую агульную задачу" (т. XII, ч. I, ст. 112, падкрэсьлена намі. С. Б. Тр.).

Б. С.-Р. Грамада адбівала настроі і інтарэсы—была клясавай арганізацыяй, толькі бядняцкага і серадняцкага сялянства Зах. Беларусі ня гледзячы на тое, што ў яе шэрагах можна было знайсьці і наёмных рабочых. Бо партыя пралетарыяту не перастае быць клясавай арганізацыяй пралетарыяту і не становіцца арганізацыяй двух кляс толькі таму, што ў яе шэрагах знаходзіцца значная колькасьць сялян перадавікоў, вясковых актывістаў. У сувязі з гэтым трэба падкрэсьліць адна<, што ў пляцформе Б. С.-Р. Грамады меўся шэраг пунктаў, якія дазваляюць ужыць да Грамады зазначэньне, дадзенае Леніным сводцы сялянскіх наказаў 1917 г., якую ён разглядаў як палітычную пляцформу сялянства. Аналізуючы гэтую сводку Ленін пісаў:

„Першая частка сводкі наказаў прысьвечана агульным палітычным палажэньням, патрабаваньням палітычнай дэмакратыі; другая—пытаньням аб зямлі (будзем спадзявацца, што Ўсерасейскі савет сялянскіх дэпутатаў ці які небудзь другі правядзе сводку сялянскіх наказаў і рэзалюцый па пытаньні аб вайне). На першай частцы мы ня будзем зараз спыняцца падрабязна і адзначым толькі два пункты: у § 6 патрабуецца выбарнасьць на ўсе пасады, у § 11 —скасаваньне, па сканчэньні вайны, сталых армій. Гэтыя пункты робяць палітычную праграму сялян *усяго бліжэй стаячай да праграмы партыі бальшавікоў*" (Ленін, т. XIV, ч. II, стар. 78).

Так, па сваёй пляцформе з *усіх палітычных сялянскіх арганізацый Польшчы,* БСР Грамада як і НПХ (Незалежна Партыя Хлопска) стаяла ўсяго бліжэй да праграмы камунізму. Дзеля гэтага, яна і разглядалася намі як сапраўды радыкальная клясавыя сялянская арганізацыя. Але нічога больш. Характэрна і важна для вызначэньня клясавага характару БСР Грамады, што гэтая радыкальная, бедняцка-серадняцкая, сялянская арганізацыя у цэлым шэрагу асноўных і прынцыповых палажэньняў камуністычнага пралятарскага руху разыходзілася з партыяй пралетарыяту. Так, па карэннаму пытаньні аб гегемоніі у рэвалюцыйным руху, ідэолёгі БСР Грамады не прызнавалі кіруючай ролі пралетарыяту, не прызнавалі гегемоніі пралетарыяту ў адносінах да сялянства. Таму, у яе пляцформе ўпарта падкрэсьліваўся аўтарамі лёзунг *саюзу сялян* і рабочых, лёзунг *сялянска*-рабочага ураду. І у друку Грамады мы вельмі часта сустракалі разважаньні на тэму аб роўнацэннасьці абоіх саюзьнікаў, аб тым, што оба яны—пралетарыят і сялянства, павінны кіраваць рухам, так сказаць, на дэмакратычных падставах.

Гэтыя-ж прынцыповыя разыходзіны мы бачым і ў пытаньні аб адносінах БСР Грамады да лёзунгу самавызначэньня. У той час, калі партыя пралетарыяту Польшчы—КПП і яе складаная часьць кіруючая рэвалюцыйнай барацьбой у Зах. Беларусі—КПЗБ стаіць на пункце гледжаньня права нацыі на самавызначэньне *аж да адлучэньня,*—у пляцформе Грамады такой фармулёўкі мы не сустракаем. КПЗБ у канкрэтных беларускіх умовах расшыфроўвае лёзунг самавызначэньня аж да адлучэньня, ставячы перад масамі задачу *далучэньня* Заход. Беларусі да брацкай БССР. Гэты момант таксама адсутнічае ў пляцформе рэвалюцыйна-сялянскай, дробна-буржуазнай арганізацыі, якой зьяўлялася БСР

Грамада. Наадварот, там пры расшыфроўцы лёзунгу самавызначэньня гаворыцца, аб „зьбіраньні і аб'яднаньні“ беларускіх зямель у незалежную рэспубліку пад уладай сялян і рабочых і ў тым жа самым параграфе аўтары пляцформы гавораць што: разам з тым БСР Грамада энэргічна падтрымлівае сучасныя нам імкненьні рабочых мас да стварэньня цеснага сацыялістычнага саюзу эўрапэйскіх народаў. У адпаведнасьці з гэтым БСР Грамада праводзіць сваю працу ў кірунку міжнароднай салідарнасьці працоўных. Такім чынам ідэолёгі БСР Грамады замянілі лёзунг сусьветнага СССР туманным лёзунгам Сацыялістычных Штатаў Эўропы. Неабходна агаварыцца, што аб'ектыўнасьцю сваёй інформацыі аб дзейнасьці савецкага ўраду і жыцьці Савецкага Саюзу і БССР, то нам сваёй крытыкі Савецкай нацыянальнай палітыкі і мерапрыемстваў у галіне разьвіцьця сялянскай гаспадаркі БСР Грамада давала права думаць, што яна лічыць СССР „краеўгольным“ каменем таго, „цеснага сацыялістычнага саюзу эўрапэйскіх народаў“, аб якім яна піша ў сваёй пляцформе.

Аднак, найбольш яскрава сялянскі, дробна-буржуазны, некамуністычны характар БСР Грамады выяўляўся ў двух фактах: у адсутнасьці пэрспэктывы сацыялістычнай перабудовы сялянскай гаспадаркі і ў неразуменьні няўхільнасьці зруйнаваньня дашчэнту апарату буржуазнай дзяржавы, як органу клясавай дыктатуры буржуазіі і памешчыкаў.

Зразумела, наглаи маноч зьяўляецца спроба фашысцкай дыктатуры правесьці знак раўнаньня паміж БСР Грамадой і Кампартыяй, або выдаць БСР Грамаду за „экспазытуру“ Кампартыі, але адно зьяўляецца бясспрэчным, што БСР Грамада, ня гледзячы на адзначаныя намі ідэолёгічныя недахопы, па сваёй праграме, як яна выкладзена у *легальнай* пляцформе „БСР Грамады“ бязумоўна стаяла бліжэй усіх іншых сялянскіх арганізацый Польшчы (выключаючы Н. П. Х.) да праграмы партыі пралетарыяту.

## VII

БСР Грамада разьвівалася з надзвычайнай шпаркасьцю. За год свайго існаваньня колькасьць яе мясцовых арганізацый перасягнула за тысячу, колькасьць-жа членаў пераваліла 100 тысяч. Гэта ў краі, які налічвае ня больш 3 мільёнаў насельніцтва, у краі, які да гэтага часу лічыўся найменш культурным і найбольш палітычна адсталым. Занепакоеныя ростам БСР Грамады памешчыкі і акупанцкая адміністрацыя забілі трывогу. У цытаваным намі не адзін раз „Слове“ пачалі зьяўляцца допісы, якія ў крывым люстры памешчыцкай ненавісьці адбівалі тое вялізнае замілаваньне, давер'е і аўтарытэт, якім карысталася БСР Грамада сярод беларускіх сялян і тое вялізарнае жаданьне аб'яднаньня ўсіх сіл для барацьбы, якой гарэла беларуская вёска. У гэтых карэспандэнцыях памешчыкаў мы чытаем: „У Маладэчанскім павеце Грамада дасягнула паўнейшага посьпеху. Цалкам пануе ў нашай вёсцы, у нас спакойна існуе ўлада Грамады, яе войты (вясковы старшыня), яе міліцыя. Аб сілах Грамады дае ўяўленьне той факт, што у дрэнна арганізаваным Пастаўскім павеце яна налічвае 2.000 членаў і 65 гурткоў. Яны працуюць легальна. Гурток ахоплівае адну, або дзьве вёскі. На сходах гуртка бывае да 80 часам 100 чалавек. Гурткі зьбіраюцца кожны месяц“

Зразумела, орган памешчыкаў, сьмяртэльна напалоханы ростам Грамады жадае стварыць ураджаньне, што праца Грамады была змоўшчыцкай, але ён прагаварваецца, што на ўсіх гэтых сходах прысутнічалі паліцэйскія агенты, якія, відаць у прэцы гурткоў не маглі ўгледзець ніякага парушаючага канстытуцыю польскай рэспублікі факта, калі хутка яны не разганялі гэтых сходаў.

Памешчыкі самі тлумачылі прычыны нагэтулькі шпаркага разьвіцьця Грамады. Яны пісалі, што акцыя Грамады мела посьпех перш за ўсё таму, „што лёзунгі, якія кідалі яе агітатары, сустракалі спрыяючую глебу, створаную катастрафічным становішчам гэтых зямель, нездаволеньнем з поваду зацяжнага эканамічнага крызіса, жорсткай падатковай сыстэмы... няўраджаі некалькіх апошніх год, беспрацоўе,—вось магутныя саюзьнікі Грамады“.

Орган польскіх „дэмакратаў“-пілсудчыкаў „Кур'ер Віленскі“ (ад 12 студзеня 1927 г.) да гэтых момантаў дадае яшчэ другі: „Выклікаючы антыдзяржаўныя настроі сярод насельніцтва нашага краю, фактар, якім зьяўляецца адміністрацыя“. „Сярод адміністрацыі—піша орган дэмакратаў-фашыстаў“ пануе варожая устаноўка ў адносінах да мясцовага няпольскага насельніцтва. На кожным кроку, пры найбольш нават нявінных беларускіх, ці літоўскіх пачынаньнях, наша адміністрацыя ўжывае большыя ці меншыя грубыя прасьледваньні. Гэтую варожую устаноўку адміністрацыі, у асаблівасьці школьнай... насельніцтва добра адчувае і адказвае на яе адпаведным чынам“.

Рост Грамады, які адбываўся асабліва бурна ў працягу 1926 году, узмацненьне арганізаванасьці шырокіх мас і рост на гэтым грунце самаўсьвядамленьня іх, павялічэньне выпадкаў арганізаванага выступленьня сялянства супроць памешчыкаў-акупантаў,—усё гэта паказвала прыгнятальнікам, што Грамада ўзмацоўвае, і афармляе тую хвалю народнага абурэньня, якая зьмяце з твару пакутлівага краю эксплёататараў і прыгнятальнікаў. Таму, памешчыкі і акупанцкая ўлада, бачучы ў працы Грамады падрыхтоўку „грунту да сацыяльнай рэвалюцыі“, праз свой друк, а таксама, як і—ўсе іншыя органы польскага друку, бяз розьніцы адценьня, „дэмакратычныя“ ці нацыяналістычныя, пачалі шалёнае цкаваньне Грамады. Аднак, на рашучыя крокі супроць статысячнай арганізацыі ўрад капіталістаў і памешчыкаў не рашыўся.

Толькі ў год пазьней пасьля маёвага фашысцкага перавароту, калі Пілсудзкаму удалося кансалідаваць заможныя клясы вакол сваёй дыктатуры на грунце шалёнага наступленьня на заваёвы рабочай клясы і сялянства, буржуазія і памешчыкі адчулі сябе у сілах пакончыць з масавым радыкальна-сялянскім рухам у Польшчы і Зах. Беларусі. Пілсудзкім, у цеснай сувязі з яго ваеннымі плянамі супроць СССР, для забясьпячэньня сабе тылу, былі зруйнаваны Незалежная Сялянская Партыя ў Польшчы і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада.

Атаку супроць радыкальна-сялянскага руху пачаў і павёў міністр фашысцкага ураду Пілсудзкага, буйнейшы памешчык Зах. Беларусі, былы член былога расейскага Дзяржаўнага Савету вядомы сваім лёкайствам, перад расійскім царызмам—Мейштовіч.

Атака, якую павёў урад Пілсудзкага—Мейштовіча супроць радыкальнага сялянскага руху, пачалася з двух бакоў; з аднаго боку праз згодніцкі і кансэрватыўны друк, апрацоўвалася грамадзкая думка Польшчы у тым кірунку, што Грамада зьяўляецца шпіёнскай і тэрарыстычнай арганізацыяй. З дня ў дзень у друку зьяўляліся допісы, якія ў сэнсацыйных загалоўках крычалі аб „мнімых“ злачынствах Грамады, хоць па зьместу допісы ніякага дачыненьня да Грамады ня мелі. „Старшыня гуртка злачынец“. Падзагаловак—Сэнсацыйныя вынікі сьледзтва па пытаньні аб нападу на цягнік“, „Арышт банды шпіёнаў“. Падзагаловак: „Падозраны кантакт з гурткамі“ і г. д, і г. д. Адначасова фашысцкі ўрад арганізаваў пры дапамозе паліцыі фашысцкія баявыя групы, якія рабілі ўзброеныя тэрарыстычныя напады на паасобных актыўных членаў Грамады, на памяшканьні Грамады і на яе зьезды. Павялічыліся рэпрэсіі ў адносінах да Грамады і грамадаўцаў і з боку легальных прадстаўнікоў улады. Сотні людзей зрыштоўваліся па самым нясур'ёз-

ным повадам і праз некалькі дзён або тыдняў зьняволеньня ў брудным паліцейскім засьценку, атрымаўшы выстарчальную колькасьць зубатычын, выпушчаліся на свабоду.

Наступным прыёмам быў шырокі ўжытак у барацьбе з Грамадой мэтадаў правакацыі. Цэлы шэраг вядомых і даўно выкрытых правакатараў, з якіх галоўнейшым зьяўляецца, вядомы на Менскім грунце, Гурын пачалі пастаўляць фантастычныя выдуманьня весткі аб няіснуючай сувязі паміж гурткамі і партызанскімі атрадамі, дзейнічаючымі ў Зах. Беларусі аб сувязі самой Грамады з савецкім урадам, аб шпіёнскай працы, якой быццам-бы кіруюць паслы Грамады.

На паслоў пасыпаліся самыя брудныя абвінавачаньні. У сотнях артыкулаў і допісаў, аб іх гаварылася, як аб прадажных людзях, якія знаходзяцца на ўтрыманьні замежнай (чытай савецкай) дзяржавы. Гэтая кампанія маны супроць Грамады і супроць яе кіраўнікоў праводзілася польскім буржуазным друкам бяз розьніцы кірункаў. Ня гледзячы на тое, што спачатку дзейнасьці Грамады гэтыя органы былі змушаны канстатаваць высокую чэснасьць, непадкупнасьць, высокі ідэалізм кіраўнікоў Грамады. Памешчыцкае „Слова“ 17 кастрычніка 1926 г. пісала, што „сярод дзеячоў беларускай Грамады сустракаем і ідэалістаў, як напрыклад п. Тарашкевіча і інш., людзей сур'ёзных, культурных і г. д. 18 студзеня 1927 г. тая-ж газэта у артыкуле „Трагэдыя пасла Тарашкевіча“ пісала „пасол Тарашкевіч, гэта ідэёвы, маральна чысты чалавек“.

Спачатку студзеня 1927 г фашысцкі ўрад рашыў перайсьці ад падрыхтоўкі да непасрэднага наступленьня на радыкальны сялянскі рух і фізычна зруйнаваць БСР Грамаду. Кіруючая галоўка Грамады на чале з „недатыкальнымі“ дэпутатамі ў сойм, была арыштавана і кінута ў катаржную турму. Арганізацыя была абвешчана распушчанай. Паліцыя пад кіраўніцтвам дэфэнзывы арыштоўвала праўленьні мясцовых гурткоў, захоплівала ўсё справаводзтвы і патрабавала, каб члены Грамады здавалі ёй сяброўскія кніжкі і расьпісваліся аб выхадзе з Грамады.

Арышт паслоў і роспуск Грамады, жорсткі тэрор у адносінах да ўсіх, хто быў зьвязан з гэтай арганізацыяй, працоўныя масы Зах. Беларусі спаткалі з вялікім абурэньнем, якое вылілася ў вялізныя дэманстрацыі пратэсту ў гарадох і вёсках Зах. Беларусі і ў кампаніі пісьмовага патрабаваньня вызваліць паслоў і ўсіх палітвязьняў, якім парадкам было сабрана сотні тысяч подпісаў. З гэтай хваляй абурэньня фашысцкі ўрад ня ў сілах быў справіцца і задушыць яе, хоць ён ужываў мэтады самага разбэшчанага і жорсткага тэрору.

Ставячы сабе задачу зруйнаваць радыкальны сялянскі, нацыянальна-вызваленчы рух у Зах. Беларусі, найбольш масавым прадстаўнікам якога зьяўлялася БСР Грамада, фашысцкі ўрад Пілсудзкага добра ўлічваў, што выключна толькі мерамі тэрору яму гэтага няўдасца дасягнуць. Неабходна было побач з гэтым знутры паралізаваць і сказіць гэты рух. Неабходна было на месца Грамады паставіць іншыя арганізацыі, якія маглі-бы паспрабаваць перацягнуць да сябе сымпатыі ідучых за Грамадой мас, разьбіць і дэзарыентаваць гэтыя масы і такім чынам зрабіць іх бязвольнай прыладай фашысцкай дыктатуры. Імкнучыся да дасягненьня гэтай мэты ўрад Пілсудзкага не аслабляючы тэрору у адносінах да радыкальнага сялянскага руху і да шырокіх працоўных мас Зах. Беларусі пашоў насустрэчу інтарэсам беларускага кулака, робячы шэраг эканамічных, палітычных і нацыянальных уступак у яго карысьць. Урад Пілсудзкага разьлічыў гэтым шляхам пашырыць сваю грамадзкую аснову ў Зах. Беларусі, ён быў упэўнены, што менавіта цяпер, калі масы беднаты і серадняцтва арганізаваныя БСР Грамадой

павялі абвостраную барацьбу супроць сваіх эксплёататараў, беларускі кулак стане больш згаворчывым: лёгка пойдзе на блёк з фашысцкім урадам акупантаў.

Гэты разьлік ураду Пілсудзкага апраўдаўся. Беларускі кулак і палітычныя, эканамічныя і грамадзкія арганізацыі, адбіваючыя яго настрой і яго інтарэсы ў адказ на манэвр ураду сталі перад ім на „вытяжку", выконваючы яго задачы больш ці менш адкрыта. За апошні год беларускія згодніцкія партыі значна ўзмацнілі сваю дзейнасьць, як у выдавецкай галіне, так і ў галіне вуснай агітацыі. Адчуваецца, што на грунт беларускага згодніцкага руху праліўся вельмі шчодры залаты дождж з фашысцкае хмары. Атрымаўшы ад дэфэнзывы грошы на працу, ці гэтыя яўныя агэнты дэфэнзывы накшталт Паўлюкевіча і Гурына, або замаскіраваныя саюзьнікі фашызму Умястоўскія, Ярэмічы, Рагулі і кс. Станкевічы, пачалі адзін, другога выпераджаць у цкаваньні Грамады.

Аднак, выступленьні ўсіх гэтых здраднікаў супроць разбуранай фашыстамі БСР Грамады працоўныя масы спаткалі ня толькі з агідай, але і вельмі адчувальным праяўленьнем свайго абурэньня, ад якога згоднікі не заўсёды маглі схавацца за сьпіну паліцыі.

Кампанія згоднікаў, спробы заработаць палітычны капітал на разгроме Грамады, праз шаленае цкаваньне БСР Грамады і грамадаўцаў, шаленую і безчэльную атаку проціў ідэолёгаў і кіраўнікоў БСР Грамады соймавых паслоў скончыліся няўдачай. Шырокія працоўныя масы, якія з такой адданасьцю і ўпартасьцю баранілі БСР Грамаду і арыштаваных грамадаўскіх паслоў адвярнуліся з пагардай ад агідных лёкаяў польскай ахранкі—беларускіх згоднікаў. На гэтым фоне адбыўся раскол у сялянскім Саюзе Ярэміча. Група Янкі Станкевіча ўбачыўшы няпрыгоднасьць тактыкі Ярэміча пры выкарыстаньні разгрому Грамады дзеля ўзмацаваньня сваіх згодніцкіх пазыцыяў, рашыла застасаваць больш хітрую тактыку. Яна выключыла, найбольш скампрамітаваных цкаваньнем процію БСР Грамады лідэраў сялянскага Саюзу— Ярэміча і Рагулю быццам, за тое, што яны ня толькі не баранілі Грамады, але нават прынялі ўдзел у цкаваньні процію яе. Назваўшы сябе адбудавальнікамі „старога" Сялянскага Саюзу, гэтая група, дзеля ашуканства масаў, узяла курс на „абарону" Грамады. Аб гэтай абароне можна казаць славамі прыказкі „абарані нас ад прыяцеляў, а з ворагамі мы самі справімся". Група Янкі Станкевіча асьцярожна толькі паміж радкоў „абароны"—пачала крытыкаваць „крайнасьці Грамады і па свайму переінацоўваць" лёзунгі Грамады, такім чынам, каб яны атрымалі контррэвалюцыйны зьмест выгадны для саюзу беларускага кулака з польскім фашысцкім блёкам. Такім спосабам лёзунг саюзу сялян і рабочых яны замянілі" словам беларускіх сялян і рабочых. Такім чынам атрымаўся лёзунг, які падводзіць працоўныя і эксплёатуемыя масы беларускай вёскі да буржуазнага лёзунгу адзінага нацыянальнага фронту. Лёзунг накіраваны супроць адзінага фронту беларускіх працоўных з прыгнечанымі і экплёатуемымі масамі ўсяе Польшчы. Але і гэтая больш хітрая тактыка скарыстаньня разгрому Грамады у больш контр-рэвалюцыйных мэтах, у мэтах здрадніцтва, не карысталася ніякім посьпехам; група Янкі Станкевіча асталася групай адарваных ад шырокіх мас інтэлігэнтаў маючых базу ў тым-жа самым тонкім пласту беларускага кулацтва, які служыць спагадным асяродкам для ўсіх іншых згоднікаў і здраднікаў.

Пасьля гадавой упорнай працы дэфэнзывы, правакатараў і судовых кручкатвораў фашысцкі буржуазна-памешчыцкі ўрад рашыў нанесьці апошні, як яму здаецца, удар па БСР Грамадзе. Ен парашыў інсцэніраваць камэдыю суда над БСР Грамадой, над арганізатарамі і кіраўнікамі

і актыўнымі дзеячамі стотысячнай легальнай арганізацыі працоўных Зах. Беларусі. Перад фашысцкім судом павінна стаць 490 чалавек. Па колькасьці падсудных фашысцкі ўрад пабіў сусьветны рэкорд. Гэта першы ў гісторыі, па масавасьці, працэс. Каб аслабіць уражаньне ад „масавасьці“ працэсу, фашысцкі ўрад парашыў яго разьбіць на 4 працэсы. Катаржнымі прыгаварамі, абаснаванымі на паказаньнях правакатарау, фашысцкі ўрад Польшчы паспрабуе апраўдаць сваё крывавае зьняволеньне працоуных Заходняй Беларусі. Але гэты суд рабочая кляса і рэвалюцыйнае сялянства ўсяго сьвету ператворыць у суд над фашысцкім рэжымам, над польскай акупацыяй, зьверскі катуючай беларускі народ.

Ні тэрар фашысцкага ўраду, ні лабавая атака яго падручных беларускіх згоднікаў і здраднікаў, ні хітрая тактыка, на словах апазыцыйнай, а ў рэчаістасьці служачай верную службу польскаму фашызму, групы Янкі Станкевіча, ні тая судовая расправа, якая рыхтуецца над грамадаўцамі, ня здолелі зьнішчыць і ня зьнішчаць рэвалюцыйна-сялянскага руху ў Заходняй Беларусі і не саб'юць яго на няправільны шлях. Хістаюцца паасобныя інтэлігенцкія папутчыкі, радыкальна-сялянскага руху, палохаюцца, здраджаюць і ідуць на вудачку фашызму асобы, як напрыклад, былы сябра грамадаўскага клюбу ў Сойме Сабалеўскі, але працоўныя масы цьвёрда стаяць пад сьцягам БСР Грамады. Аб гэтым ворагі працоўных маглі пераканацца па вынікам выбарчай кампаніі, якая праводзілася, пад пятой фашысцкіх акупантаў, у гарадзкія і сельскія самаўрады.

БСР Грамада жыла і будзе жыць. Яна жыве і будзе жыць у далейшым у той вялізнай практыцы палітычнай барацьбы, у той грамадзкай актыўнасьці, якой яна памагла выявіцца, у тэй глыбокай сьвядомасьці сапраўдных інтарэсаў і шляхоў абароны іх, у тым ясным разуменьні шляхоў да перамогі над эксплёататарамі, якое яна дапамагла распаўсюджыць сярод самых шырокіх пластоў працоўных Зах. Беларусі.—І калі польскі фашызм, польскія заможныя клясы, ідучы па сьлядох Раманавых, дакоцяцца да свайго Екацярынабурга,—то ў першых шэрагах сваіх пераможных ворагаў яны угледзяць людзей, выхаваных Грамадой, якія помсьцяць за беспрасьветную нэндзу, за гвалты, уціскі і зьдзекі, за нацыянальны ўціск, за зруйнаваньне сваёй масавай, сялянскай арганізацыі.

---

Стафан Шпарскі

# Эканамічнае становішча Заходняй Беларусі

Заходняя Беларусь перад вайной была той часткай этнографічнай Беларусі, якая мела самую высокаразьвітую гаспадарку. Калі ўсю этнографічную Беларусь можна было лічыць тыповаю сельска-гаспадарчаю краінаю, дык Заходняя Беларусь мела ўжо выразна выяўленыя асаблівасьці раёну, стаўшага на шлях прамысловага разьвіцьця. Прамысловасьць занмала у Заходняй Беларусі да 25% ад нацыянальнага прыбытку ўсёй гаспадаркі; тады як ва Усходняй, сучаснай Савецкай Беларусі, толькі каля 19%. На аднаго чалавека нацыянальны прыбытак ад прамысловасьці ў Заходняй Беларусі быў 18 руб., ва Усходняй Беларусі толькі каля 12 руб. Лік рабочых, якія знаходзіліся пад наглядам фабрычнай інспэкцыі ў 1913 годзе, быў у двух губ. Заходняй Беларусі 50,[illegible] тыс. чалавек а ў трох губ. Усходняй Беларусі быў таксама блізкі да гэтай лічбы—29,5 тыс. Фабрычна-завадзкая прамысловасьць займала ў структуры ўсёй прамысловасьці Заходняй Беларусі большае месца, чымся ў структуры Усходняй Беларусі

З паасобных галін фабрычна-заводзкай прамысловасьці ў Заходняй Беларусі разгортваліся як-раз тыя галіны, якія не зьвязаны з мясцовай сельска-гаспадарчай сырызнай, разгортвалася так званая „рабоча-арыентаваная прамысловасьць—тэкстыльная, лёгкай мэталургіі, табачная і г. д. Рабоча-арыентаваная прамысловасьць у Заходняй Беларусі мела 63,4% ад гуртавой вытворчасьці ўсей фабрычна-заводзкой прамысловасьці, уключаючы сюды і табачную (25,8 мільён. руб. з 40,7 мільён. руб.), тады як ва Усходняй Беларусі толькі 24,8% (7,6 міл. з 30,7 міл. руб.). Прамысловасьць Заходняй Беларусі, асабліва Горадзеншчыны, спэцыялізаваліся на некалькіх галоўных галінах прамысловасьці: а як-раз—па пераапрацоўцы воўны і табакі: адны гэтыя дзьве галіны прамысловасьці займалі ад усяго гуртавога прыбытку фабрычна-заводзкай прамысловасьці ў Горадзеншчыне 70,3%

Працавала Заходня-Беларуская прамысловасьць цалком на рынкі старой Расейскай імпэрыі

Сельская гаспадарка Заходняй Беларусі была значна больш інтэнсыўнай, чымся Беларусі Усходняй. Жывёлаводны ўхіл сельскай гаспадаркі быў больш выяўлены. Больш разьвіта была малочная гаспадарка. З гандлёва-прамысловых культур больш інтэнсыўная культура бульбы мела значнейшае пашырэньне ў Заходняй Беларусі тады як ва Усходняй Беларусі разгортвалася больш экстэнсыўная культура ва ўмовах інтэнсыўнай беларускай гаспадаркі культура лёну. бульба давала 74,3% прыбытку ад усіх тэхнічных культур Заходняй Беларусі, і толькі 61,8% ва Усходняй Беларусі. Заходняя Беларусь мела большы процант засеўных траў, большы процант гаспадарак з плодазьменнымі, урэгуляванымі або неўрэгуляванымі, севазваротамі. У Заходняй Беларусі была больш высокая, лепшая тэхніка апрацоўкі глебы, параўнаўча з Усходняй Беларусьсю, большае спажываньне мінэральных угнаеньняў, большае пашы-

раньне зялёнага ўгнаеньня. На захадзе Беларусі быў лепшы дагляд за жывёлай, лепшыя ўмовы кармленьня і г. д. Ураджайнасьць палявых культур у Заходняй Беларусі была больш высокая, чымся ва Ўсходняй Беларусі. Большай была і вытворчасьць жывёлы надоі малака, выхад мяса і сала і г. д. Тэмп узрастаньня інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі ішоў у Заходняй Беларусі таксама больш пэуна, больш бесперабойна, нясупынна, чымся ва Ўсходняй Беларусі. Заходняя Беларусь была самым першым раёнам ува ўсёй былой Расейскай імпэрыі па ўстойлівасьці і нязьменнасьці павялічаньня ўраджаяў.

Іншыя праявы гаспадарчага жыцьця сьведчылі таксама аб большай інтэнсыўнасьці ўсёй народнай гаспадаркі Заходняй Беларусі, чымся у Беларусі Ўсходняй вышэйшая ступень уранізацыі, багацейшы тавараварот, лепшыя шляхі зносін і г. д

Калі-б даць адзіны фокусны паказчык інтэнсыўнасьці ўсёй народнай гаспадаркі, якім можна лічыць велічыню нацыянальнага прыбытку на 1 кв. кілёмэтр паверхні краіны, дык заходняя Беларусь мела каля 5.000 руб прыбытку на кілёмэтр, Усходняя-ж Беларусь - каля 3500 руб.

Так было перад вайною. Што-ж зрабілася з народнаю гаспадаркаю Заходняй Беларусі цяпер, калі яна папала пад Польшчу Заходняя Беларусь зьяўляецца цікавым аб'ектам для навуковага вывучэньня, асабліва для параўнаўчага вывучэньня разам з Савецкай Беларусьсю. Гэта як бы жывы экспэрымент для вывучэньня таго ўплыву, які робяць на гаспадарку соцыяльныя фактары соцыялістычная і капіталістычная арганізацыя гаспадаркі, незалежная эканамічная палітыка краіны — дзяржавы (БССР) і залежная эканамічная палітыка краіны—калёніі (Зах. Беларусь).

Заходняя Беларусь была разбурана войнамі і акупацыямі, як нiякая іншая краіна ў сьвеце. Каля $^2/_3$ насельніцтва, звыш 1.900 тысяч чалавек пакінулі яе абшары Гаспадарка гэтай масы ўцекачоў цалком сьцёрлася; шмат шкоды мелі і гаспадаркі тых, хто застаўся на месцы. Агулам можна лічыць, што уся нацыянальная маемасьць Заходняй Беларусі зьнізілася на 50—60% .

Аднак каля 700 - 800 тысяч уцекачоў зьвярнулася назад. Польскі урад, па нацыяналістычных меркаваньнях, рабіў усе высілкі, каб калёнізаваць Заходнюю Беларусь. Некаторыя польскія нацыяналісты (В. Студніцкі) меркавалі пасяліць у Заходняй Беларусі каля 700 тыс. палякоў. Проэктавалі калёнізаваць ня толькі беларускія вёскі, але і гарады. Справе калёнізацыі і гаспадарчай адбудове Заходняй Беларусі амаль аднадушна надалі значэньне, як справе ўсяго далейшага жыцьця і існаваньня Польшчы.

Тэмп аднаўленьня разбуранай краіны заўсёды шпаркі. Здавалася, што ў Заходняй Беларусі ён будзе асабліва шпаркім: Зах. Беларусь была разбуранай. Заходняй Беларусі аддавалі нібы выключную ўвагу.

Эканоміка перамагла аднак усякую палітычную фантастыку.

Польшча была зьлеплена з 5 рознародных гаспадарчых частак: Пазнань і Памор'е, Шлёнск, Кангрэсуўка, Заходняя Украіна і Галіцыя, Заходняя Беларусь. Гэтыя часткі пад уплывам старых гаспадарча-палітычных камплексаў, у склад якіх яны ўваходзілі, стварылі кожная ў сябе сваю сыстэму і тып гаспадаркі, адпаведна існаваўшаму ў старых палітычных комплексах падзелу гаспадарчых функцый між асобнымі раёнамі. У новай Польшчы старыя эканамічныя сувязі паасобных яе частак былі разарваны. Адпалі цалком усходнія рынкі—асноўная прычына шыбкага індустрыяльнага разьвіцьця Кангрэсуўкі і часткі Заходняй Беларусі.

Польшча, як краіна з прамысловасьцю менш інтэнсыўнай і высока арганізаванай, чымся прамысловасьць Заходня-Эўрапейскіх і Амэрыканскіх індустрыяльных раёнаў, не змагла адшукаць рынкаў збыту для

прамысловасьці на захадзе: гэта цалком адпавядала ранейшым фактам гісторыі эканамічнага разьвіцьця Эўропы. На захад Польшча магла-б арыентавацца толькі, як краіна аграрная.

Каб захаваць магчымасьці прамысловага разьвіцьця, Польшча пачала шукаць іншых усходніх рынкаў, апрача Савецкага. Але ёмістасьць іх была невялікая. І Польшча стала на шлях павялічэньня прамысловай ёмістасьці унутранага рынку. Гэта павялічэньне магло стварыцца толькі праз концэнтрацыю прамысловасьці ў найбольш прамысловых раёнах і заміраньне яе у іншых мясьцінах. Так і адбылося. Польшча не разьвіла сваю прамысловасьць, а дасягнула толькі яе стабільнасьці,—шляхам індустрыялізацыі цэнтру (Конгрэсуукі) і аграрызацыі іншых частак краіны

### *Аграрызацыя Заходняй Беларусі і ёсьць асноўнае зьявішча ў гаспадарчым разьвіцьці яе пад Польшчай*

У 1926 годзе ў Віленскім ваяводзтве працавала на 1813 прадпрыемствах 7 866 рабочых супраць нормальна-занятых 12.130, або процант занятасьці быў 65. На прадпрыемствах, якія можна параўняць з лічбамі 1910 г., у Віленскім ваяводзтве у 1926 годзе працавала 6 684 рабочых супраць 13.614 у 1910 годзе. Пад наглядам фабрычнай інспэкцыі Польшчы было рабочых на Віленшчыне у прадпрыемствах звыш 5 рабочых: 1924 год—11.723, 1925 г.—10.909, 1926 г.—9.079. Найбольшы ўпадак есьць у прамысловасьці: гарбарная, тэкстыльная, мэталургічная, папяровая, мінэральная.

У важнейшым прамысловым асяродку Заходняй Беларусі—г. Беластоку, дзе у 1913 г. было 5.592 рабочых, або каля ¾ усіх рабочых Горадзеншчыны у 1926 г. налічана толькі 3 545 рабочых, або 63,4% ад 1913 года. Найбольшы заняпад у Беластоку адбыўся у прамысловасьці: тэкстыльнай (з 4827 рабочых у 1913 г., асталось 2 695 раб. у 1926 г., або зьмяншэньне на 32,5%), гарбарнай, мэталургічнай. Зьявіліся некаторыя новыя для Беластоку галіны прамысловасьці: лясная, мінэральная, электротэхнічная, разьвілася спажывецкая прамысловасьць. Але некаторая перагрупіроўка галін прамысловасьці не ўратавала Беластоцкую прамысловасьць ад агульнага заняпаду. Найбольш заняпалі ў Беластоку буйныя і дробныя прадпрыемствы, сярэднія былі найбольш трывалымі.

У цэнзавых прадпрыемствах (звыш 20 рабочых на адно прадпрыемства) ува ўсёй Заходняй Беларусі ў жніўні 1925 года было занята 10 938 рабочых на заводах, якія працуюць і 4.778 рабочых на фабрыках і заводах, якія не працуюць,—значыцца не працавала 43,7% усіх рабочых. Найбольшы застой быў у прамысловасьці: тэкстыльнай, папяровай, хімічнай, мінэральнай, лясной.

Калі разгрупаваць Заходня-Беларускую прамысловасьць па характару геаграфічнай арыентацыі, дык на прамысловасьць, якая арынтуецца на рабочыя рукі прыдзецца 47,3%, на матэрыяльна-арыентаваную прамысловасьць 41,4% і на тую, якая арыентуецца на мясцовыя спажывецкія цэнтры—11,3%. У 1913 г. рабоча-арыентаваная прамысловасьць займала 63,4% ад гуртавой прадукцыі, тады як у 1926 годзе толькі 47,3% па ліку рабочых. Час, калі зьмяншаецца рабоча-арыентаваная прамысловасьць і павялічваецца прамысловасьць матар'яльна-арыентаваная, азначае сабою ў Заходня-Беларускіх умовах гаспадарчы крызіс і заняпад.

Зрабіць параўнаньне дынамікі прамысловасьці Заходняй Беларусі хаця-бы па такому прымітыўнаму паказчыку, як лік рабочых, немагчыма за адсутнасьцю параўнальных статыстычных ведаў за больш-менш значны час. Зьмены ліку рабочых з 1-І—1925 да 1-VII—1926 г. па асобных месяцох паказвае графік № 1 на стар. 27 (у гары па прадпрыемствах, якія працавалі і ў нізе па тых, што не працавалі).

Часам найбольшага заняпаду быў канец 1925 г., калі лік рабочых на працаваўшых прадпрыемствах быў блізкі да ліку рабочых на непрацаваўшых заводах.

У гэты час лік рабочых у Беластоку зьнізіўся да 10% нармальнага ліку; спад на 90% азначаў глыбокі крызіс. У тэкстыльнай прамысловасьці за 1925 г. працавала толькі 20% верацён, 30% кросен (станкоў) і 25% рабочых ад нармальнага ліку.

Графік № 1




За час з 1-VIII—1926 г. да 1-VIII—1927 г. заўважаецца некаторае палепшаньне. Гэта відаць з графіку № 2 (на стар 28)—ліку рабочых па найбольш індустрыяльных паветах Зах. Беларусі, Беластоцкаму, Віленскаму, Горадзенскаму.

Беспрацоўе ў Заходняй Беларусі вельмі моцнае. Графік № 3 (на стар. 29) паказвае, як зьмяняўся лік беспрацоўных па месяцох з 1-IX 1924 году да 1-XII—1927 г., або за 40 месяцаў. Лік беспраоўных за 1925 год быў прыблізна ровен ліку занятых рабочых, у 1926 годзе лік беспрацоўных.

страшэнна узрос, перавысіўшы лік занятых рабочых у два разы. 1927 г. прашоў пад знакам спаду беспрацоўя, канец 1927 году зноў паказвае павялічэньне беспрацоўных.

График № 2.




Сельская гаспадарка Заходняй Баларусі атрымала, як здаецца з першага разу, спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця ў Польшчы: Заходняя Беларусь стала як-бы бліжэй да Заходня-Эўрапэйскага рынку, бо з яе прадукцыяй не канкуруе ўжо прадукцыя Ўсходу Эўропы, адпалі ўсе абмяжаваньні цэн праз мытную палітыку Расейскай імпэрыі. І сапраўды цэны ў Заходняй Беларусі на сельска-гаспадарчыя прадукты вельмі вырасьлі, вырасьлі значна вышэй, чымся ўва ўсіх іншых частках Польшчы. Але адносіны цэн зрабіліся больш спрыяючымі збожжавай (зярнёвай) гаспадарцы, чымся жывёлагадоўлі.

Дынаміка асноўнага элемэнту сельскай гаспадаркі—засеўнай плошчы па пяцёх галоўных культурах выяўляецца ў Заходняй Беларусі так (мільёны гэктараў):

| 1909-1913 г. | 1922 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| 2,16 | 1,55 | 1,69 | 1,80 | 1,88 | 1,89 |

+ % да папярэдняга году

| | | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Ваяводзтвы: | Зах. Бел. | + 9,4 | + 6.3 | +4,4 | +0,7 |
| | Беластоц. | + 8.2 | + 3,2 | +1,5 | —3,7 |
| | Віленск | + 8,1 | + 4,0 | +4,3 | -1,2 |
| | Наваград | +11,4 | + 8,7 | +3,8 | +0.5 |
| | Палеск. | +11.8 | +13,5 | +6,8 | +4,2 |

Як бачым, тэмп аднаўленьня сельскай гаспадаркі быў ня вельмі моцным у Заходняй Беларусі і вельмі хутка згас. У Беластоцкім і Віленскім ваяводзтвах, якія менш пацярпелі ад вайны, пачалося нават зьмяншэньне засеўнай плошчы. У Палескім і Наваградзкім ваяводзтвах,

Графік № 3


23000
22000
21000
20000
19000
18000
17000
16000
15000
14000
13000
12000
11000
10000
9000
8000
7000
1924г
1925г
1926г
1927г

якія былі найбольш разбураны вайною, ідзе яшчэ, але вельмі павольны, блізкі да нармальнага часу, узрост.

У адносінах да даваеннага часу (1909-1913 г. г.) засеўныя плошчы у пачатку аднаўленчага пэрыяду (1922 г.) і канцы яго (1926 г.) стаялі ў Заходняй Беларусі так:

| | | |
|---|---|---|
| Заходняя Беларусь | —28,4% | —12,4% |
| Беластоцкае ваяв. | —17,9% | — 3,7% |
| Віленскае „ | —10,2% | + 4,2% |
| Наваградзкае „ | —36,6% | —19,6% |
| Палескае „ | 53,7% | —34,6% |

Засеўныя плошчы Заходняй Беларусі (узяты толькі беларускія паветы) яшчэ далёка да даваеннага узроўню, асабліва па Палескаму ваяводзтву (не хапае звыш ¹ .) і Наваградзкаму (не хапае ¹/₃ засеўнай плошчы); разбурэньне было найбольш моцна як-раз у гэтых ваяводзтвах.

Такім чынам тэмп аднаўленьня засеўнай плошчы ў Заходняй Беларусі ужо спыніўся, а між тым даваенны узровень не дасягнут: у Заходняй Беларусі адбылася стабілізацыя сельскай гаспадаркі на недаразьвітым узроўню. Аб гэтым сьведчыць і вялікі лік аблогаў, які быў нават у 1926 г ровен 4794 тыс гэктарау (сюды ўвайшла і частка нягожай зямлі).

У прапорцыі пяцёх галоўных культур адбыліся такія зьмены па ўсёй Заходняй Беларусі:

| культур: | 1909-13 г. | 1922 г. | 1926 |
|---|---|---|---|
| Жыта | 50,8 | 51,4 | 52,6 |
| Бульба | 14,4 | 15,0 | 15,0 |
| Ячмень | 9,1 | 9,5 | 8,6 |
| Авёс | 23,1 | 22,3 | 22,1 |
| Пшаніца | 2,6 | 1,8 | 1,7 |

Характэрнае зьявішча тут—павялічэньне жыта, стацыянарны стан бульбы, рэзкае зьмяшэньне ячменю і больш павольнае зьмяншэньне пшаніцы і аўсу. Павялічэньне жыта характарызуе сабою процэс экстэнсыфікацыі палявой гаспадаркі.

Польская статыстыка не дае дакладных вестак аб усіх культурах, асабліва шкода, што няма матэрыялаў аб засеве траў, проценту папару і г. д.

Тэхнічныя культуры разгортваюцца павольна:
Засеўная плошча ў тыс. ha

| Годы: | Лён | Каноплі |
|---|---|---|
| 1922 | 29.0 | 0.9 |
| 1923 | 29.5 | 0.9 |
| 1924 | 30.5 | 0.9 |
| 1925 | 31.7 | 0.9 |
| 1926 | 32.3 | 0.9 |

Некаторае павялічэньне засеўных плошчаў лёну сьведчыць аб экстэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі Заходняе Беларусі, дзе процэс прогрэсыўнае эволюцыі быў зьвязаны са зьмяншэньнем засеваў лёну.

Ураджаі перад вайною і за апошнія пяць год былі ў Заходняй Беларусі такія (у квінталях з аднаго гэктару):

| Культуры: | 1909 13 г. | 1922 г. | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта | 7,5 | 8,3 | 9,8 | 6,6 | 9,9 | 7,8 |
| Авёс | 7,2 | 7,6 | 10,1 | 6,4 | 8,3 | 7,6 |
| Ячмень | 7,9 | 8,1 | 10,2 | 7,5 | 9,6 | 9,6 |
| Пшаніца | 8,7 | 8,8 | 10,5 | 7,5 | 10,6 | 9,8 |
| Бульба | 66 | 131 | 98 | 83 | 85 | 102 |

Асаблівасьцю Заходняй Беларусі за апошнія пяць год зьяўляецца вялікае хістаньне ўраджаяў, іх няўстойлівасьць: год ураджайны зьмяняецца годам неўраджайным. Неўраджайнымі былі гады: 1922, 1924, 1926; больш ураджайнымі—1923, 1925.

Згодна польскай статыстыкі ўсе апошнія годы, за выключэньнем зусім неўраджайнага 1924, далі ўраджаі нібы большыя, чымся яны былі перад вайною; нібы ўзрост ураджаю у Заходняй Беларусі быў самым моцным з усіх частак Польшчы. Але гэты факт ёсьць ня больш як статыстычная фікцыя, бо перадваенная расейская статыстыка, як гэта добра высьветлена навуковаю крытыкаю, паказвала ураджаі на 10—20 % менш ад супраўдных.

Аб стане жывёлагадоўлі польская статыстыка не дае матар'ялаў з году ў год. Матар'ялы перапісу 1919 і 1921 г. сьведчаць аб страшэнным упадку жывёлагадоўлі Заходняй Беларусі, але гэтыя гады былі першымі пасьля вайсковага разбурэньня. Лічбы аб стане жывёлагадоўлі ёсьць толькі па Навагрудзкаму ваяводзтву, ды й то за тры гады:

Лік жывёлы ў Навагрудчыне (тыс. галоў)

| | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|
| Коні . . . . | 148.5 | 148 7 | 158.8 |
| Быдла . . . . | 229.8 | 233 3 | 265.0 |
| Авечкі . . . | 124 5 | 154.8 | 166.6 |
| Сьвіньні . . . | 137.4 | 91 7 | 99.2 |

Тып узрастаньня ня можна лічыць прагрэсыўным: зьмяншаецца лік сьвіней (інтэнсыўны від жывёлы) і павялічваецца лік авечак (экстэнсыўны від).

Такім чынам, можна сьцьвердзіць, што і сельская гаспадарка Заходняй Беларусі не разьвіваецца, хоць адносіны цэн зрабіліся для заходня-беларускае гаспадаркі больш спрыяючымі, чым яны былі перад вайною. Справа у тым, што цэны зрабіліся спрыяючымі для зярнёвай сыстэмы гаспадаркі, нерэнтабельнай ва ўмовах дробнай сялянскай гаспадаркі і вельмі выгоднай для буйных абшарніцкіх гаспадарак Беларусі. Сама аграрная будова ў Заходняй Беларусі такая, што яна затрымоўвае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі. Па 18-ці беларускіх паветах Заходняй Беларусі, па якіх ёсьць дакладныя весткі, усе гаспадаркі па перапісу 1921 году дзяліліся так:

| Группы гаспадарак: | | Лічба гаспадарак: (тысячы) | У іх зямлі: (тыс. гэктараў) |
|---|---|---|---|
| Карлікавыя . . | да 0,5 гэкт. | 11.6 | 3.2 |
| Парцэльныя . . | 0.5— 2 г. | 31.6 | 43.0 |
| Дробныя . . . | 2—5 гэкт. | 112.5 | 395.0 |
| Сярэднія . . . | 5—10 „ | 103.0 | 732.0 |
| Заможныя . . . | 10—20 „ | 44.9 | 606.9 |
| Кулацкія . . . | 20—50 „ | 14,2 | 409.1 |
| Шляхоцкія . . . | 50—100 „ | 2,4 | 166.1 |
| Панскія . . . | звыш. 100 „ | 3,1 | 2 567,4 |
| Разам . . . . . . . | | 323,3 | 4.922,7 |

Сярэднія і бяднейшыя сялянскія гаспадаркі займаюць пераважную большасьць паміж усіх гаспадарак Заходняй Беларусі—258,7 тысяч з 320,3 тыс.,—усіх гаспадарак, а зямлі ў іх толькі 1.173,2 тыс. гэкт., або менш чым $^{1}/_{4}$ частка ўсёй плошчы. Панскія гаспадаркі займаюць па ліку толькі адну сотую частку, а зямлі ў іх больш паловы ад усёй зямельнай плошчы ўсіх гаспадарак.

У сярэдніх і дробных гаспадарках (сярэдні разьмер іх толькі каля 4 гэктараў) зярнёвая сыстэма гаспадаркі, якой цяпер спрыяюць рыначныя ўмовы Заходняй Беларусі, ня можа ужывацца, яна нявыгадна для дробных гаспадарак. Дробныя гаспадары маглі-б разгарнуць жывёлаводны ухіл гаспадаркі, але яму ня вельмі спрыяюць рыначныя ўмовы. Таму для дробных гаспадарак застаецца толькі тры шляхі: 1) арандаваць зямлю, 2) купіць зямлі, або набыць па аграрнай рэформе, 3) закінуць сваю сельскую гаспадарку і шукаць заработку на баку.

Арандуецца ў Заходняй Беларусі каля 400,3 тыс. гэктараў, або 8,1% да ўсёй зямлі. Аднак увесь гэты арэндны фонд знаходзіцца ў руках кулацкіх, шляхоцкіх і панскіх гаспадарак.

Арандуюць зямлю:

| Групы гаспадарак | Тысяч гэкт. | % арэнднай зямлі да ўсёй зямлі ў групе. | % групы ў арэндным зямельным фондзе. | Арэнда на 1 гаспад. у гэктарах. |
|---|---|---|---|---|
| Карлікавыя і парцэльныя. | 3.3 | 7,2 | 0,8 | 0,7 |
| Дробныя | 13,8 | 3,5 | 3,5 | 3,2 |
| Сярэднія і заможныя | 68.8 | 5,1 | 17,2 | 10,4 |
| Кулацкія і шляхоцкія | 89.7 | 15,6 | 22,4 | 42,1 |
| Панскія | 224.8 | 8,8 | 56,1 | 284,5 |
| Разам | 400.3 | 8.1 | 100 | 30,2 |

Звыш 3/4 (78,5%) усяго арэнднага фонду знаходзіцца ва ўладаньні кулацкіх, шляхоцкіх і панскіх гаспадарак. Карлікавыя, парцэльныя і дробныя гаспадаркі арандуюць мізэрную долю і адносна усяго арэнднага зямельнага фонду і ў разьлічэньні арэнды на адну гаспадарку (0,7–3 гэкт.). Буйныя-ж гаспадаркі арандуюць дзесяткі і сотні гэктараў (у Палескім ваяводзтве сярэдні разьмер арэнды на панскую гаспадарку 468,3 гэктары).

У падзеле арэнднага зямельнага фонду відаць яскрава выяўлены капіталістычны, Заходня-Эўропэйскі тып арэнды ў Заходняй Беларусі, тып аналёгічны ангельскаму, калі функцыі пана, арандатара і батрака рэзка падзелены між сабою. Выразны капіталістычны тып арэнды характарызаваў Заходня-Беларускую гаспадарку і перад вайною.

Такім чынам першы шлях—арэнда зямлі—загароджан для заходнябеларускага селяніна. Застаецца другі шлях—купляньне зямлі і атрыманьне яе па аграрнай рэформе. Але купляньне зямлі патрабавала-б ад селяніна значных капіталаў, бо цэны на зямлю паднімаюцца ў Заходняй Беларусі з году на год, узрост цэн у Заходняй Беларусі мацней чымся ва ўсіх іншых частках Польшчы асабліва Заходняй Польшчы:

Цана аднаго гэктару зямлі ў далярах:

| Гады: | Зах. Беларусь: | Цэнтральныя ваяводзтвы: | Заходнія ваяводзтвы |
|---|---|---|---|
| 1910—12 г. | 50,9 | 161,9 | 149,5 |
| 1920 | 16,8 | 34.7 | 82,9 |
| 1921 | 17,7 | 19,7 | 90,1 |
| 1922 | 19,2 | 39,8 | 93,3 |
| 1923 | 20,2 | 25,9 | 69,5 |
| 1924 | 42,0 | 118,7 | 147,9 |
| 1925 | 48,0 | 120,3 | 146,3 |

Заходня-беларускі селянін наагул мае вельмі малое капіталазьбіраньне, апрача таго ў зьвязку з адбудоваю гаспадаркі капіталы патрэбны яму перш-на-перш на самыя неабходнейшыя справы па аднаўленьню сродкаў вытворчасьці, таксама, хат, будынкаў і г. д. Вольных капіталаў для купляньня зямлі заходня-беларускі дробны і сярэдні селянін ня меу. Здабыць зямлю шляхам купляньня яму немагчыма.

Аграрная-ж рэформа праводзіцца так, каб усімі спосабамі затрымаць нават звычайны тэмп парцэляцыі, якім яна ішла перад вайною сама па сабе. Прафэсар Tadeusz Brzeski лічыць, што разьмеры парцэляцыі ў Польшчы за ўвесь час да 1926 году ня розьніліся вельмі ад перадваенных разьмераў парцэляцыі, і што парцэляцыйны рух пры вольным звароце зямлёю мог-бы стаць яшчэ мацнейшым, чым пры парцэляцыі.

Было распарцэлявана зямлі:

| Г а д ы: | Заходняя Беларусь | Польшча |
|---|---|---|
| 1921 . . . | 35,2 | 170,7 |
| 1922 . . . | 44,8 | 154,7 |
| 1923 . . . | 40,7 | 142,7 |
| 1924 . . . | 43,2 | 114,5 |
| 1925 . . . | 51,3 | 100,4 |
| 1921-25 . . | 215,2 | 683,0 |

Параўнаўча з усёй Польшчай парцэляцыя ў Заходняй Беларусі ідзе даволі моцна: абшары, распарцэляваныя за 5 год у Заходняй Беларусі, роўны прыблізна адной трэцяй часткі распарцэляваных зямель усей Польшчы, за 1924 год у Заходняй Беларусі распарцэлявана каля 40% і ў 1925 годзе ужо звыш 50% усіх распарцэляваных у Польшчы абшараў.

Калі-б нават уся распарцэляваная ў Заходняй Беларусі зямля папала ў рукі заходня-беларускаму селяніну, дык і тады-б гэты здабытак яго быў-бы зусім мізэрным параўнаўча з здабыткам, які атрымаў селянін Савецкай Беларусі—1.250 тыс. гэктараў.

Аднак ня ўся распарцэляваная зямля перайшла да мясцовага сялянства. Значныя плошчы былі ўжыты для мэтаў вайсковай і іншай польскай каланізацыі. Адны вайсковыя асаднікі атрымалі паміма аграрнай рэформы да 1/I—1922 г. 69,7 тыс. гэктараў зямлі. У 1924 годзе ў Заходняй Беларусі было ня мала і цывільных польскіх асаднікаў (3.381 чалавек цывільных і 4.578 вайсковых—разам 7.959), сярэдне асаднік атрымаў 27,8 гэктараў зямлі.

За атрыманую і па аграрнай рэформе зямлю заходня-беларускі селянін мусіў плаціць. Пры прыватнай парцэляцыі селянін ня мае ніякіх ільгот у плаце за зямлю, а такая прыватная парцэляцыя ахапіла ў Заходняй Беларусі большую частку распарцэляваных зямель—138,1 тысяч гэктараў. Прыватная парцэляцыя роўназначна спэкуляцыі зямлёю; шляхам прыватнай парцэляцыі зямля пападала заможнаму сялянству і кулакам, тым хто мае „gotówkę“.

Значыцца і другі шлях дабрабыту—шлях купляньня зямлі ці набыцьця яе па аграрнай рэформе—для пераважнай масы беларускага

видов заскорузлого бюрократизма, против которого надо бороться не только административными и воспитательными мерами, но и мерами Уголовного Кодекса.

Третьим, чрезвычайно важным и распространенным видом бюрократического отношения, в наших аппаратах, является гонение на тех, кто выявляет недостатки работ наших учреждений, освещает их в печати и стенгазетах, кто имеет смелость сказать своему начальству на неправильность его действий, поступков и т. д.

Необходимость решительной борьбы, с этим видом бюрократизма, особенно подчеркнул Пленум ЦК и ЦКК в своей резолюции. Из целого ряда случаев мы знаем, что последствия, для критикующих пороки бюрократических извращений, бывают иногда печальны и не всегда представляется возможным установить факт гонения или применения репрессивных мер, которые осуществляются в разной замаскированной форме, то в виде перевода на другую работу, якобы в интересах дела, то в виде выдвижений, которые в действительности являются задвижением, чтобы только избавиться от неугодного и разоблачающего элемента, а то просто—зачисляется в разряд склочников, бузотеров и т. д. Я знаю, напр., такой случай, когда за помещение в одной окр. газете статьи-фельетона о недостатках одного просветительного учреждения, по своему содержанию вполне выдержанного и абсолютно верного (статья имела целью с'экономить средства), автор этого фельетона, между прочим, работник печати и член партии, был снят за это с работы и получил выговор. Правда, впоследствии это было исправлено, но этот факт свидетельствует о наличии грубого гонения, которые еще имеют место. С ними ЦКК и РКИ ведет борьбу, когда ей об этом становится известно или если кто реагирует на это гонение, а ведь не мало случаев, когда об этом никто не знает, а если кто и знает, то не каждый имеет смелость говорить об этом. Я считаю, что в этой области борьбы, с такого рода явлениями, необходимо усилить кампанию, надо больше придавать гласности эти бюрократические извращения, не считаясь с занимаемым служебным положением лиц, подверженных бюрократической болезни, т. к эту болезнь надо лечить посредством широкой гласности. Нечего греха таить, мы часто церемонимся, находим неудобным одернуть как следует то или иное высокое должностное лицо, ограничиваемся личным предупреждением, личным вызовом и на этом успокаиваемся, это не лечение, а потворство дальнейшим извращениям. Мы часто говорим и пишем о необходимости решительной борьбы с бюрократизмом, а делаем, в сущности, очень мало в этом отношении. Надо решительно повести эту борьбу не на словах, а на деле. Я бы считал даже необходимым, чтобы органы, ведущие борьбу с бюрократизмом, давали периодически сводки о том, как ведется эта борьба, какие имеются результаты, число привлекаемых за бюрократизм и т. д. Это обяжет местные органы серьезнее относиться к вопросу борьбы с бюрократизмом—заострить на этом свое внимание.

Одним из главных средств борьбы с бюрократическими извращениями является тесная связь нашего госаппарата с массой трудящихся, организацию которых мы возлагаем обязанность на гос. аппарат, но мы знаем, что во многих случаях гос. аппарат отстал от общего развития страны. Не редки случаи отрыва гос. аппарата от рабочих и крестьянских масс. Советская общественность, несмотря на проводимую, в течение последних 3-х лет, кампанию, все-таки еще недостаточно вовлечена в работу по улучшению нашего аппарата, хотя нельзя отрицать и того, что наш советский аппарат значительно улучшился, не является уже таким громоздким, каким он был раньше, но этого еще мало. Целый

ряд недостатков, искривлений, неправильностей в его работе мы видим и по сегодняшний день.

Надо внести больше конкретности как в работу советской общественности, так и в повседневную работу партийных ячеек, комсомольских и профессиональных организаций, не оставляя в стороне и руководителей учреждений, которые до настоящего времени не всегда считали прямой своей обязанностью вести работу за улучшение своего аппарата, часто стояли в стороне, а иногда и тормозили проведение в жизнь тех или иных мероприятий по улучшению аппарата и изжитию бюрократических явлений; задача эта является одним из важнейших на сегодняшний день и на разрешение ее должны быть мобилизованы все силы нашей партии и всей советской общественности с пересмотром всех имеющихся на этот счет положений и указаний, которыми руководствуются партийные и профессиональные организации на местах. Необходимо внести больше конкретности и ясности в дело борьбы за улучшение нашего советского аппарата и за изжитие бюрократических извращений его.

---

Міх. Лабадаеў

# Аб цэнтральнай задачы камсамолу вёскі

(*Бедната і батрацтва*)

6-ы пленум ЦК УсеЛКСМ пастанавіў: „Пленум абавязвае ўсе камітэты і вясковыя ячэйкі саюзу паставіць працу сярод беднаты і батрацтва ў якасьці цэнтральнай задачы дзейнасьці ячэек“.

У гэтым артыкуле мы паспрабуем на канкрэтных прыкладах жывой сапраўднасьці прасачыць наколькі праца сярод беднаты і батрацтва на справе зьяўляецца—цэнтральнай задачай дзейнасьці вясковых ячэек.

Папярэднія пастановы кіруючых органаў КСМ і партыі знайшлі свой адбітак у аснаўной масе вясковых ячэек і існуючае становішча працы дазваляе ў гэтай галіне гаварыць аб некатарых выніках. Пастаноўка пытаньня аб працы сярод беднаты і батрацтва на раённых канфэрэнцыях і сходах ячэек значна садзейнічала зразуменьню сутнасьці і важнасьці пытаньня масай нізавога актыву, і ў выніку гэтага мы маем поўнае права зараз заяўляць аб тым, што нізавая маса актыву знаёма з формамі выкананьня намечаных агульных мерапрыемств

Па прыблізнаму падліку на кожную камсамольскую ячэйку акругі выпадаюць два факты гаспадарчай дапамогі беднаце (пры вучоце працы праробленай і ў час усесаюзнага суботніка). Гэта дапамога ідзе галоўным чынам, па лініі індывідуальных гаспадарак і выначаецца ў малацьбе збожжа, дапамозе ў пабудаваньні будынкаў, уборцы збожжа з поля і г. д.

Факты, калі селянін бедняк ня маючы магчымасьці адзін справіцца з той ці іншай працай зьвяртаецца ў камсамольскую ячэйку за дапамогаю і апошняя здавальняе яго просьбу, не зьяўляюцца адзіночнымі. Пры жаданьні іх можна пералічыць, але гэта ня так важна хоць-бы і таму, што яны надзвычайна паходзяць адзін на другога і тут было-б важней прывесьці агульную лічбу, але яе на вялікі жаль няма.

Ёсьць цэлы шэраг ячэек, якія штодзённа працуюць сярод беднаты і батрацтва найбольш актыўна дапамагаюць партыі ў гэтай галіне, гэтая праца зьяўляецца ў іх аснаўной. *Паміж іншым адзначым, што ячэйка дапамагаючая партыі у працы сярод беднаты і добра працуючая сярод батрацтва ў большасьці па свайму складу батрацкая або бядняцкая.* Для відавочнасьці прывядзем прыклад: Аўгалеўская ячэйка, Асьвейскага раёну, Полацкай акругі, па свайму складу амаль цалкам батрацкая, на пасяджэньні бюро разглядае наступныя пытаньні:

Слухалі: Па першаму пытаньню т. Дубро.
Пастанавілі: Камсамольцу бедняку т. Пілецкаму пакрыць страху ў дзень 27 кастрычніка.

По другому пытаньню слухалі т. Лебецкага На падставе таго, што маніфэст ад 15-га кастрычніка ЦВК СССР пакрывае сялянам запазыку, якую яны бралі ў 24—25 г. г. ад дзяр-

жавы аднак, наш камітэт узаемадапамогі карыстаючыся няведаньнем сялян пастанавіў каб запазычанасьць зьвярнулі.

Пастанавілі: Даўмовіцца райкому з старшынёю камітэту Ўзаемадапамогі.

(*Выпіска з пратаколу*)

Ячэйкі, падобна Аўгалеўскай канкрэтна разглядаючыя пытаньні працы сярод беднаты не адзіночны і вынікі акажуцца ў галіне большага росту іх за лік бедняцкай і батрацкай моладзі.

Акрамя гэтага камсамольскія ячэйкі аказваюць актыўную дапамогу парт. ячэйкам у скліканьні сходаў беднаты і часта ячэйкі КСМ па даручэньню парт. ячэек праводзяць сходы беднаты самастойна. Асноўная маса камсамольцаў прымае ў іх удзел.

Праца па кааперываньню беднаты ў значнай частцы праводзілася пры дапамозе камсамольцаў, якія выяўлялі беднату і складалі сьпісы для іх кааперыраваньня. Даволі распаўсюджанай зьяўляецца юрыдычная дапамога беднаце, якая вызначаецца ў растлумачэньні камсамольцамі шэрагу пытаньняў, зьвязаных з законадаўствам, пішуць беднякам заявы і г. д. Мястэчковыя ячэйкі разгарнулі значную барацьбу з так званымі „падпольнымі адвакатамі", якія бяруць за розныя заявы грошы, а камсамольцы праводзяць тую-ж працу дармова.

Праца сярод батрацтва ідзе галоўным чынам па лініі дапамогі органам прафсаюзу па вучоту батракоў і заключэньні працдагавароў, праверцы іх выкананьня, правядзеньні сходаў і канфэрэнцый батракоў перад наступленьнем вясеньняга найму і г. д. Гэтая праца галоўным чынам праводзіцца праз эканомпрацаўнікоў ячэек.

Вось у асноўным практычныя мерапрыемствы, якія праводзяцца камсамольскімі ячэйкамі. Аднак трэба сказаць, што *адзначаныя посьпехі не адносяцца да ўсіх ячэек, праца часта носіць раскіданы выпадковы характар і ў асноўным праводзіцца ў часе палітычных кампаній.* Перавыбары с.-саветаў, каапэрацыі, суботнік і г. д.

Ёсьць шэраг момантаў у галіне працы сярод беднаты і батрацтва, якія не прыцягнулі яшчэ ўвагі камсамольскіх ячэек і надзвычайна часта камсамольцы на пытаньне аб тым, чаму яны не працуюць даюць адказ: „Мы не разгарнулі працы таму, што яе вядзе партыя, а паколькі парт. ячэйка нічога не зрабіла, то мы таксама, бо лявей партыі быць ня можам".

*Тое, што камсамол самастойнае працы сярод беднаты не вядзе, а дапамагае партыі вельмі часта служыць апраўданьнем таго, каб нічога не рабіць.* Для пацьверджаньня гэтага прывядзем вытрымку з лісту сэкратара аднаго райкому.

> Таварыш піша: „Тое, што мы слаба працуем сярод беднаты тлумачыцца тым, што камсамольцы не вядуць працы самастойна. Але наконт дапамогі парт. ячэйкам, то становішча такое, што парт. ячэйка ня ведае як працаваць, а камсамольцы і тым больш. Гэта праца ў нашым раёне надта дрэнна пастаўлена".

Калі камсамольскія ячэйкі маюць шэраг дасягненьняў у галіне індывідуальнай, гаспадарчай і юрыдычнай дапамогі бядняцкім гаспадаркам, то значна менш робіцца ў галіне ўдзелу ў вытворчым аб'яднаньні беднаты. Гэтая праца павінна стаць чарговай і неадкладнай.

Вопыт працы, як мы ўжо казалі ў пачатку, дазваляе гаварыць аб некаторых выніках. Нам здаецца, што на падставе маючагася вопыту

трэба ў большай меры сканцэнтраваць увагу вясковых ячэек партыі і камсамолу на зьнішчэньне наступных асноўных недахопаў, якія маюцца ў працы камсамолу:

*Першае:* Да правадзімых мерапрыемстваў у працы сярод беднаты надзвычайна слаба прыцягваецца беспартыйная бядняцкая і батрацкая моладзь. Гаспадарчая дапамога беднаце не заўсёды праводзіцца праз камітэты ўзаемадапамогі, што ў значнай меры садзейнічала-б іх узмацненьню і павышэньню аўтарытэту. На абгаварэньні сходаў і груп беднаты камсамольскімі ячэйкамі не высоўваюцца пытаньні аб моладзі—па між тым як наконт гэтага была спэцыяльная дырэктыва.

*Другое:* Пры правядзеньні культурна-масавай працы ячэйкі не заўсёды высоўваюць неабходнасьць большага абслугоўваньня гэтай працай бядняцкай і батрацкай моладзі. А між тым, на практыцы некаторых ячэек, мы бачым, што ў культурна масавую працу уцягваецца галоўным чынам серадняцкая моладзь. Слаба ўцягваецца батрацкая моладзь у гурткі пры ячэйцы, на спэктаклі, вечары і г. д

У галіне ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батрацтва для камсамольцаў непачаты край прэцы, а пачаць трэба было даўно.

*Трэцяе:* Найбольш неправільным у працы вясковых ячэек КСМ сярод батракоў трэба лічыць адсутнасьць індывідуальнага падыходу да батрака і вучоту ўсіх асаблівасьцяў батрацкай моладзі, галоўнай з якіх зьяўляецца тэрытарыяльная раскіданасьць батрацтва, якая тлумачыцца пераважнасьцю хутарскай сыстэмы землякарыстаньня па некаторым акругам.

Склад батрацтва, нават ва ўмовах аднэй вёскі, надзвычайна неаднолькавы і таму падыход да батрака павінен быць абумоўлен строгім вучотам усіх асаблівасьцяў яго становішча (гаспадарка, дзе працуе, батрак, узрост і г. д) і адгэтуль павінны намячацца належныя практычныя мерапрыемствы Адсутнасьцю такога становішча трэба і тлумачыць слабасьць працы вясковых ячэек сярод батрацтва Практыку некаторых ячэек па прымацаваньню камсамольцаў да батракоў трэба лічыць найбольш удалым і ў большай меры распаўсюджыць на ўсю арганізацыю

Зусім нездавальняюча пастаўлена праца па ўцягненьню батракоў у с.-гасп. гурткі і зьнішчэньне няпісьменнасьці,—у гэтай працы павінен быць зроблены ў далейшым рашучы пералом

*Чацьвёртае:* З некаторых акруг паведамляюць аб наяўнасьці фактаў нядбайных адносін да працы сярод батракоў з боку камсамольцаў серадлякоў, сярод часткі такіх камсамольцаў існуюць настроі недаацэнкі важнасьці працы і такім настроям не заўседы даецца з боку рэшты масы камсамольцаў належны адпор.

*Пятае:* З боку кіруючых органаў КСМ асабліва ў РК не наладжана сталае кіраўніцтва працай ячэек у гэтай галіне. Вопыт працы паасобных ячэек слаба ўлічваецца і скарыстоўваецца рэштай ячэек, акрамя таго не наладжана рэгулярная праверка выкананьня дырэктыў

У далейшай працы неабходна ўзяць рашучы напрамак на тое, каб працу вясковых ячэек сярод беднаты і батрацтва паставіць у якасьці цэнтральнай задачы дзейнасьці ячэек. Патрэбна правядзеньне больш растлумачальнай працы ў арганізацыі на падставе маючыхся дырэктыў партыі і КСМ, арганізацыя навакол правадзімых мерапрыемстваў беспартыйнай моладзі, сталае кіраўніцтва гэтай галіной працы, дасканальна ўлічваючы і распаўсюджваючы маючуюся практыку.

Працу вясковых ячэек трэба прыстасаваць у большай меры да здавальненьня эканамічных і культурных запатрабаваньняў маладых батракоў і беднякоў, наладзіць лепшае культурнае абслугоўваньне бядняцкай

і батрацкай моладзі асабліва па лініі ліквідацыі няпісьменнасьці батракоў шляхам іх большага уцягненьня ў лікпункты, працу хат-чытален і г. д.

Камсамольскім ячэйкам неабходна ў большай меры ўдзельнічаць у разьмеркаваньні фондаў каапэраваньня і крэдытаваньня беднаты і сачыць за тым, каб разьмеркаваньне іх рабілася своечасова і крэдыты даваліся сапраўдна беднаце.

Мерапрыемствы па гаспадарчай дапамозе беднаце неабходна праводзіць выключна праз камітэты сялянскай узаемадапамогі і пры яго ўдзеле і імкнуцца да большага здавальненьня гаспадарчых запатрабаваньняў камсамольцаў беднякоў.

Далейшае высоўваньне батракоў на саюзную працу і усямерная дзелавая дапамога ў іх працы зьяўляецца адным з першачарговых задач арганізацыі. Пры правядзеньні працы сярод батракоў неабходна больш яе будаваць на прыстасаваньні да умоў батрацтва і ўлічваньні яе асаблівасьцяў, застасоўваць у большай меры мэтады індывідуальнай працы сярод батрацтва і нарэшце рэгулярна правяраць выкананьне дырэктыў па гэтаму пытаньню ячэйкамі і раённымі арганізацыямі.

---

**М. Г.**

# К открытию заочного комвуза в БССР

На базе развития народного хозяйства Советского Союза происходит культурно-политический рост пролетариата и крестьянства. Еще более этот рост заметен в партийной и комсомольской массе. Одной из характерных черт жизни партии был именно этот рост партийной массы. И если троцкистская нео-меньшевистская оппозиция потерпела жесточайшее поражение в своей борьбе против партии, то этим она обязана, прежде всего, чрезвычайно выросшему культурно-политическому уровню широких масс членов партии, их сознательному отношению и умению разбираться в сложных вопросах социалистического строительства нашей страны.

Рост политической сознательности и активности партийных масс усиливается, растут их культурные запросы, растет тяга к углублению политических и теоретических знаний. Существующая сеть партпросвещения,—нормальные и сокращенные школы политграмоты, совпартшколы и т. д.,—сыграла громадную роль в повышении политического и теоретического уровня членов партии. В БССР сотни партийцев проходили и проходят курс совпартшкол и школ политграмоты, сотни партийцев участвуют в работе кружков самообразования. Из этих товарищей определились значительные группы партийцев и комсомольцев, которые стремятся к повышению своей теоретической квалификации, к углубленному изучению ленинизма. Мы можем только небольшой процент товарищей партийцев пропускать чрез наши дневные и даже вечерние комвузы.

Существующая сеть комвузов не в состоянии вместить всех имеющих тягу к комвузовскому образованию, на лицо несоответствие между стремлением к комвузовскому образованию и фактическими возможностями его удовлетворения. Комвузами проводятся отдельные мероприятия для смягчения этого несоответствия. Так, комвузом имени Ленина открыт воскресный комвуз, проводящий большой важности работу. Но воскресный комвуз, по самой своей природе, имеет существенные недочеты: приходить на лекции в воскресный комвуз могут лишь товарищи, проживающие в самом Минске, проживающие в округах и районах этой возможности лишены; к тому же воскресный комвуз не может дать законченного комвузовского образования, а только определенные циклы лекций по ряду вопросов.

Решительное смягчение указанного выше несоответствия в нынешних условиях идет по линии самообразовательной работы партийцев под руководством партии. ЦК ВКП(б) своей директивой от 16 V-27 г. указывает на необходимость „разворачивания более интенсивно чем до сих пор, самообразовательной работы как в городе, так и в деревне, привлекая к ее обслуживанию учебные аппараты совпартшкол и комвузов". Таким образом, в помощь существующей сети партпросвещения приходит самообразование. Среди форм самообразовательной работы

важное место должно занять *заочное обучение*. К этой форме обучения приступает и комвуз имени Ленина, открывая *заочный комвуз*.

В чем наиболее существенные отличия заочного комвузовского обучения от обучения непосредственно в комвузе? Отличительная черта заочного обучения—это его форма. Студенты комвуза в процессе своего обучения получают устную консультацию и непосредственное организационно-методическое руководство, проверка усвоения прорабатываемого студентом материала производится путем конференций. Заочный комвуз консультацию, руководство и проверку проводит заочным путем. Заочник получает от комвуза тщательно разработанные задания, самостоятельно эти задания прорабатывает, выполняет письменную работу на определенную тему и проработанные им таким путем материалы посылает комвузу, который путем рецензирования письменных работ производит проверку правильности и степени усвоения заочником того или иного материала, выправляет ошибки, дает письменную консультацию.

Основное положительное значение системы заочного комвузовского обучения заключается в том, что она побеждает пространство и в состоянии дать комвузовское образование партийцам округа, района, фабрики, без отрыва их от производства и выполняемой ими постоянной работы. Заочное комвузовское обучение сравнительно дешевое,—оно обойдется, примерно, 4—5 рублей в месяц.

Вместе с тем в работе по заочному комвузовскому обучению есть ряд трудностей, и успехи этого обучения зависят от выполнения ряда условий. Прежде всего, *вопрос о составе заочников*. Уже то обстоятельство, что заочник должен уметь самостоятельно прорабатывать ту или иную тему, самостоятельно работать над книгой и дать письменную работу, указывает, что не всякий даже грамотный партиец сумеет [illegible] заочным обучением по программе комвуза. В этом [illegible] указания АПО ЦККП(б)Б и Комвуза имени Ленина сводятся [illegible] заочное обучение по программе комвуза расчитано на [illegible] и комсомольский актив, имеющий политическую подготовку [illegible] средних ступеней партийного просвещения, [illegible] для самостоятельной проработки литературы [illegible] излагать свои мысли, знание 4-х [illegible] Дополнительными условиями [illegible] политической работы не менее 2-х [illegible] комсомольского стажа—не менее 1-го года [illegible] менее 2-х летнего стажа физического труда в промышленности [illegible] хозяйстве. При всех этих условиях преимущество [illegible] гражданской войны и служившим в Красной Армии. АПО ЦККП [illegible] распределено по округам 125 бесплатных мест для заочного обучения в Комвузе имени Ленина (Минский, Витебский и Гомельский округа—по 25, Могилевский, Бобруйский, Оршанский, Полоцкий и Мозырский округа—по 10 мест).

Большое значение имеет *бюджет времени заочника*. Разосланные правила приема на заочный комвуз имени Ленина говорят о необходимости потратить на курс обучения—на I и III году—8 часов в неделю, на II-м году 10 часов в неделю. Фактически у заочника уйдет больше времени в связи с необходимостью серьезной проработки значительного количества литературы, выполнения письменных работ и проч. Мы не на много ошибемся, если будем считать, что в среднем у заочника уйдет на учебу 2 часа в день. Это будет довольно затруднительно при выполнении заочником своей постоянной работы (8 часов, минимум—6 часов в день) в производстве и при существующей значитель-

ной нагрузке партактива. Тут многое зависит от парторганов, которые, учитывая важность углубления марксистско-ленинской подготовки партийного актива, могут облегчить партийную и общественную нагрузку заочников. Этот вопрос, во всяком случае, нуждается в проработке.

В отношении *литературы* для прохождения курса заочного обучения дело будет обстоять по разному для отдельных товарищей. Нетрудно одинокому или малосемейному партийцу при зарплате, например, 100 руб. в месяц, расходовать ежемесячно 4—5 руб., но это будет в сильной степени затруднительно многосемейным партийцам, особенно, если они получают низкую зарплату. На помощь должны притти библиотеки государственные, партийные, союзные и др. Вовсе не будет грешно, если партийные кассы взаимопомощи окажут помощь отдельным нуждающимся заочникам для приобретения ими необходимой литературы.

Наконец, немаловажное значение для заочников, особенно, в первое время, будет иметь *устная консультация*, помимо письменной, проводимой комвузом. Помощь в этом отношении заочник должен получить в совпартшколе, бюро самообразования окружкомов партии и т. д.

При наличии этих основных условий, заочное обучение по программе комвуза будет иметь положительные результаты.

В издании Госиздата вышел первый номер журнала Агитпропа ЦК ВКП(б) Б. Коммунистического Университета имени Свердлова и Ленинградского Коммунистического Университета: „Заочный Коммунистический Университет". „Журнал ставит своей основной задачей обслуживание системы заочного обучения, которое начинают проводить Коммунистические Университеты имени Я. М. Свердлова, Ленинградский, Средне-Азиатский и др." (проспект журнала). Таким образом, журнал „ЗКУ" является органом комвузов, проводящих заочное обучение и служит им для руководства и обслуживания заочников. Журнал будет помещать задания для заочников по программе Комвуза, учебно-вспомогательный материал и проч. Журнал ведут преподаватели старейших и наилучше поставленных Комвузов имени Свердлова и Ленинградского. Он имеет безусловно большое значение и для комвузов, ведущих заочное обучение, и для заочников, которые будут пользоваться материалами, печатываемыми в журнале. Однако, значение журнала „ЗКУ" выходит за эти пределы. Органы партийного самообразования смогут, на основе заданий и методических указаний журнала, наладить кружковые и индивидуальные понятия как по всему курсу, так и по проработке отдельных комвузовских дисциплин. Беспартийный советский общественник, для которого комвуз закрыт, сумеет, пользуясь журналом, пройти курс комвуза.

Первый номер журнала дает вводную и редакционную статью, раз'ясняющие постановку заочного комвузовского обучения и роль журнала в этом отношении, статью Баклаева о письменных работах для рецензий, содержащую ценные методические указании, учебный план комвуза и начало 4-х курсов (техника развития устной и письменной речи, экономическая география, история революционного движения Западной Европы и Америки XIX и XX в. в., история России). Намеченные журналом задачи очень велики, программа журнала очень широка, но можно быть уверенным, что журнал, руководимый Агитпропом ЦК ВКП(б) со своими задачами справится. Журнал безусловно важен и нужен.

Работа партии направлена по линии усиления политического самообразования, углубления теоретического познания Марксизма и Ленинизма. В области заочного комвузовского обучения эти усилия сказываются в открытии комвузами заочных комвузов, в ассигновании дополнительных средств на эту работу и в издании специально журнала „ЗКУ". Успешные результаты этой работы партии по поднятию теоретической квалификации партийного и комсомольского актива безусловно скажутся, если те группы, на которые заочное комвузовское обучение расчитано, всерьез возьмутся за учебу, и местные парторганы им помогут.

---

# У ДАПАМОГУ ДАКЛАДЧЫКУ

## Павялічыць экспарт—наша баявая задача

*(Матар'ял для дакладчыкаў, прапагандыстаў і агітатараў)*

XV Зьезд УсеКП(б) даручае ЦК весьці далейшую працу на аснове далейшага сыстэматычнага развіцьця эканамічных сувязяй з капіталістычнымі краінамі, пры [illegible] росту гаспадарчай самастойнасьці Савецкага Саюзу.

*(З пастановы XV Зьезду УсеКП(б))*

### Што такое замежны гандаль?

1. Усё, што дае глеба, нетры і праца насельніцтва краю—яе сельская гаспадарка, здабываючая і апрацоўваючая прамысловасьць —часткаю знаходзіць ужытак у самым краі, спажываецца яго насельніцтвам або ідзе на забясьпячэньне яго прамысловасьці сыравінай, апалам, абсталяваньнем і дапаможнымі матар'яламі,—часткова збываецца у іншыя краі. Чым больш шырэй і рознастойныя багацьці сыравіны краю, тым шырэй і больш трывалая яе гаспадарчая незалежнасьць ад увозу з замежжаў ад іншых краёў. Для Савецкага Саюзу, існуючага ва ўмовах капіталістычнага акружэньня, гэты момант набывае асаблівае значэньне. Нам асабліва неабходна імкнуцца да развіцьця сваіх рэсурсаў сыравіны, каб самім у выстарчальнай меры і без перабояў забясьпечваць свае фабрыкі, заводы і ўсякую іншую вытворчасьць. Максымальнае выкананьне загатовак усякага рода сыравіны, зьяўляецца таму аднэю з асноўных нашых гаспадарчых задач. Гэтым мы ня толькі забясьпечваем здавальненьне сваіх патрэбнасьцяй у сыравіне, але і атрымоўваем магчымасьць прадаваць яе за граніцу, узмацняючы гэтым у сваіх інтарэсах тыя „эканамічныя сувязі з капіталістычнымі краінамі", аб якіх гаворыць пастанова XV партзьезду.

Вываз данага краю у іншыя краіны і ўвоз яго з іншых краёў складаюць замежны гандаль гэтага краю.

Суадносіны ўвозу (імпарту) і вывазу (экспарту) утвараюць гандлевы баланс краю, які лічыцца станоўчым (актыўным) калі вываз перавышае увоз, і адмоўным (пасыўным) у адваротным выпадку. Паколькі ад экспарту сваіх тавараў край атрымоўвае сродкі, на якія закупляюцца патрэбныя яму замежныя тавары, зразумела, што разьмеры экспарту зьяўляюцца надзвычайна важнымі для здаваленьня імпартных патрэбнасьцяй краю.

Замежны гандаль у СССР знаходзіцца поўнасьцю ў руках пралетарскай дзяржавы і служыць вялізнай прыладай, якая садзейнічае ўмацаваньню дыктатуры пралетарыяту і забясьпечвае разьвіцьцё сацыялістычных элемэнтаў народнай гаспадаркі.

### Навошта нам патрэбен экспарт

2. Пры згрупаваньні асноўных галін народнай гаспадаркі, іх пляна-ваньня і забясьпячэньня ў руках дзяржавы і пры немагчымасьці атрыманьня колькі-небудзь значных доўгатэрміновых крэдытаў і пазык заграніцай, адзінай крыніцай для аплаты набываемых там тавараў служыць

для Савецкага Саюзу экспарт. Найбольш шпаркае ажыцьцяўленьне вялізарных плянаў індустрыялізацыі і электрыфікацыі краю патрабуюць увозу з заграніцы рознастайнага прамысловага, сельска-гаспадарчага абсталяваньня, напоўфабрыкатаў і дапаможных матар'ялаў. Каб атрымаць патрэбную для гэтых закупак валюту Савецкі Саюз павінен выкінуць на замежны рынак адпаведную колькасьць збожжа, сыравіны і вырабаў. Усякае недавыкананьне экспартнага пляну няўхільна цягне за сабой і скарачэньне імпарту, а тым самым цяжкасьці і замінкі на тым або іншым вучастку нашага будаўніцтва. „Неадпаведнасьць паміж узроўнем разьвіцьця замежнага гандлю і разьвіцьцём унутранай вытворчасьці краю — гаворыць пастанова XV партканфэрэнцыі — ставіць ва ўвесь рост задачу максымальнага пашырэньня экспарту", бо „ажыцьцяўленьне індустрыялізацыі на данай стадыі разьвіцьця ўпіраецца у неабходнасьць максымальнага увозу абсталяваньня, магчымасьць пашырэньня якога залежыць ад пашырэньня экспарту".

## Экспарт і імпарт СССР

3. Разьмеры замежна-гандлёвага звароту СССР і даваеннай Расіі характарызуюцца наступнымі лічбамі (у мільён р.).

| | Вываз | | Увоз | |
|---|---|---|---|---|
| | Па даваен. цэнам | Па сучасн. цэнам | Па даваен. цэнам | Па сучасн цэнам |
| [illegible] | 1520,[illegible] | | 1[illegible]0 | — |
| 192[illegible]-24 г. | [illegible] | 522,[illegible] | 240,[illegible] | 18[illegible] |
| [illegible]24-25 г. | [illegible] | [illegible] | [illegible] | 720,2 |
| [illegible]25-26 г. | 4[illegible] | 6[illegible] | [illegible]2 | 750,3 |
| 192[illegible]-27 (па [illegible]) | [illegible]58,0 | [illegible] | [illegible] | 712,6 |

Зварот замежнага гандлю Савецкага Саюзу, хоць няўхільна ўзрастае з году у год, аднак, далека яшчэ не дасягнуў даваенных разьмераў. Увоз у 1924-25 г., які рэзка павялічыўся (у параўнаньні з 1923-24 г.) ня мог атрымаць у наступныя годы далейшага росту па тэй простай прычыне, што вываз разьвіваўся больш паступова і ня мог да мінулага 1926-27 г. пакрыць кошт увозу. Гандлёвы балянс наш за 1924-25 і 1925-26 г. г. паказаў значны дэфіцыт, які не пакрываўся накапленьнямі папярэдніх год, і імпарт стабілізаваўся да тых часоў, пакуль рост вывазу не дазволіць нам пашырыць і межы ўвозу.

У рэзалюцыі XV зьезду ЎсеКП(б) аб гэтым сказана: „выходзячы з агульнага курсу замежнага гандлю (максымум гандлёвых сувязяй пры умове узмацненьня свайго вытворчага базысу і ўзрастаючай незалежнасьці ад капіталістычнага сьвету), неабходна будаваць плян замежнага гандлю, з абавязковай установкай на *актыўны балянс*". Першапачатковая сума вызначанага па пляну экспарту павінна быць таму забясьпечана абавязкова.

## Замежны гандаль БССР

4. БССР таксама уносіць сваю долю ў агульны экспарт Савецкага Саюзу і атрымоўвае імпартныя тавары для сваёй прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і інш. гаспадарчых і культурных патрэбнасьцяй. Вось лічбы нашага вывазу за апошнія гады (у мільёнах руб. па сучасным рэалізацыйным цэнам):

| | |
|---|---|
| 1925-6 г. | 7,5 |
| 1926-7 г. | 8,5 |
| 1927-8 г. (па пляну) | 11,6 |

### Што мы прадаем заграніцу

5. Што-жа мы прадаем заграніцу? Перш за ўсё—лес; сасновыя і яловыя бярвэньні і пілаваныя матар'ялы, дубовыя кражы, бачарную клёпку, фанэру з альшыны, таксама асіну, ясень і інш. За 1926-27 г. усякіх лесаматар'ялаў было вывезена на суму каля $2^3/_4$ міл. руб.

Другая па важнасьці рэч беларускага экспарту—шчаціна. У апрацаваным выглядзе яе за мінулы год вывезена на 1,4 міл. руб., а ў 1927-28 г. вываз яе перавысіць 2 міл. руб.

Вываз футравых мяхоў перавысіў мільён руб., і лён (па аднаму Белдзяржгандлю)—$^1/_2$ міл. руб., ільнянога насеньня і жмыхаў—0,6 міл. р.

З іншых тавараў найбольш значныя: сырыя скуры (футравыя)—$^1/_2$ міл. руб., грыбы (310 тыс. руб.), конскі і інш. волас (звыш 300 т. р.), кішкі і цялячыя страўнікі (260 т. р.), сырыя скуры (190 тыс. руб.), яйцы (165 тыс. руб.), смалапрадукты (125 т. р.), лекавыя расьліны і смарчкі (110 т. р.). У невялікай колькасьці вывозіліся: жывыя гусі, пянька, трап'ё, кароўя шэрсьць, ракі, яблыкі, бульба, брусьніцы, агурковае насеньне, ільняны пух.

Такім чынам, апрача лесаматар'ялаў, важнейшую ролю ў нашым вывазе граюць прадукты жывёлагадоўлі і наогул жывёльнага паходжаньня (за 1926-27 г. на суму каля 3,9 міл. руб., уключаючы футравыя мяхі) і тэхнічных культур (1,1 міл. рубл.). Увесь іншы экспарт, даволі стракаты па намэнклятуры, недасягнуў і 1 міл. руб., пры чым галоўнейшымі яго галінамі зьяўляюцца грыбы, лекавая сыравіна і смалапрадукты

### Экспарт наш трэба павялічыць

6. З пункту гледжаньня агульнасаюзнага экспарту, у экспарце БССР большасьць стацей належыць да ліку другарадных па значэньні, часткова такіх, вываз якіх яшчэ толькі пачынаецца і якім да гэтага часу зьярталася мала ўвагі. Патрэбнасьць індустрыяльнага будаўніцтва, якое разгортваецца, дыктуе неабходнасьць максымальнага павялічэньня экспарту па ўсёй лініі, высоўваючы і гэтыя другарадныя экспартныя рэсурсы на першы плян. Побач з усямерным павялічэньнем экспарту па асноўным стацьцям, як лес, шчаціна, футры, валакно, перад намі стаіць задача—разьвіць вываз другарадных рэчаў, адшукаць у гэтым кірунку новыя, яшчэ нескарыстаныя магчымасьці, давесьці да магчымай паўнаты пералік вывазімых тавараў, уцягнуць у экспарт усе галіны народнай гаспадаркі краю, усе вытворчыя сілы вёскі і гораду. Намэнклятура вывазімых намі заграніцу тавараў да гэтага часу пашыралася вельмі павольна: за мінулы год было прыступлена да экспарту толькі некалькіх новых рэчаў (трап'ё, яблыкі, брусьніцы, бульба, ільняны пух), ды і то ў мізэрнай колькасьці. Бязумоўна, што ў намэнклятуру нашага экспарту можна і павінны ўключыць яшчэ цэлы шэраг рэчаў, ад якіх, наколькі-бы малазначнымі ня былі некаторыя з іх, у агульным ліку атрымаецца даволі значны эфэкт. Павялічэньне экспарту БССР у бягучым годзе супроць мінулага напалову павінна быць дасягнута за кошт другарадных і новых рэчаў.

### Увага дробязям

7. Для гэтага неабходна перш за ўсё так павесьці загатоўкі, каб яны абхапілі і выцягнулі ўсё прыгоднае для экспарту, для ператварэньня ў валюту. *Асабліва чынна павінны праявіць сябе каапэрацыйная сыстэма, нізавыя зьвеньні якой пакуль вельмі мала зрабілі ў гэтым напрамку.* Непасрэдна маючы стасункі з вёскай, яны заклікаены ў першую чаргу да загатоўкі ўсяго, што дае сялянская гаспадарка, усяе каштоўнае сыравіны, усіх адходаў і адбросаў, якія даволі часта прапа-

даюць дарэмна, ня прыносячы жаднай карысьці ні селяніну, ні дзяржаве. Сярод гэтых адбросаў і адходаў ня мала будзе гэткага, што пасьля належнага адбору ці апрацоўкі можна накіраваць для продажу заграніцу. Трапкі, косьці, рогі капыты, кішкі шэрсьць, пух і пяро, ачэсы і пакля, старыя вяровачныя чуні пчаніна, конскі хвост і грыва, лекавыя травы, грыбы, сялянскія тканіны, усё гэта павінна загатаўляцца і ў максымальнай меры ператварацца на экспарт.

*Каапэрацыя непасрэдна маючы стасункі з сялянствам павінна прыкладаць усю энэргію да таго, каб праз сваіх зборшчыкаў і карабейнікаў усе гэтыя каштоўныя для экспарту рэчы, сабраць усё тое, што само ня ідзе на рынак, а ляжыць і часта прападае ў сялянскай гаспадарцы без карысьці, ня маючы ў вачок селяніна ніякай або належнай цаны*

## Усё экспартнае—для экспарту

8. У гэтых адносінах у нас справа знаходзіцца ня у зусім добрым стане. Экспартныя тавары не аддзяляюцца ад няэкспартных; лішкі па здаваньні попыту БССР не накіроўваюцца заграніцу, для экспарту-жа яны могуць даць значнае папаўненьне. Усе загатоўчыя арганізацыі павінны забясьпечыць безагаворачны зварот на экспарт у ўсіх сваіх тавараў экспартнага характару

## Якасьць экспарту—неабходная ўмова посьпеху

9. Досыць важным пытаньнем нашага экспарту зьяўляецца якасьць тавараў, якія мы загатаўляем і накіроўваем замежы. Гэтаму пытаньню павінна быць зьвернута зусім выключная ўвага, замежны рынак у адносінах якасьці тавараў надзвычайна патрабавальны. Для ўсіх тавараў там існуюць пэўныя ўмовы (кандыцыі стандарт), якім ён павінен здавальняць бяз усякіх адступленьняў. Гэтыя ўмовы датычацца ня толькі якасьці тавараў у пэўным сэнсе, але і яго вонкавага выгляду, упакоўкі, роду і разьмеру тары, маркіроўкі і г. д. Тавар, які нездавальняе ў поўнай меры ўсім патрабаваньням, або зусім не знаходзіць збыту, або можа быць проданы з вялікай стратай ў цане. За тавары, асабліва выдатнай якасьці дасягаюцца і больш высокія цэны. Трэба таму экспартаваць ня проста дабраякасныя, або нават высокай якасьці тавары, але абавязкова такія і ў гэткім іменна выглядзе, як гэтага патрабуе замежны рынак. Толькі пры гэтай умове, наш экспарт можа разьлічваць на нармальны збыт.

## Патрэбна стварыць у БССР трывалую экспартную базу

10. Дасягненьне лепшае якасьці некаторых тавараў патрабуе ўняесеньня ўдасканаленых прыёмаў і мэтадаў у іх апрацоўцы для другіх—больш капітальных і працяглых па часу мерапрыемстваў, накіраваных на атрыманьне патрэбнага для экспарту высока-якаснага пачатковага матэрыялу. Гэтыя апошнія мерапрыемствы падвядуць пад наш экспарт трывалы фундамант, забясьпечаць яго сталасьць, бесьперабойнасьць і пасьлядоўнае разьвіцьцё

XV партканфэрэнцыя прызнала „зусім неабходным стварэньне трывалай экспартнай базы народнае гаспадаркі шляхам заахвочваньня разьвіцьця адпаведных галін сельскай гаспадаркі і прамысловасьці“.

У БССР маюцца ў наяўнасьці спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця экспартнага птушніцтва, у сучасным стане яно можа даць і дае для экспарту ня шмат: курэй вывозіць зусім няма магчымасьці; экспарт яек невялікі, пры гэтым яны дробныя і расцэньваюцца заграніца нізка; гусей патрэбнай якасьці таксама аказваецца абмежаваная колькасьць. Неабходна

таму перш за ўсё палепшыць гатунак курэй і гусей шляхам распаўсюджваньня гатунковых птушак; далей, паставіць шэраг буйных мэханічных інкубатараў прамысловага тыпу і г. д., аналёгічныя мерапрыемствы трэба правесьці да разьвіцьця гадоўлі трусоў, што ўяўляе некаторы экспартны інтэрас (увоз і распаўсюджваньне гатунковых трусоў, абсталяваньне адпаведных памяшканьняў для гадоўлі трусоў). Усе гэтыя мерапрыемствы магчыма правесьці праз каапэрацыйныя арганізацыі пры шырокім удзеле працоўных мас сялянства.

Другою важнаю галінаю для экспарту зьяўляецца гадоўля сьвіней. Яшчэ да пабудаваньня бэконнае фабрыкі неабходна весьці узмоцненым тэмпам працу па разьвядзеньні скорасьпелых бэконных сьвіней.

Абсталяваньне рыбных гаспадарак дасьць магчымасьць разьвіць у шырокіх разьмерах экспарт рыбы і ракаў. У бягучым годзе было прыступлена да вывазу рыбы (карпа) ў сьвежым выглядзе. Проба аказалася наогул удачнай. Неабходна шырока паставіць разьвядзеньне рыбы для экспарту: гэта можа даць сялянам рыбаводам значны прыбытак і скласьці буйную экспартную стацьцю.

Інтарэсы нашага ільна-экспарту і ўнутранага спажываньня патрабуюць абсталяваньня мэханізаваных ільна-апрацоучых заводаў і пунктаў пачатковай апрацоўкі валакна, бо сучасная якасьць нашага ільна, дзякуючы неаднолькавай і невыстарчальна стараннай яго апрацоўцы ў сялянскіх гаспадарках, далека нездавальняючая. Праз каапэрацыю неабходна арганізаваць добрую апрацоўку ільнавалакна.

Фруктовая і гародная гаспадарка БССР таксама можа быць выкарыстана для экспарту. Асабліва па абсталяваньні каапэрацыйных прадпрыемстваў, для сушкі і варкі фруктаў, ягады і засолкі гародніны і інш. Гэтыя мерапрыемствы набываюць асаблівую важнасьць таму што продаж нашых яблыкаў і ягад (журавіна) у сьвежым выглядзе магчыма ў вельмі абмежаваных рынках. Трэба таксама разьвіваць прадпрыемствы па выпрацоўцы масла, сыру ў адпаведнасьці з экспартнымі запатрабаваньнямі.

Значны збор бульбы па БССР змушае зьвярнуць увагу на пашырэньне экспарту крухмалу (шляхам адпаведнага абсталяваньня заводаў для атрыманьня тавару вышэйшай якасьці) і патакі.

Значна разьвітое ў БССР смалакурэньне, якое дае для экспарту скіпідар і смалу, можа быць яшчэ пашырана за кошт павялічэньня ліку дзейнічаючых катлоў — галоўным чынам, па лініі саматужна-прамысловай каапэрацыі.

Трэба вывучыць і іншыя саматужныя промыслы БССР, пераважна нашай вёскі: там могуць знайсьціся некаторыя вырабы, прыгодныя для экспарту, а пры патрэбе можна тую або іншую вытворчасьць насадзіць і прывіць занова.

### Другарадны экспарт

11. Поруч з усімі гэтымі больш менш капітальнымі мерапрыемствамі, якія зьвязаны з працяглымі ўлажэньнямі сродкаў, некаторае значэньне можа мець адшуканьне новых відаў экспарту з наяўных рэсурсаў.

Зроблены спробы вывазу сьвежай рыбы, капусты, цыбулі, салёных гуркоў, лясных арэхаў, журавіны, мёду, воску, галяндзкага сыру, прэсаванага сена і інш.; трэба толькі, каб яны былі належнай якасьці і адпаведнай апрацоўкі. Такіх „дробязяй“ трэба адшукаць як мага больш: гэта можна зрабіць бяз усялякай шкоды для мясцовых патрэбнасьцяй, насельніцтву-ж гэта дасьць лішні прыбытак, а народнай гаспадарцы і дзяржаве ў цэлым — непасрэдную выгаду.

### Хто ўдзельнічае ў экспарце БССР

12. Да бягучага гаспадарчага году з беларускіх арганізацый удзел у экспарце прымалі толькі тры: Лесбел, Белдзяржгандль і Белхарчтрэст. Апрача іх, тавары з БССР вывозілі зьмешаныя таварыствы і шэраг арганізацый СССР і РСФСР (Кішпрамгандаль, Хлебапрадукт, Дзьвіналес, каапэрацыйныя цэнтры).

У бягучым годзе, у мэтах пашырэньня экспарту, да ўдзелу ў ім прыцягнуты ўсе сыстэмы каапэрацыі, прамысловыя трэсты, прадпрыемствы мясцовай прамысловасьці і іншыя арганізацыі БССР. Кожнай з удзельнічаючых у нашым экспарце арганізацый дадзена пэўнае экспартнае заданьне.

У выкананьні гэтых заданьняў асаблівую ролю павінна граць нізівая сетка каапэрацыі і дзяржгандлёвыя организацыі, пры актыўным садзейнічаньні савецкага актыву.

### Нашы бліжэйшыя задачы

1. Усямерна ўзмацніць загатоўку экспартных тавараў.
2. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на другарадныя рэчы, якія або яшчэ зусім ня вывозяцца, або вывозяцца ў малой колькасьці.
3. Ужыць рашучыя меры для ўзьняцьця якасьці загатаўляемых для экспарту тавараў. Захаваньне усіх запатрабаваньняў замежнага стандарту у адносінах вонкавага выгляду, сартаваньне, пакоўкі, тары і маркіроўкі тавару.
4. Забясьпечыць сваечасовую адпраўку і паступленьне нашых экспартных тавараў на рынкі збыту.
5. Стварыць трывалую экспартную базу ў адпаведных галінах народнай гаспадаркі БССР шляхам наданьня ім экспартнага ўхілу, арганізацыі прамысловых і сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў экспартнага значэньня, падрыхтоўкі для іх патрэбнай сыравіны і арганізацыя распрацовак натуральных багацьцяў Рэспублікі для экспартнай мэты.

### Шырокая грамадзкая ўвага пытаньням экспарту

Для пасьпяховага выкананьня ўсіх гэтых задач мала адных толькі гаспадарчых мерапрыемстваў: неабходна, каб пытаньні экспарту згрупавалі вакол сабе шырокую і сталую увагу савецкай грамадзкасьці. Народныя дамы, хаты-чытальні, клюбы, сельска-гаспадарчыя гурткі, вясковы актыў наогул і камсамол у прыватнасьці, вясковая інтэлігэнцыя (аграномы, каморнікі, дактары, вэтэрынары, настаўніцтва студэнты), нізавая каапэрацыя, селькоры, сялянкі дэлегаткі, сельсаветы—усе яны закліканы да растлумачэньня значэньня экспарту і практычнага садзейнічаньня арганізацыям, якія праводзяць працу па узьняцьці, пашырэньні і ўдасканаленьні нашага экспарту Рабочы актыў, масавы друк, школы усіх тыпаў і усе наогул грамадзкія гаспадарчыя і культурныя сілы БССР павінны прыняць у працы для экспарту чынны ўдзел—абуджэньнем інтарэсу, растлумачэньнем, парадай і практычнай справай. Разьвіцьцё максымальнай працы для экспарту—наша першачарговая баявая задача.

# НАША ТРЫБУНА

Ал. Некрашэвіч

## На фронце культурнай рэвалюцыі

### Аб кіно

„Кіно павінна зьявіцца ў руках партыі магутным сродкам камуністычнай асьветы і агітацыі. Неабходна прыцягнуць да гэтай справы ўвагу шырокіх пралятарскіх мас, партыйных і прафэсыянальных арганізацый.

Да гэтага часу партыі не ўдалося падыйсьці бліжка да належнага скарыстаньня кіно"

*(З паст. XIII Зьезду РКП)*

Зусім бясспрэчным зьяўляецца надзвычайна важная роля кіно у справе сацыялістычнага будаўніцтва, камуністычнага выхаваньня шырокіх мас працоўных і падняцьця іх культурнага ўзроўню. І не дарма XV Зьезд УсеКП(б) і XI зьезд КП(б)Б у сваіх рэзалюцыях адвялі значнае месца і кіно. Перад гэтым, яшчэ у рэзалюцыях XIII Зьезду РКП(б) пытаньням кіно вызначана даволі значнае месца. Кіно-нарада пры АПА ЦК УсеКП(б) канкрэтызуе гэтыя пастановы, намеціўшы напрамак і шляхі, па якіх павінна разьвівацца савецкая кінематографія

Як-жа цяпер савецкая кінематографія спраўляецца з пастаўленымі перад ёю партыяй і ўладай задачамі?

Апошнія гады ў вытворчай працы савецкіх кіноарганізацый адзначаюцца посьпехамі як у справе ідэолёгічнага зьместу выпушчаемай прадукцыі, так і у справе мастацкага яе афармленьня. Даволі назваць такія фільмы як „Броненосец Потемкин" і інш., якія паставілі савецкую кінематографію побач з лепшай продукцыяй замежных кіно-фабрык. Савецкая фільма пачынае прыцягваць да сябе гледача. Так, напрыклад, у кіно Віцебску пры дэмонстрацыі аднолькавых, так сказаць, па якасьці фільмаў, мы мелі наведваньне:

| | | |
|---|---|---|
| 1) | „Мисс-Менд" | 6.970 ч. |
| 2) | „Человек на комете" | 5.584 „ |
| 3) | „Лесная быль" | 6.906 „ |
| 4) | „К и н" | 5.019 „ |
| 5) | „Абрек Заур" | 5.722 „ |
| 7) | „Отрезанные от мира" | 4.518 „ |

што ў сярэднім дае перавышэньне наведваньня савецкіх фільмаў над замежнымі на 25%.

Аднак, калі прыгледзецца да ўсёй прадукцыі савецкіх кіноарганізацый, дык пабачым, што добрых 80%, калі ня больш, іх продукцыі не адпавядае ні па зьместу, ні па афармленьню запатрабаваньням сучаснага працоўнага гледача. Як правіла больш усяго тэмай фільмаў зьяўляецца пэрыяд грамадзянскай вайны, пры чым тут некаторыя пастаноўшчыкі дайшлі да паказу гледачам нейкай бойні, якая б'е па нэрвах

гледача надзвычайна грубымі прыёмамі („Тыраспольская трагедыя"). Пэрыяд змаганьня на фронтах гаспадарчым, і культурным, пэрыяд надзвычайна цікавы, пакуль што амаль не найшоў адбітку ў вытворчасьці савецкіх кіноарганізацыяў.

У сучаснай фільме яшчэ пакуль няма сучаснага чалавека, таго чалавека, аб якім так горача пісаў у сваім лісьце М. Горкі. Замест гэтага на экране кіно часта бачым прыёмы старых кіно-пастаноўшчыкаў, прыёмы ігры на горшых пачуцьцях чалавека. Дробнабуржуазная ідэолёгія, ідэолегія ажыўшага „поросенка, который тоже хочет жить", часта прасачваецца на савецкі экран. Гэтая варожая, не нашая палітыка відаць хаця-б з такіх фактаў як пастаноўка замест „Расстрэлу 26 бакінскіх камісараў",такога фільму, як ня маючы ніякой абсолютна вартасьці, „Поцелуй Меры" (за ўдзел у якой Дуглас і Мэры, як кажуць, прад'яўляюць Сав. кіно рахунак на даволі значную суму).

*Патрэбна рашучае змаганьне з пранікненьнем на савецкі экран, варожай пралетарыяту, дробнабуржуазнай ідэолёгіі*

Ня варта казаць ужо аб тым, што савецкія кіноарганізацыі зусім забылі пра трэцяе пакаленьне гледача, нашых дзяцей,—ніводнай добрай дзіцячай фільмы мы ў нашым кіно на працягу 10-ці год ня бачылі. Дзеці пакуль што кормяцца Гары Пілем і грубымі эфэктамі з „Тыраспольскай трагэдыі". Наколькі гэта шкодна, вядома ўсім. Навуковая фільма таксама не заняла належнага месца ў прадукцыі нашых кіно арганізацый. А між тым інтарэс рабочага гледача нават да тых „ублюдачных" навуковых фільмаў, якія выпушчаны, надзвычайна вялікі.

*Задача вытворчасьці добрай дзіцячай фільмы і фільмы навуковай—чарговая баявая задача нашых кіноарганізацый.*

Разам з гэтым патрэбна паставіць пытаньне аб замежнай фільме. Як правіла яна пакуль дапаўняе наша кіно. Пры недахваце савецкай прадукцыі даводзіцца пакуль што з увозам фільм з замежау мірыцца. Важна ня гэта. Важна тое, што замежная прадукцыя увозіцца без разбору, купляецца тое, чаго купляць ня варта. А ў зьвязку з гэтым, ня гледзячы на усе патугі надаць „ідэолегіі" надпісамі—з экрану ідзе пропаганда дробнабуржуазнай маралі, клясавай згоды („Законы моря") і інш. нясе пахам тонкай (не заўсёды) парнаграфіі і г. д., а ў лепшым выпадку гэта спэцыфічна амэрыканская прадукцыя з нікчэмным зьместам, салодзенькай маральлю, прадукцыя, якая адганяе ад кіно нашага гледача. Няужо на замежным рынку нельга найсьці што небудзь лепшае? Здаецца можна. Неяк летам у „Правде" пісалі аб нямецкай фільме „Ткачи" па Гауптману, аб ёй далі добры водзыў, а на нашым экране яе пакуль што ня відаць.

*Патрэбна больш сталы, больш вытрыманы падбор, купляемай за межамі кіно прадукцыі.* Нельга на 10-й гадзв. рэвалюцыі карміць гледача ўсякім замежным хламам.

Побач з гэтым пару слоў аб прадукцыі Белдзяржкіно. „Лясная Быль" карыстаецца вялікім посьпехам як ў горадзе, так і ў вёсцы і на колькі мне вядома, ня толькі на Беларусі. Аб вялікіх фільмах як „Кастусь Каліноўскі" і „Гірш Лекерт" пакуль што нельга нічога сказаць, бо мы іх яшчэ ня бачылі.

Лішнім патрэбна прызнаць выпуск „Проститутки". Хаця кіраунікі Бел. Дзяржкіно і хваляцца, што фільма сябе апраўдала матар'яльна, выпуск яе аднак пры невялікіх сродках БДК нельга апраўдаць, бо выпуск фільм на такія тэмы, па мойму, не задача БДК. Культура павінна быць пралятарскай па зьместу і *нацыянальнай па форме.* Продукцыя БДК і павінна галоўным чынам адбіваць асаблівасьці Беларусі і яе будаўніцтва

женкомиссии состоит из трех женщин и трех мужчин. Никакой целесообразности в существовании женкомиссий нет.

Женкомиссия кроме того, что она по существу ничего не дает, отодвигает на задний план внимание фабкома и партячейки. Постановка женработы за последнее время сильно ослабла. Кружковая работа отсутствует. Собрания срываются за неявкой. Большой интерес со стороны женщин проявляется к кружку шитья и кройки, но он еще не организован. Слабость работы об'ясняется тем, что жены коммунистов не принимают никакого участия во всей проводимой женотдельской работе, а беспартийные берут с них пример. Как положительный момент, следует отметить прикрепление практиканток к фабкомам и комиссиям. Согласованность в работе с фабкомом отсутствует.

### Вопросы профработы

Подготовка со стороны фабкомов к собраниям не плохая. На повестке дня общих собраний подбираются деловые практические вопросы, отчего заинтересованность и активность рабочих растет. Беда заключается в том, что собрания никогда не открываются во время, а, как правило, открываются с опозданием на час. Участие членов партии и комсомольцев на собраниях далеко недостаточное. Политические кампании проводятся своевременно.

Колдоговорная кампания прошла не совсем хорошо. Рабочие коллектива ф-ки „Просвет" обсуждали договор тогда, когда еще не согласовали с администрацией, и получилось на практике, что союз спорил с рабочими, а хозяйственник тут же на собрании не мог возражать потому, что не был осведомлен об этом. Кроме этого, при обсуждении колдоговора было полностью затушевано лицо фабкома и союза и вот почему: на собрании читали старый договор, рабочие требовали, чтобы зачли проект договора, разработанный фабкомом и союзом, в ответ на это представитель союза заявил: „товарищи, мы должны обсуждать колдоговор на основах демократии и самодеятельности, поэтому у нас никакого проекта нет". Правильно ли это? Нет. Нам незачем прятать наше лицо перед рабочими.

### Экономработа

Постановка экономработы не совсем правильна. Экономкомиссия временами не занимается своим делом Взамен того, чтобы экономкомиссия изучала отдельные вопросы, как то: о качестве, браке,—слушаются отчетные доклады мастеров и по ним даются прямые директивы. Наиболее яркий факт: по докладу старшего мастера экономкомиссия дает следующие директивы: предложить администрации своевременно доставлять сырье пряничному отделению, при чем за несвоевременную доставку сырья и недоработку нормы рабочие не отвечают". Дело ли это экономкомиссии? Нет. Или другое, по тому же докладу. „В отделении наблюдается антогонизм среди рабочих, что отражается на работе. Усилить культвоспитательную работу". Это уже совершенно не входит в функции работы экономкомиссии учитывать настроения рабочих. Это совершенно неправильная установка работы. Вопросом о подготовке колдоговора не фабком занимается, а экономкомиссия, по этому вопросу экономкомиссия выносит такое решение: Как готовятся к колдоговору? 1) изучить вопрос о переходе во всех отделениях на простую сдельщину, 2) установить твердую расценку на всех сортах товаров, 3) пересмотреть все расценки завертного отделения, 4) установить оплату за каникулы, 5) рассмотреть норму карамельного отделения, в случае неперехода на сдельщину.

Итак, переход на сдельщину, установление расценки, установление оплаты за кануны—всем этим занимается экономкомиссия. Это не дело экономкомиссии, а больше всего РКК и фабкома в целом. Необходимо точно разграничить функции чем экономкомиссия должна заниматься, с таким расчетом, чтобы взять какой-нибудь вопрос, основательно изучить и перенести на производсовещание.

### Общества

Наиболее популярными обществами по всем предприятиям являются Осоавиахим и Мопр, но вся работа обществ сводится лишь только к сбору членских взносов. Массовой воспитательной работы в обществах почти не проводится. От сбора членских взносов необходимо перейти к развертыванию массовой, воспитательной работы в обществах.

### Постановка работы фракции фабкомов

Правильную постановку работы фракции фабкома можно отметить по ф-ке „Просвет". Наиболее принципиальные вопросы, требующие партийного мнения, ставятся предварительно на фракции. В других фракциях фабкома ставятся и такие вопросы, в которых надобности нет, как вопрос о том, сколько дней праздновать. Имеются моменты, когда ставятся вопросы на фракциях фабкома, не имеющие отношения к фракции, а больше всего к бюро партячейки. По одному вопросу фракция фабкома выносит такое постановление: „всем членам партии и комсомольцам урегулировать все недоразумения не путем споров и ругани и т. д." В общем, необходимо уточнить работу фракции под углом зрения разграничения функций фабкомов с бюро цеховых ячеек.

---

# АБ АНТЫРЭЛІГІЙНАЙ ПРАПАГАНДЗЕ

## Тэзісы па антырэлігійнай прапагандзе, ухваленыя агітпропнарадай пры АПА ЦК КП(б)Б—1927 года

1. Побач з агульным гаспадарчым ростам, і паглыбленьнем соцыялістычнага будауніцтва, перабудаваньнем грамадзтва, назіраецца за апошні час у БССР ажыуленьне дзейнасьці рознастайных рэлігійных арганізацый, зьвязаных з некаторым абсалютным узмацненьнем буржуазных і дробна буржуазных пластоу пры адносным іх аслабленьні, якія імкнуцца сырроць ставіць сваю ідэолёгію ўзрастаючаму ўплыву пралятарскай ідэалегіі.

Умацаваньне дыктатуры пралетарыяту, узмацненьне ўплыву пралетарыяту на шырокія гушчы працоўных, культурна-палітычны рост апошніх, узмацненьне савецкіх настрояу, разгортваньне форм пралетарскай дэмакратыі,—прымушае усе рэлігійныя арганізацыі перабудаваць і пераглядзець усе формы свайго ідэалегічнага ўплыву на масы ў бок іх большага прыстасаваньня да сучасных соцыяльна-эканамічных умоў і заваяваньня і падтрыманьня дробна-буржуазных пластоў насельніцтва.

*Праваслаўе.*

У сваіх палітычных выступленьнях пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі праваслаунае духавенства кіравалася жаданьнем захаваць свае прыбыткі ад зямельнай, грашовай і іншай капіталістычнай уласнасьці і ўтрымацца пасьля рэвалюцыі на правох прывілеёванай царквы, субсыдыруемай за кошт дзяржавы. Дзеля гэтае мэты духавенства падтрымлівае анты савецкія групоукі Беларусі, дапамагала нават каталіку Пілсудзкаму сабатавала адабраньне царкоўных каштоўнасьцяй, спадзяючыся аднавіць уладу буржуазіі і ўмацаваць сваё становішча.

*Абнаўленьне—тактычны ход.*

У сучасны момант мы маем у наяўнасьці перабудаваньне шэрагаў праваслауя, якое афармілася ў выглядзе расколу на старацаркоўнікаў ціханауцау, якія трымаюцца старой манархічнай арыентацыі (ціханаўшчына часова прыняла выгляд апалітычнасьці)і абнаўленцаў „прагрэсыўнага“ духавенства, дэкляруючага сваю лінію на аснове „адмаўленьня“ ад усякай палітыкі і прызнаньня савецкай улады і справядлівасьці соцыяльнай рэвалюцыі. У сапраўднасьці-ж абнаўленства зьяўляецца тактыкай папоў, выступаючых у ролі ратаўнікоў царквы ад поўнага яе краху.

*Абедзьве плыні шкодны.*

Як ціханаўскі, так і абнаўленчы рух зьяўляюцца аднолькава шкоднымі. Ціханаўцы—адкрытыя клясавыя ворагі, часова апрануўшыя вопраткі апалітычнасьці. Абнаўленцы, дэкляруючыя свае адносіны да савецкай улады сваёю пропаведзьдзю аб існаваньні надклясавых ідэалаў, зацямняюць сьвядомасьць працоўных, робяць іх няздольнымі да актыўнай барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва. Адсюль неабходнасьць змагацца з абеімі царкоўнымі плынямі.

## Ажыўленьне сэктанства

У сувязі з спыніўшымся ростам і нават значным выхадам з найбольш буйных сэктантскіх груп (баптысты, пяцідзесятнікі, эвангелістыя), апошнія пачалі ўзмоцнена разгортваць сваю дзейнасьць За апошні час сэктантскія правадыры спрабуюць супроцьпаставіць сэкту, Кампартыі (мы партыя хрысьціянства, будуючая камунізм бяз гвалту) і савецкім органам супроць паставіць свае абасобленыя арганізацыі, часта пры падтрыманьні з заграніцы, гаспадарчыя і культурныя арганізацыі, каапэратывы, камітэты ўзаемадапамогі, гурткі моладзі і г. д

Анты-савецкія элемэнты як гораду, так і вёскі спрабуюць выкарыстаць сэктанства для барацьбы з савецкай дзяржавай, прывіваючы ідэалёгію клясавага міру рэлігіі з камунізмам, укараняючы дробна буржуазную ідэалёгію прымірэньня і непраціўленьня элу, што па сутнасьці накіравана супроць дыктатуры пралетарыяту.

## Каталіцтва

За апошні час адзначаецца большая актыўнасьць ксяндзоў.

1) У мінулым на Беларусі ксяндзы карысталіся сярод каталіцкага насельніцтва вялікім уплывам ня толькі дзеля рэлігійных пачуцьцяў насельніцтва, але і на грунце меўшагася тады нацыянальнага ўціску, калі ксяндзы зьяўляліся праваднікамі польскай мовы, польскай культуры.

2) У сучасны момант няма патрэбы змагацца з русыфікатарскай палітыкай, няма патрэбы бараніцца ад праваслаўя, бо гэтыя моманты адпалі. І калі раней у Беларусі ксёндз карыстаўся амаль аднолькавым уплывам сярод усіх пластоў насельніцтва, то ў сучасны момант у моцна карэнным чынам зьмяніўшыхся умоў, ксёндз, зьяўляючыся праваднікам памешчыцка-кулацкага уплыву і польскай буржуазнай дзяржаўнасьці на каталіцкае насельніцтва, зьмяняючы падход, адшукваючы новыя мэтады ўплыву, імкнецца падтрымліваць ідэалёгію нацыянальнага адзінства, прывіваючы шавінізм, замазваючы класавае распластаваньне, вядзе працу па адцягненьні насельніцтва ад савецкага будаўніцтва і тым самым выконвае контр-рэвалюцыйную ролю ў адносінах савецкай улады.

3) Да Кастрычнікавай рэвалюцыі ўплыў каталіцкай рэлігіі на беларусоў-каталікоў быў таксама вялікі. Але за мінулыя дзесяць год, асабліва за час грамадзянскай вайны, беларуская вёска пасунулася наперад у сэнсе клясавай і нацыянальнай сьвядомасьці, што адбілася ў адносінах беларусоў-каталікоў, асабліва бядняцкай часткі іх, у сэнсе адмоўных адносін да прадстаўнікоў каталіцкай рэлігіі—ксяндзоў. І сярод гэтай праслойкі прыкметна больш шпаркі, чымся ў польскіх вёсках, тэмп зьмяншэньня ўплыву ксяндзоў. Ксяндзы, імкнучыся захаваць за сабой старыя пазыцыі, сярод беларусаў-каталікоў робяць казаньні на беларускай мове, больш рэдка чутны там словы ксяндза—„мы - палякі“, а часьцей „мы — каталікі“.

4) Сярод моладзі ксёндз карыстаецца ўплывам і ў першую чаргу сярод кулацкіх дзяцей вёскі, дзяцей мяшчан, пры чым большы ўплыў мае на дзяўчын, што тлумачыцца больш замкнутым жыцьцём і хатнімі абставінамі жанчыны і г. д.

5) Уплыў царквы і духавенства на моладзь ідзе па наступным каналам:

1. Праз арганізацыю гурткоў моладзі:
   - а) падрыхтоўкі да першай споведзі;
   - б) гурткі „ружанца“,
   - в) харавыя гурткі;
   - г) „майскія“ гурткі.

2. Уплыў праз бацькоў;
3. Споведзь;
4. Зацікаўленасьць моладзі вонкавымі формамі рэлігійных абрадаў (сьпевы, музыка, уборы і г. д.)

За апошні час вызначаецца сярод ксяндзоў імкненьне ў бок працы сярод насельніцтва на лініі мэдычнай дапамогі і агрыкультурнага садзейнічаньня насельніцтву.

## Іудзейства і клерыкалізм

*Прычыны росту яурэйскага клерыкалізму:*

Прычыны росту клерыкалізму, які назіраецца сярод яўрэяў, могуць быць зьведзены да наступных зьявішч

а) Клерыкалізм, як адзіная легальная форма па-за савецкай грамадзкасьцю дае магчымасьць прадстаўніком буржуазнай, антысавецкай яўрэйскай інтэлігэнцыі (старым буржуазным грамадзкім дзяячам), згубіўшым за гады рэвалюцыі свой уплыў, нанова зьявіцца на грамадзкай арэне. Пры гэтым яны выконваюць ролю агэнтуры яўрэйскай буржуазіі заграніцай

б) Пэўная частка дробна-буржуазнай інтэлігэнцыі шукаюць змычкі з дробнай буржуазіяй, зьвязваючыся з мяшчанскім укладам жыцьця і уцягваючыся у клерыкальную грамадзкасьць.

в) Нэпаўскія элемэнты і значная частка дробнай буржуазіі вышлі з стану [illegible] і праяўляюць тэндэнцыю да кансалідацыі. З аднаго боку, гэтая група [illegible]намічна ўзмацнілася, з другога боку ў яе зьяўляецца [illegible] [illegible]рашнім дні, што нанова будзе адноўлен „парадак". [illegible] це гэтага вырастае ў іх і адпаведная ідэалёгія, арганічна зьвязаная з клерыкалізмам.

г) Наяўнасьць кулацкай групы сярод саматужнікаў, маскіроўка [illegible] капіталістычных элемэнтаў пад шырмай саматужнікаў, каб [illegible] магчымасьць праяўляць сваю грамадзкую актыўнасьць. Адначасова [illegible] частні заможных саматужнікаў ствараецца ўяўленьне, што блёк з [illegible]длёвымі коламі дае магчымасьць пашырыць рынак збыту, які ўсё [illegible]жаецца, а адсюль—арыентацыя на гандлёва-капіталістычныя элемэнты. Усё гэта ствар[illegible] магчымасьць пэўнай часткі саматужнікаў аказацца [illegible] радатчыкам клерыкальных уплываў.

д) Наяўнасьць значнай прапластоўкі масы дэклясаванай беднаты, падпадаючай пад уплыў клерыкалізму.

Адзначаючы пэўнае аслабленьне сіоніцкіх уплываў, трэба ў тойжа час канстатаваць значнае ўзмацненьне і рост клерыкалізму, прымаючага яўна выказаны палітычны характар, часам замяняючы сіонізм.

Клерыкалізм праяўляе ў сучасны момант тэндэнцыі да аб'яднаньня пад сваім сьцягам усіх апазыцыйных да савецкай улады элемэнтаў, да рэштак меншавікоў і бундаўцаў уключна.

## II. Слабасьць анты-рэлігійнай працы

Узмацненьню рэакцыйнай дзейнасьці рэлігійных арганізацый не адпавядае сучасны стан анты рэлігійнай прапаганды. Яе асноўны недахоп не ў выстарчальнай меры выконваліся (а то і зусім забываліся) дырэктывы партыйных зьездаў, канфэрэнцый і ЦК наконт масавага разьвіцьця і плянамернасьці анты-рэлігійнай працы.

Як недахопы ў працы нарада адзначае:

а) Нявыстарчальная ўвага аддавалася гэтай працы партыйнымі, камсамольскімі, прафэсыянальнымі і іншымі грамадзкімі арганізацыямі. Колькасьць членаў СБ нязначная, выхаваўчая праца сярод іх слабая, асабліва ў вёсцы.

б) Анты-рэлігійная літаратура на беларускай мове і мовах нацменшасьцяй вельмі нязначная і невыстарачальна прыстасавана да запатрабаваньняў розных пластоў насельніцтва. Адсутнічае кіраунічая літаратура для актыву бязбожнікаў, а выданая даволі часта ўносіць блытаніну (праграмы ГПАсьветы БССР). Няма антырэлігійнай літаратуры (кіруючай і мастацкай) для вёскі.

в) Нявыстарчальна наладжана выхаваўчая праца членаў СБ і падрыхтоука агітатараў антырэлігійнікау (антырэлігійны сэмінары, габінэты, антырэлігійныя бібліатэкі, выстаўкі).

г) Невыстарчальна праведзена праца па выяўленьні і выкарыстаньні антырэлігійнага актыву.

д) Адсутнасьць матар'яльных сродкаў для разгортваньня працы і сталых працаўнікоў.

е) Праца з актывам СБ не заўсёды лічыцца нагрузкай, у сувязі з чым актывістыя Саюзу Бязбожнікаў не маглі аддаць працы Саюзу ў выстарчальнай меры сіл.

д) Слабая жывая сувязь ЦСавету з акруговымі саветамі. Слаба пастаўлена інфармацыя і вучот вопыту працы. Адсутнасьць жывога інструктаваньня.

з) Адсутнічала вывучэньне працы рэлігійных груп.

і) Амаль ніякай працы не праводзілі нацыянальныя сэкцыі.

к) Слабая праца па распаўсюджаньні антырэлігійнай літаратуры, а таксама невыстарчальна пастаўлена рэкамэндацыя антырэлігійнай літаратуры і адсутнасьць праграмы для сэмінараў і вясковых гурткоў.

л) Слабая сувязь СБ з ГПАсьветы.

## III. Працу трэба ўзмацніць

Нарада лічыць неабходным усямернае ўзмацненьне анты-рэлігійнай працы. Барацьба за матар'ялістычны сьветапогляд зьяўляецца грамадзкаю агульна-пралятарскай справай і як гэткая, патрабуе супольных патугаў усіх грамадзкіх арганізацый у цэлым і кожнага сьвядомага пралетара, а тым больш камуністага.

Усе партыйныя арганізацыі, да нізавой ячэйкі ўключна, павінны зьвярнуць увагу на ўзмацненьне працы, узмацніўшы ў ёй агульнае парткіраўніцтва, вылучыўшы на гэтую працу партыйна-вытрыманых таварышоў.

Камсамол павінен у большай меры ўзяцца за анты-рэлігійную працу. Неабходна (сумесна з НКАсьветы) распрацаваць форму бязбожнай працы ў школах і сярод піанэраў, улічваючы недахопы існуючай.

Саюз Бязбожнікаў павінен стаць масавай арганізацыяй працоўных, парываючых усякую сувязь з рэлігіяй, вярбуючы сваіх членаў, галоўным чынам, сярод беспартыйных рабочых, сялян, саматужнікаў. Прыступіць да вылучаньня і выхаваньня актыву бязбожнікаў. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на ўцягненьне работніц, сялянак, саматужніц, хатніх гаспадынь. Культаддзелы прафсаюзаў, палітасьветы павінны зьвярнуць адпаведную ўвагу антырэлігійнай працы і уключаць яе ў свой плян. Клюб (у горадзе) і хата-чытальня (у вёсцы) павінны стаць апорнымі пунктамі для разгортваньня масавай антырэлігійнай працы.

Антырэлігійную барацьбу трэба праводзіць праз арганізацыю ячэек Саюзу Бязбожнікаў, стварэньне шырокай сеткі гурткоў, сэмінараў, курсаў для актывістых-бязбожнікаў, для падрыхтоўкі дакладчыкаў праз наладжваньне цыклявых лекцый і дакладаў з прыцягненьнем багатага ілюстрацыйнага матар'ялу, як для шырокіх мас гораду, так і вёскі, выданьне антырэлігійнай літаратуры, як масавай, так і дапамагаючай актывістаму ў яго працы, прыцягненьне да антырэлігійнай працы шырокіх лектарскіх кадраў у галіне прыродазнаўства, выкарыстаньня мэтодаў

індывідуальнай і групавой агітацыі, антырэлігійных кіно-фільм, тэатру, эстрады, радыё; наладжваньне выставак і музэяў, куткоў бязбожніка ў клюбах, хатах-чытальнях, габінэтах палітыка асьветнай працы. Анты-рэлігійныя кампаніі трэба захаваць, надаўшы ім больш плянавы характар. Неабходна больш увагі аддаць анты-рэлігійнай працы ў школе, дзе ўсё выкладаньне павінна быць прасякнута адмоўнымі адносінамі да рэлігіі, для перамогі над уплывам рэлігіі на моладзь.

Дзеля таго, што антырэлігійныя дыспуты пры невыстарчальнай падрыхтоўцы не дасягаюць сваёй мэты, а пашыраюць легальныя магчымасьці пропаведзі для рэлігійных арганізацый, іх трэба ухіляцца, а наладжваючы старанна падрыхтоўваць

*Нарада ўхваляе:*

а) Арганізацыйна афарміць і узмацніць кіраўніцтва фракцыямі саюзу бязбожнікаў.

б) Арганізацыйна ўзмацніць саюз бязбожнікаў, вылучыўшы на гэтую працу партыйцаў, якія маюць вопыт у масавай працы, і замацаваць актыў на працы.

в) Вылучыць для антырэлігійнай працы дакладчыкаў з ліку агульных дакладчыкаў АПА партыйных камітэтаў, праводзячы сярод іх спэцыяльную працу.

г) Арганізаваць пры КамВНУ, пэдтэхнікумах сэмінары антырэлігійных прапагандыстых.

д) Прыступіць сумесна з рэдакцыяй газэты „Беларуская Вёска" да выданьня масавага антырэлігійнага дадатку. Пры газэце „Рабочий" даваць па зьменшанай цане—„Безбожник у станка"

е) Фракцыі Саюзу Бязбожнікаў даручаецца ўзмацніць сваю працу па уцягваньні сваіх членаў у актыўны удзел у антырэлігійнай барацьбе, выхоўваючы з іх добрых прапагандыстых

ж) НКАсьветы абмеркаваць пытаньне аб адшуканьні сродкаў для узмацненьня антырэлігійнай прапаганды, арганізацыі антырэлігійных сэмінараў, набыцьцё літаратуры.

з) Праводзімую практычную працу Саюзу Бязбожнікаў па ўвядзеньні удасканаленых форм гаспадаркі і ўнядрэньні новага быту сярод рабочых і сялян, увязаць з адпаведнымі савецкімі (НКАховы здароўя, НКЗем) прафэсыянальнымі і грамадзкімі арганізацыямі

і) Фракцыі цэнтральнага савету С. Б. узмацніць жывую сувязь і інструктаваньне мясцовых саветаў, прыцягваючы да гэтай працы інструктароў, як цэнтральных, так і акруговых арганізацый, практыкаваць выкліканьне мясцовых працаўнікоў з дакладамі.

к) Лічыць неабходным скліканьне нарад акруговага актыву Бязбожнікаў.

л) Фракцыі цэнтральнага савету С. Б. узмацніць працу сярод нацыянальных меншасьцяй, арганізуючы сярод іх ячэйкі і сэмінары для кіраўнікоў гурткоў, прыцягваючы да гэтай працы ўсе антырэлігійныя сілы данай нацыянальнасьці, якія маюцца і ў першую чаргу, членаў партыі, якія могуць весьці працу

м) Савету Бязбожнікаў прыступіць да вывучэньня працы і мэтадаў прыцягненьня насельніцтва на свой бок рознымі рэлігійнымі групамі, асабліва сэктантамі і сыстэматызаваць вынікі гэтага вывучэньня.

н) Масавыя антырэлігійныя кампаніі (растлумачальная праца) праводзіць праз газэты „Зьвязда", „Беларуская Вёска", „Рабочий", „Октябрь", „Орка" і „Латвешу Земнекс" „Раўдонасіс Артояс".

о) Менскай і Гомельскай радыёстанцыі арганізаваць цыкл антырэлігійных вечароў (даклады, апавяданьні, вершы, музыкальныя нумары і г.д.).

п) НКАсьветы вывучыць пытаньне аб мэтодах антырэлігійнай прапаганды ў школе.

р) ЦК ЛКСМ вывучыць пытаньне аб антырэлігійнай працы сярод піанэраў.

с) Узмацніць масавую працу шляхам арганізацыі лекцый, вечароў для шырокіх мас, дакладаў на сходах рабочых і сялян, арганізацыі выставак, экскурсій, куткоў бязбожнікаў пры клюбах, хатах-чытальнях, забясьпечваючы іх праз палітасьветы і культаддзел ЦСПСБ літаратурай.

т) Белдзяржвыдавецтву ўключыць у плян выданьня масавую антырэлігійную літаратуру на беларускай, яўрэйскай, польскай, латыскай і літоўскай мовах.

у) Для ўзмацненьня кіраўнічай працы цэнтральнага і акруговых саветаў С. Б. неабходна вылучэньне для працы ЦС аднаго сталага працаўніка антырэлігійніка.

ф) Вывучыць пытаньне аб мэтазгоднасьці распаусюджваньня членскіх білетаў С. Б. на вёсцы.

*У барацьбе супроць яўрэйскага клерыкалізму неабходна:*

У агітацыі і прапагандзе вуснай і ў друку, павінна быць зьвернута асаблівая ўвага выкрыцьці ролі клерыкалізму, растлумачваючы з аднаго боку, контр-рэвалюцыйную, антысавецкую сутнасьць клерыкальнага руху і з другога боку ўскрываючы сацыяльныя моманты эксплёатацыі беднаты клерыкальнымі інстытутамі („каробка“, падатак на мяса, манаполія на продаж дрожджаў, сьвечак, манапольнае права паасобных гандляроў на продаж вялікоднай мукі і г. д.). Пры гэтым трэба ўскрываць ролю „эканамічнай“ працы, філянтропічнай дзейнасьці, якія праводзяцца рэлігійнымі абшчынамі (раз у год на сьвята выдаецца дапамога бедняку, „моэс-хітым“, а штодзённа з яго бяруць лішнюю залатоўку з фунта мяса). Агітацыя супроць клерыкалізму павінна весьціся з гэткім разьлікам, каб аказаць паўны ўплыў і на веруючыя пласты яўрэйскай беднаты.

У барацьбе з рэлігійнымі традыцыямі яўрэйскіх рабочых неабходна, поруч з масавай непасрэднай антырэлігійнай агітацыяй, весьці агітацыю за новыя формы жыцьця і быту, супроцьставячы сынагозе і іншым рэлігійным установам культурныя ўстановы: клюб, тэатр, савецкую школу і г. д.

Непасрэдную антырэлігійную прапаганду неабходна весьці ў гуртках пры паасобных саюзах, надаючы гурткам навуковы характар.

Пры кампаніях пад час рэлігійных сьвят неабходна гэтым кампаніям надаваць характар выкрыцьця першабытных форм быту і растлумачваючы сутнасьць рэлігіі, як прылады заможных клясаў.

Асаблівае значэньне набывае актыўная дзейнасьць арганізацый КСМ у барацьбе з яўрэйскім клерыкалізмам, што павінна знайсьці свой адбітак:

а) Ва ўзмацненьні тэмпу працы па ўцягненьні местачковай моладзі ў прамысловасьць і землярробчую працу;

б) У сыстэматычнай ідэёвай барацьбе з праявамі мяшчанскіх, рэлігійных настрояў у камсамоле і сярод моладзі (абрэзаньне, наведваньне сынагогі, наведваньне лекцый рэлігійных прапаведнікаў „каб паслухаць добрага аратара“ і г. д.);

в) У лепшай арганізацыі і пастаноўцы антырэлігійнай прапаганды КСМ, як у адносінах ідэёвага яе зьместу, так і ў сэнсе мэтадаў вядзеньня гэтай працы і масавасьці яе;

г) У сыстэматычным растлумачэньні сярод піанэраў і праз піанэраў у масе неарганізаваных дзяцей шкоднасьці хэдэраў і ешыботаў, у ак-

тыуным удзеле піянэратрадаў у справе будаўніцтва яўрэйскай савецкай школы, у паляпшэньні клясавага інтэрнацыянальнага выхаваньня піанэраў.

Патрэбна ўзмацненьне культурна-масавай працы сярод яўрэйскай моладзі, асабліва ў мястэчках, шляхам павялічэньня масавасьці, паляпшэньня зьместу клюбнай працы, драматычных і харавых гурткоў і г. д.

## Нашы задачы ў барацьбе з каталіцызмам

Для барацьбы з каталіцызмам неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на падрыхтоўку кадра адпаведных працаўнікоў, у першую чаргу членаў КП(б)Б, хатнікаў, школьных працаўнікоў з тым, каб выкарыстаць іх для сыстэматычнай масавай і індывідуальнай працы. Узяць курс на арганізацыю у мясцовасьцях з каталіцкім насельніцтвам, дзе забясьпечана належнае кіраўніцтва ячэек саюзу бязбожнікаў. Арганізуючым асяродкам павінны быць члены КП(б)Б, камсамолу, хатнікі, настаўнікі, дэмабілізаваныя чырвонаармейцы.

Неабходна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на выяўленьне і выкрыцьцё дзейнасьці царкоўна-парафільных актываў і гурткоў. Барацьба з імі магчыма толькі пры уцягненьне мас у грамадзкую, савецкую працу, уцягваньне моладзі ў гурткі спартыўныя, самаадукацыі, драматычныя, краязнаўства і інш. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на гурткі сельска-гаспадарчыя, найбольш актыўнамі членамі якіх павінны быць члены ячэек бязбожніка. Арганізоўваць пэрыадычна масавыя гуляньні і народныя сьвяты.

Мэтады антыклерыкальнай прапаганды неабходна прыстасоўваць да палітычнага разьвіцьця насельніцтва. Глыбокае ўкараненьне каталіцызму сярод сялян прымушае ўхіляцца рэзкіх нападаў і непасрэдных атак на рэлігійныя забабоны. Вялікі кансэрватызм і адсталасьць селяніна патрабуе вялікай асьцярожнасьці, больш пераканаўчых фактаў.

У антырэлігійнай працы сярод беларусаў-католікаў, поруч з антырэлігійнай працай, трэба мець на ўвазе неабходнасьць грунтоўнага растлумачэньня беларусам католікам гісторыі каталіцызма ў Беларусі, як гісторыю апалячаньня беларусаў праз рэлігію ў мінулым, а працу весьці на беларускай і польскай мовах, выкарыстоўваючы ў першую чаргу камуністых-палякаў і ведаючых польскую мову.

Для правядзеньня антырэлігійнай прапаганды сярод сям'і, неабходна выкарыстаць умела моладзь.

Асноўнай задачай у галіне вядзеньня антырэлігійнай прапаганды сярод каталіцкага насельніцтва, зьяўляецца зжываньне антыкамуністычных уплываў і разбурваньне ідэй нацыянальнага блёку. Для гэтага неабходна:

а) Весьці сыстэматычнае растлумачэньне сутнасьці клясавага распластаваньня ў польскай вёсцы, неабходнасьці саюзу беднаты з серадняком, эканамічнай ізаляцыі і выціскаваньня кулацтва як сваёй, так і іншай нацыянальнасьці.

Растлумачыць таксама мерапрыемствы савецкай улады, якія паляпшаюць становішча бедняцкага сялянства.

б) Праводзіць адкрытую барацьбу са ўсімі палітычнымі вылазкамі духавенства і кулацтва.

в) Дамагчыся актыўнага ўдзелу культурных сіл польскай вёскі, у першую чаргу настаўніка і агранома—у культурнай і грамадзкай працы.

## Нашы задачы ў барацьбе з сэктанствам

Растлумачваць клясавую сутнасьць сэктанства. Сэктантскія абрады, рэлігійнае вучэньне сэкт і іх лёзунгі, містыка; раскольніцкая дзейнасьць

супроць царквы павінна намі выкрывацца, як прылада самаабману дробнай буржуазіі, як прылада заняволеньня працоўных мас у руках вясковай буржуазіі (кулакоў), як прылада драбненьня працоўных на ўзаемнаварожыя абасобленныя сэкты, як прылада падмены клясавай палітычнай барацьбы рэлігійна-нацыянальнай барацьбой. Сэктантскія каапэрацыйныя арганізацыі, калектыўныя гаспадаркі, гурткі, таксама зьезды і сходы, паколькі апошнія выходзяць за межы абгаварэньня рэлігійных пытаньняў, павінны разглядацца, як прылада падмены кіруемых пралетарыятам арганізацый вёскі (савецкая каапэрацыя, камітэты ўзаемадапамогі), як арганізацыі, няўхільна падпадаючыя пад кіраўніцтва вясковай буржуазіі (кулацтва).

Уважліва вывучаць тыя зьмены, якія адбываюцца ў шырокіх рабочых і сялянскіх гушчах, і іх адносінах да рэлігіі ў кожнай паасобнай мясцовасьці вывучаць клясавы склад паасобных сэктантскіх груп, вывучаць іх ідэалёгію. У адносінах да рэлігійных груп і сэкт, якія ў сваіх палітычных і сацыяльна-гаспадарчых плянах зьяўляюцца прагрэсыўнымі і маюць у сабе пачаткі абшчынага (калектыўнага) погляду,—быць асабліва ўважлівымі, штурхаць іх думку далей, даводзячы палавінчатасьць іх настрояў, указваючы і растлумачваючы ім гэтую палавінчатасьць, імкнучыся ўсямерна ўцягнуць у савецкае будаўніцтва.

### Наладзіць антырэлігійную працу па лініі прафсаюзаў

Аказваць усямернае садзейнічаньне і дапамогу ў разгортваньні ячэйкамі СБ адпаведнай працы ў клюбе, у прыватнасьці

а) Пры складаньні пляну працы культаддзелаў, фабзаўкомаў і рабочых клюбаў уключыць у іх мерапрыемствы па антырэлігійнай прапагандзе, як масавай, так і па арганізацыі антырэлігійных гурткоў.

б) Даваць ячэйкам СБ бясплатна памяшканьні для правядзеньня сходаў, лекцый, дыспутаў і іншых форм масавай антырэлігійнай працы

в) Папаўняць бібліатэкі клюбаў і чырвоных куткоў антырэлігійнай літаратурай (па рэкамэндальным сьпісам Савету СБ) і праводзіць іншыя мерапрыемствы, кіруючыся пастановай ЦК УсеКП ад 27/30 красавіка 1926 г. („Коммунистическая Революция" № 12).

### Увязка працы з камсамолам

ЦК ЛКСМБ трэба увязаць антырэлігійную прапаганду сярод моладзі з працай Саюзу Бязбожнікаў на наступнай аснове

1. ЦК ЛКСМБ вылучае ў склад ЦССПБел. свайго прадстаўніка і прадугледжвае ў пляне сваёй працы антырэлігійную працу сярод моладзі.

Пэрыядычна склікае нарады членаў ЛКСМБ, працуючых у галіне антырэлігійнай працы для агульнага інструктаваньня і распрацоўкі пытаньня антырэлігійнай прапаганды

Рэгулярна высьвятляе ў камсамольскім друку пытаньні анты-рэлігійнай прапаганды сярод моладзі

Супольна з саюзам Бязбожнікаў арганізуе курсы гурткавых кіраўнікоў для падрыхтоўкі з моладзі кіраўнікоў пачатковых анты-рэлігійных гурткоў.

ЦК ЛКСМ прыцягвае да сыстэматычнай антырэлігійнай прапаганды сваю нізавую сетку (акругкомы, райкомы, ячэйкі), вызначаючы ў плянах нізавой сеткі антырэлігійную прапаганду сярод моладзі, увязаную з Саюзам Бязбожнікаў на аснове выпрацаванай для гэтага інструкцыі.

Дзеля ажыцьцяўленьня гэтага:

2. ЦК ЛКСМ і ЦССПБ арганізуе сэкцыі моладзі пры Саветах і ячэйках СБ на аснове выпрацаванага для гэтага палажэньня. Праз сэкцыі моладзі праводзіцца ўся антырэлігійная прапаганда сярод шырокіх пластоў рабоча-сялянскай моладзі.

3. Пытаньні вядзеньня антырэлігійнай прапаганды сярод моладзі нацменьшасьцяй сэкцыямі моладзі ўзгадняюцца з адпадведнымі сэкцыямі нацменьшасьцяй Саюзу Бязбожнікаў.

Пытаньні аб становішчы антырэлігійнай працы на мясцох і іх бліжэйшых задачах неабходна абгаварыць на агульных сходах ячэек і райкомаў КП(б)Б.

## Антырэлігійная прапаганда ў школе

Антырэлігійная прапаганда павінна быць уключана ў праграмы ўсіх партшкол і курсаў, пэдтэхнікумаў, настаўніцкіх курсаў.

НКАсьветы пры складаньні новых праграм зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўвязку антырэлігійнай прапаганды з прыродазнаўствам у школе.

НКАсьветы выпрацаваць мэтадычныя ўказаньні, якім чынам школьныя працаўнікі павінны ўключаць антырэлігійную прапаганду ў выкладаемыя імі ў школе дысцыпліны.

# ПАРТЫЙНАЯ ХРОНІКА

## З працы мясцовых партарганізацый

### Становішча працы па вылучэньню

У выніках праверкі выкананьня партдырэктыў у галіне вылучэньня Мазырскі Акругком канстатаваў, што ў асноўным гэтыя дырэктывы партыйнымі арганізацыямі, а таксама паасобнымі партыйцамі ўцямлены і знаходзяць правільнае праламленьне ў іх працы. Увага партарганізацый (ячэек, райкомаў, фракцый) да справы вылучэньня, як партыйцаў і камсамольцаў, так і беспартыйных, значна павялічылася. Але разам з гэтым адзначаецца невыстарчальная плянавасьць у гэтай працы, адсутнічаньне ў нізавых партарганізацыях практыкі падагульваньня недахопаў і дасягненьняў у гэтай галіне, адсутнічаньне масавай растлумачальнай працы навакол гэтага пытаньня.

Фактычнае становішча вылучэнства па акрузе характарызуецца наступным: 1) значна павялічылася вылучэньне рабочых ад варштату, побач з невыстарчальным вылучэньнем сялян-беднякоў і батракоў; з агульнага ліку вылучэнцаў-рабочых 55%, сялян-беднякоў—12,4%, сераднякоў—7,7%, батракоў і с.-г. рабочых—2,4%, служачых—22,5%; 2) невыстарчальнае вылучэньне беспартыйных і камсамольцаў (у агульным ліку вылучэнцаў беспартыйных—28,7%, камсамольцаў—4,6%; 3) слабае вылучэньне жанчын наогул (жанчын у агульным ліку вылучэнцаў - 6,2%), у прыватнасьці з ліку грамадчыц, работніц, батрачак і сялянак-бяднячак; 4) здавальняючыя працантныя суадносіны вылучэньня з паасобных нацыянальнасьцяй; 5) здавальняючы працант вылучэньня на гаспадарчую (24%), прафсаюзную (35%) і савецкую працу (18%) побач з невыстарчальным вылучэньнем на культурную (1,5%) і каапэратыўную (11,6%) працу; 6) маюцца таксама выпадкі фікцыйнага вылучэньня і пагоршаньня матэрыяльнага становішча вылучэнцаў; 7) недастаткова праводзіцца вучот вылучэнцаў і праца сярод іх.

### Праца партпрымацаваных да КСМ

2-гі Віцебскі Райком адзначыў шэраг недахопаў і цяжкасьцяй у працы партпрымацаваных да КСМ. З боку парт'ячэек прыкмячаецца фармальны падыход да вылучэньня партпрымацаваных, у выніку чаго ў практычнай працы ячэек КСМ маюцца месцамі выпадкі грубага проціпастаўленьня КСМ партыі і нездаровыя настроі („ведаем больш ячэйкі партыі"). Зачастую сэкратар парт'ячэйкі непасрэдна дае ўказаньні ў штодзённай практычнай працы сэкратару ячэйкі КСМ, а партпрымацаваным ніякіх указаньняў не даецца, і ў выніку гэтага зьмяншаецца роля партпрымацаваных. З боку парт'ячэек маюцца таксама моманты неразуменьня розьніцы паміж „апекай" і кіраўніцтвам камсамольскай працай, у зьвязку з чым партпрымацаваным не аказваецца належная практычная дапамога. У шэрагу выпадкаў наглядаецца незацікаўленасьць з боку саміх партпрымацаваных, і поруч з гэтым з іх боку ня зжыты яшчэ элемэнты „камандаваньня". Асноўныя цяжкасьці ў справе палепшань-

ня працы партпрымацаваных выклікаюцца становішчам парт. і камсамольскіх арганізацый (малады па стажу склад партыйцаў і камсамольцаў, нізкі палітычны і культурны узровень іх, нязначны процант партядра ў КСМ).

### Праца савецкіх ячэек КПБ

Віцебскі Акругком правёў агляд савецкіх ячэек пад кутом праверкі выкананьня пастановы ЦК УсеКП(б) ад 15 XI 26 г. аб працы савецкіх ячэек па барацьбе з бюракратызмам і іншымі недахопамі савецкага і гаспадарчага апарату. У выніку агляду Акругком адзначыў, што савецкімі ячэйкамі у горадзе дырэктывы партыі па барацьбе з бюракратызмам, спрашчэньню і патаненьню апарату усьвядомлены і што маецца ўзмацненьне працы у гэтай галіне. Гэтыя дасягненьні зьявіліся вынікам правядзеньня дырэктыў партыі па рэжыму эканоміі і рацыяналізацыі апарату, прапрацоўкі пытаньняў рацыяналізацыі апарату і барацьбы з бюракратызмам на спэцыяльных нарадах пры гарадзкіх райкомах і у самых ячэйках. Але разам з гэтым Акругком падкрэсьліў наступныя недахопы: усе яшчэ невыстарчальнае выкананьне ячэйкамі агульна-партыйных дырэктыў і сваіх уласных пастаноў у галіне барацьбы з бюракратызмам і іншымі недахопамі апарату; не праводзіцца належным чынам праверка выкананьня ўласных пастаноў, невыстарчальна ячэйкі кіруюць мясцкомамі ў часткі пастаноўкі працы эканомкамісій і нарад і ўцягненьня шырокіх мас служачых у гэтую працу; шэраг ячэек усе яшчэ не прапрацавалі пастанову ЦК УсеКП(б) аб працы савецкіх ячэек.

Што датычыцца савецкіх ячэек у вясковых раёнах, то Акругком адзначае, што імі дырэктывы аб барацьбе з бюракратызмам і іншымі недахопамі апарату слаба ўцямлены і вынікі ў гэтай галіне працы ў сельрайпартарганізацыях нездавальняючыя.

### Партвучоба

Праца па ўкамплектаваньню партсеткі ў Кастрычнікавай райпартарганізацыі (Менск) у гэтым годзе праведзена здавальняюча. Навучальны год пачаты своечасова. Ахоплена партсеткай 61,2% усёй арганізацыі. Наведваньне партыйцамі партшкол у сярэднім даходзіць да 80%. Але райком лічыць гэты процант невыстарчальным і прапанаваў ячэйкам прыняць меры да поўнага наведваньня партыйцамі заняткаў.

### Мерапрыемствы па паляпшэньню агіткампаніі

2-гі Віцебскі Райком абмеркаваў пытаньне аб якасьці агіткампаній і адзначыў ня досыць здавальняючы характар апошніх у раёне. Галоўнымі прычынамі гэтага райком лічыць, з аднаго боку, шматлікасьць кампаній, з другога боку, адсутнасьць выстарчальнай падрыхтоўкі і належнай арганізацыі кампаній на мясцох. Як падрыхтоўчая праца, так і правядзеньне кампаніі адбівае моманты „пажарных мэтадаў“, што выклікае „дзёрганьне“, прывівае ў працы мэтады „наскока“ і ў выніку гэтага кампаніі не адбіваюць належным чынам усе віды і формы агітацыі. Выходзячы з гэтага, райком намеціў шэраг практычных мерапрыемств, каб зжыць паказаныя недахопы. Па першае райком скараціў лік кампаній, якія павінны праводзіцца непасрэдна партыйнымі арганізацыямі, абмежаваўшы гэтакія найбольш важнымі палітычнымі кампаніямі, як: справаздачна-перавыбарчыя кампаніі Гарсавету і ФЗМ, кампанія перазаключэньня колдагавораў, сьвяткаваньне гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі, 1 мая і 8 сакавіка і кампанія пераабраньня дэлегатак. Іншыя грамадзкія і агітацыйныя кампаніі павінны праводзіцца адпаведнымі грамадзкімі арганізацыямі і клюбамі пад кіраўніцтвам партарганізацый.

Побач з гэтым райком даў паказаньні аб паляпшэньні якасьці

зьместу кампаніі; асаблівую ўвагу райком зьвяртае на падрыхтоўчую працу. Апошняя павінна пачынацца загадзя, па ініцыятыве самых нізавых арганізацый з тым, каб да моманту атрыманьня належных дырэктыў, ужо былі-б намечаны галоўныя мерапрыемствы. Падрыхтоўчая праца павінна таксама весьціся ў напрамку стварэньня адпаведнай грамадзкай думкі навакол кампаніі. Правядзеньне кампаніі павінна быць увязана з працай чырвоных куткоў, бібліятэк і іншых культурных установаў. Адным з важнейшых момантаў у правядзеньні кампаніі райком лічыць максымальнае скарыстаньне партыйных сіл і беспартыйнага актыву, дзеля чаго рэкамэндуецца абгаварваць пытаньні кампаніі на нарадах індывідуалу, групоргаў і практыкаваць мэтады індывідуальных заданьняў. Па сканчэньні кампаніі павінны падводзіцца вынікі, абавязкова ўлічваючы практыку яе у далейшым

---

# БІБЛІАГРАФІЯ

**Ем Ярославский Краткие очерки по истории ВКП(б), часть вторая, от периода ликвидаторства до наших дней Гос. Изд. Москва—Ленинград, 1928 год. Страниц 505. Цена 2 руб.**

Ад іншых кніг па гісторыі партыі гэта выданьне выгадна адрозьніваецца тым, што аддае шмат увагі разгляду сутнасьці і дзейнасьці апазыцыйных і фракцыйных групровак, якія меліся ў партыі за час ад паражэньня рэвалюцыі 1905 году і да нашых дзён.

Гэта [illegible] адпавядае патрэбнасьцям [illegible] і дапаможа многім разабрацца ў [illegible] пытаньнях апошніх часоў, чаму таксама спрыяе і метад высьвятленьня пытаньняў, якія ўжываюцца аўтарам.

Храналёгічна-тэматычнае ўкладаньне кніжкі з вельмі добрым увязваньнем папярэдняга з сучаснасьцю, трэба прызнаць адпавядаючым задачы даць глыбокага зьместу кнігу, даступную па разуменьню і мала палітычна падрыхтаваным чытачу, чаму спрыяе таксама жывая і лёгкая мова кнігі, удала выбраныя ўрыўкі з дакумэнтаў, галоўным чынам твораў Леніна, пытаньні да кожнага разьдзелу кнігі і паказальнік літаратуры.

Барацьбе з троцкізмам і высьвятленьню яго дробна-буржуазнай сутнасьці аўтарам адведзена патрэбнае месца. „Тушынскія [illegible]“ Троцкага ў гады рэакцыі, і „нефракцыйная [illegible]“, „Меньшевистская сущность“, „Августовский блок“ і лёзунг „Ни победы ни поражения“ паказаныя на фоне марксысцкі суцэльнай Ленінскай тэорыі і практыкі даводзяць ясна супроць чаго і супроць каго вёў і вядзе барацьбу Троцкі па-за межамі нашай партыі і ў нашай партыі.

Аўтарам ясна даведзена, што пытаньне адносін да сялянства, да характару Кастрычнікавай рэволюцыі, да арганізацыйнага пытаньня, да пабудовы сацыялізму ў адной краіне, да ўсяго вучаньня Ленінізму астаюцца і цяпер грунтоўнымі пытаньнямі разыходжаньня Троцкага з партыяй, як гэта было і пры жыцьці Леніна.

Мэтады барацьбы ўжываныя ў свой час Троцкім супроць партыі і Леніна астаюцца тымі-ж і цяпер і гэта даведзена па дакумэнтам.

Групоўкі пасьля Кастрычнікавага часу, апазыцыі нашых дзён, паказаны ясна і ва ўсім іх дробна-буржуазным выглядзе і сутнасьці. І гэта ўсё падаецца на грунце дакладнага апісаньня барацьбы нашай партыі за Кастрычнік, за міжнародную рэвалюцыю і сацыялістычнае будаўніцтва.

Аўтар падаў асобна ў апошніх пяці разьдзелах кнігі такія пытаньні як нацыянальная палітыка УсеКП(б), вопыт УсеКП(б), у Комінтэрне УсеКП(б) і ЛКСМБ, партыя і праца сярод жанчын, узьнікненьне і мэты контрольных камісій.

Гэта дапаможа ўсьвядоленьню чытачамі важных у гісторыі партыі пытаньняў, якія звычайна ня могуць падавацца ў адпаведным месьце тэксту кнігі поўнасьцю.

Было-б пажадана, каб у будучым выданьні некаторыя дакумэнты напісаныя цяжкаю моваю былі прыведзены, апрацаваны, гэта зрабіла-б кола чытачоў кнігі яшчэ больш шырокімі.

Пажадаем, каб „Краткие очерки“ Ем. Ярославского былі ў кожнага перадавіка рабочага і селяніна.

*Н. Ж.*

---

Адказны рэдактар *В. Кнорын*

Члены рэдколегіі { *А. Сянкевіч* / *Абрамчук* }

# З Ь М Е С Т

